З кнігі
# «СТОЙ НА ВАХЦЕ, СЭРЦА»

1961

## ЗАКОН ЖЫЦЦЯ

Дубкі дазволу не пытаюць:
іх недарэмна корміць глеба,—
ледзь-ледзь галінкі распрастаюць —
упарта цягнуцца да неба.

У хаце стала цесна дзецям,
ім не мяжа — парог дубовы:
а што там робіцца на свеце
за даляглядам паркалёвым?

Матуля! Прэч гані трывогу,
жыцця закон ужо такі:
да сонца цягнуцца дубкі
і клічуць маладых дарогі.

## СТОЙ НА ВАХЦЕ, СЭРЦА

Не распешчаны лёсам
я з малечых гадоў.
Помню, хлопчыкам босым
гоніш пасвіць кароў,
ляснеш пугай пяньковай —

аж млее рука...
Ды жалейкай вярбовай
дражню жаўрука:
— Ціву-ціў! Ціву-ціў!
Ты, браток, яшчэ жыў?

Не! Распешчаны лёсам
і ў юнацтве не быў.
Радавым я матросам
на эсмінцы служыў.
Паліняў чуб цыганскі
ад солі марской.
Боцман строгай быў нянькай
на хвалі крутой.
Несці вахту ён пільна
матросаў вучыў:
— Цішыня — вораг тыльны
і ўдзень і ўначы,
а падкрадзецца шквал,
у тры пальцы свішчы:
«Аўрал!
Аўрал!»
Як да ніткі прамок,
дык лезгінку скачы,
а саб'е вецер з ног,
ветру ўслед рагачы:
«Называешся шквал,
а не б'еш напавал!»

Развітаўся з салёнаю
службай марской,
месцам вахты працоўнай
стаў ціхі пакой.
Ні дажджоў,
ні туманаў,
ні золкіх вятроў,
ні падманных сігналаў
чужых ліхтароў;
не падкіне пад неба
тут пеністы вал...
Толькі, сэрца, не трэба
рабіць шчэ прывал.
Стой на вахце ты пільна,
як боцман вучыў:

цішыня — вораг тыльны
і ўдзень і ўначы,
а падкрадзецца шквал,
у тры пальцы свішчы:
— Аўрал!
— Аўрал!

## СТАНЦЫЯ ПАЛЕСК

Насустрач плывуць незнаёмыя рэчкі,
паселішчы, дзюны, падстрыжаны лес...
І раптам — запахла канаплямі, грэчкай,
бо ўбачыў я станцыі назву: Палеск!

Не ў пошуках хлеба, зямлі ці заробку
трапілі людзі з Палесся сюды,—
на заклік Радзімы упэўненым крокам
прыйшлі будаваць яны край малады.

Махаюць рукамі пад'ёмныя краны,—
трывала будуюць дамы — на вякі.
У скверы язмінавым з Дошкі пашаны
«Дзень добры!» ківаюць хлапцы-землякі.

І я, задаволены гэткай сустрэчай,
успомніўшы Прыпяць і вёску сваю,
купіў на дарогу празрыстых парэчак
ў жанчыны, падобнай на маці маю.

## ДЗЯКУЙ

На славу гучную прэтэнзіі не мела
сялянка-маці.
Выхоўвала сына, як умела,
у цеснай хаце:
пякучай розгаю ад веніка старога
і ласкай шчырай.
Сумленнай працай прабіваць дарогу
мяне вучыла,
казала:

— Хлеб падораны, дармовы,
не мае смаку.
Прыемна толькі ад людзей браць слова
святое — «дзякуй!».
...Гусцее за спіной гадоў суквецце.
Мне ўжо вядома,
што дарма гэта слова не даецца
нідзе нікому.
Рукой мазольнай зарабіць імкнуся
ў людзей падзяку.
За тое, што я лёсу не каруся,
матуля, дзякуй!

## СУХАР

Да чаго ж і смачны ён, сухар,
выданы руплівым старшыною,
калі скінеш ты з плячэй цяжар,
на траву прыляжаш пад сасною.

«Дзякуй!» — так і хочацца сказаць
тым рукам, што сеялі пшаніцу,
нізка, да зямлі ім пакланіцца,—
тым рукам, што сеялі пшаніцу,—
мазалі на іх пацалаваць.

## ГЕРОЙ ПРАЦЫ

Ля гумна — вясёлы перапынак.
Між мяхоў, як між курортных гор,
аб'ектыў наводзіць на дзяўчыну
абласной газеты фотакор.

Павучаюць дзеўчыну сяброўкі:
— Будзь сур'ёзнай, Люба.
— Не міргні!
І жартуюць хлопцы:
— Сажай броўкі
падвядзі...
— І на мяне зірні...

Дзе ж тут стаць сур'ёзнай, не смяяцца,
як наўкол рагоча ўвесь народ!..
Ох, нялёгка быць Героем Працы
у дзявочых васемнаццаць год!

## ДАЛОНЬ

Шурпатая ў калгасніцы далонь.
Смаліў яе мароз,
паліў яе агонь.

Па ёй, бы па анкеце, па парадку
чытай працоўнай біяграфіі пячаткі:
трэшчыны крывыя — ад зямлі,
ад цаўя матыкі — мазалі,
ад ветру — цыпкі,
плямы — ад націння,
ад граду веснавога — рабацінне,
стрэмкі — ад ячменных асцюкоў,
драпіны — ад таркі і кастрыцы.

Умее дзеўчына мазольнаю рукой
выпесціць для булак нам пшаніцу,
падтрымаць у горы дружбакоў,
а мірыцца —
дык навек мірыцца.
І не сорам для халасцякоў
гэткай вось далоні пакарыцца.

...Шурпатая ў калгасніцы далонь.

## БУДУЕЦЦА МОСТ

Чыгуннай «бабы» тулава ўзлятае
і з фырканнем б'е палю проста ў лоб,
каб тая ў грунт нагамі стала цвёрда,
каб тая не была занадта гордай,
сумленна службу несла, як салдат.
«Быкам» не трэба занізкі-маністы,
«быкам» не трэба стужкі, бранзалеткі,—

«быкам» патрэбны цвёрдыя падковы,
«быкам» патрэбна моцная спіна:
ні год, ні два, а цэлыя стагоддзі
ім, двум маўклівым волатам бетонным,
трымаць на карку палатно дарогі,
грудзьмі ўпірацца ў рэчкі плынь тугую
і трушчыць крыгі кожнае вясны.
Паважным крокам, звонкай ранняй песняй,
усмешкай і маўчаннем урачыстым
нашчадкі нашы вечна будуць славіць
садружнасць цэглы, сталі ды бетону,
стваральнай
грубай сілы
прастату.

## ЗАКАХАНЫ КАВАЛЬ

За палямі,
за лясамі,
дзе да неба мкнуцца горы,
кузні дзіўнай чутна рэха.
Гэта — казачны каваль
велізарным сваім мехам
раздзьмухае сонца-горан
і ў снягах гартуе сталь.

Працаўнік каваль заўзяты,
малады ён,
нежанаты.
Тых краёў усе дзяўчаты
чуб яго бялявы сняць.
А дзяўчат там толькі тры —
тры свавольніцы-сястры:
Зіма,
Восень
і Вясна.

Каваля яны кахаюць,
часта ў кузню заглядаюць,
стукаюць у дзверы.
Восень просіць серп скаваць,
а Зіма — сякеру.

Просьба у сястры наймешпай —
плуг зрабіць пяцілямешны.

Моўчкі хлопец серп куе,
па кавадле моцна б'е.
І заказчыца дарэмна
хоча з ім загаварыць.
Не, не любіць ён старэйшай,
толькі б серп хутчэй зрабіць,
адчапіцца ад нямілай...
І ён горан з усёй сілы
раздзімае поўным мехам,
аж ляціць па свету жар:
загараюцца палі
і ўсе дрэвы на зямлі.
Восень выскачыць: «Пажар!»
А каваль зальецца смехам.

Тут Зіма адчыніць дзверы:
— Скуй мне, золатка, сякеру,
загартуй і навастры.

Доўга хлопец раздзімае
горан поўным сваім мехам.
Сівы попел замятае
ўсе дарогі, сцежкі, стрэхі...
Але горан не гарыць.
...І сярэдняе сястры
хлопец не кахае.

Сэрцу любая адна —
яснавокая Вясна.

Варта ёй за клямку ўзяцца,—
робіцца другім каваль:
азараецца усмешкай
малады, прыгожы твар.
...Снег у полі шчэ ляжыць,
па двары мароз трашчыць,
заінелыя лясы...
Але раптам прабяжыць
над палямі,
над садамі
ветрык гэтакі ласкавы,

ветрык гэтакі рахманы,
нібы рунь палёў
і травы
прыляцеў ён калыхаць.

Ведай,—
                гэта для каханай
хлопец плуг пачаў каваць.



Пад шаты дрымотнай дубровы
не прыйдзе к нам сёння спакой.
Цябе я не бачыў ніколі такой:
вясёлай такой і такой гаваркой,
з гарачым паглядам, халоднай шчакой
і з інеем, сеўшым на бровы.

Цябе называю сястрою.
Другога імя не жадаю шукаць:
баюся каханай цябе называць,
баюся дыханнем цябе саграваць,
баюся і ў вусны цябе цалаваць,
каб ты не растала, як мроя.

Моцна за рукі трымаю,—
усю я планету магу абысці,
другой жа такой мне нідзе не знайсці.
Двойчы за лета садам не цвісці,
двойчы не будзе ніколі ў жыцці
светлага, яснага маю.

Ты свет мне адкрыла нанова.
Хачу цябе бачыць заўсёды такой:
вясёлай такой і такой гаваркой,
з гарачым паглядам, халоднай шчакой.
Таму і не прыйдзе к нам сёння спакой
пад шаты дрымотнай дубровы.



Не заўважыць пад снегам і знаку сцяжын,
на якіх мы таптaлі вячэрнія росы.
Адубелымі пальцамі тонкіх галін
ловяць снежную вату дзяўчаты-бярозы;

вяжуць з ваты карункі, каб нанач прыкрыць
на марозе азяблыя плечы і грудзі.
Але вецер-свавольнік пільнуе, не спіць,
і здзімае карункі, і цела зноў студзіць.

Ён здзімае карункі, дзярэ на шматкі
і страсае на дол ледзяны пыл іх звонкі.
А дзе ўпалі шматкі — нам з табой на вянкі
летам вырастуць зорныя кветкі-рамонкі.



Вось шаблон дзе — закаханых звычкі:
цісвуць рукі, уздыхаць, маўчаць.
...Нас пераганяюць электрычкі,
смела ў цемру ночы грукацяць.

Тэхніка! Яна чакаць не хоча,
не марнуе юны свой запал.
Рвецца ўдаль, калоціцца, грукоча
розумам ажыўлены метал.

Хутка ўжо ў густую ноч Сусвету
ад зямных шасці мацерыкоў
дзіва рукатворнае — ракета
панясе на крылах смельчакоў.

Касманаўты — людзі маладыя,
ну якраз як мы з табой цяпер,—
на планеты везучы чужыя
хараство Зямлі і наш давер,

не забудуць перанесці звычкі
закаханых — уздыхаць, маўчаць...
...Нас пераганяюць электрычкі,
смела ў цемру ночы грукацяць.



— Ну а што суседзі скажуць? —
ты спалохана пытаеш,
у пад'ездзе свайго дома
цалаваць не дазваляеш,
перад самым маім носам
дзверы зачыняеш.

«Ну а што суседзі скажуць?»
Аж да самага світання
не магу знайсці адказу
я на гэтае пытанне.
Што ж прыдумаць, што прыдумаць?
Падкажы, каханне.

Ну а што суседзі скажуць,
як чаромхавай вясною
падніму цябе на рукі
над планетай маладою
і гукну: «Зямля, любуйся
жонкаю маёю!»

## У ДОЖДЖ

Наляцеў,
засыпаў спорны дождж такі,—
апусцеў
раптоўна парк наш гарадскі.
Пад каштан,
як пад прамоклы парасон,
хлопец стаў,
чакае любую тут ён.
Ля ствала —
сухога месца пятачок.
Эх, дарма
пакінуў дома пінжачок..
Дождж пракляты
не спыняецца, сячэ,
за каўнер
вада цурком ужо цячэ

Хай жа будзе
хоць па шыю тут вада —
дачакаецца,
бо слова любай даў!
...Праз акно
мы на хлапца таго глядзім.
— Ці даўно,—
кажу,— і сам быў вось такім.
Паўтарыла
жонка ціха: — Ці даўно...
Расчыніла
ветру майскаму акно.

## СЁСТРЫ

На палянцы зацішнай
у родным бары
прараслі з адной шышкі
дзве сасны,
дзве сястры.

Адна нейкай крывою,
нязграбнай расце,
а другая стралою
ідзе — аж гудзе.

Прыгажуня!
Ёй роўнай
няма ў тым бары.
Разглядае стан стройны
ў люстэрку зары;

падстаўляе гулліва
ветру пасмы: «Чашы!
Намачыў іх мне лівень,
а ты прасушы».

Сонца ў бор той загляне,—
сонцу вокам міргне:
захачу, моў, і станеш
свяціць толькі мне.

І суседкам дарыла
усмешкі ў бары.
Адно не любіла
калекі-сястры.

Вечарамі бурчыць:
«Мне заснуць не даеш».
Раніцою крычыць:
«Соку многа ты п'еш.

Многа п'еш, не расцеш,
усё круціць цябе,
па нагах голлем б'еш,
мне фігуру псуеш...»

Напаказ выстаўляла
сваю прыгажосць.
...А крывая маўчала,
глытаючы злосць.

Ды аднойчы з'явіліся
людзі ў бары.
Дзятла стук заглушылі
сябры-тапары.

Лесарубы спяваюць
пра мір і спакой,
на зямлю з ног збіваюць
сасну за сасной.

Працуюць на славу,
аж стогне той бор.
Падышлі неўзабаве
яны да сясцёр.

Прыгажуню пастукаў
адзін тапаром:
— Аж звініць! Вось дзе штука —
бэлька добрая ў дом!

І ўраз скрыгатнула
піла па кары.
Прыгажуня ўздрыгнула,
хутчэй да сястры:

— Ратуй! Паміраю.
Сястрычка, ратуй!
Я жыць так жадаю,
мяне пашкадуй!

Слязою застыла
на снезе смала...
І рукі худыя
калека ўзняла.

Рукі, што некалі
ногі сцябалі
і прыгажуні
фігуру псавалі...

І тымі рукамі
нязграбна, ды міла,
нібы абцугамі,
сястру абхапіла.

Глядзяць лесарубы:
сасну не зваліць.
— Што ж, трэба на згубу
крывую пілiць...

Зноў скача зубамі
піла па камлі,
апілкі слязамі
на снег пацяклі.

І рэхам боль востры
па лесе прабег,
як грымнулі сёстры
ў абдымку на снег.

## У САДЗЕ МАЛАДОСЦІ

Знаю: не паўторыцца ў жыцці
песня, што ў былое адплыла.
Ды не мог, не мог я не зайсці
ў сад, дзе маладосць мая цвіла.

А зайшоў — не мог не пасядзець
на адхоне пад густой вярбой,
не прыпомніць той ліпнёвы дзень,
калі мы сустрэліся з табой
і вясельных чарак пераэвон
чулі ў салаўінай балбатні...

Ты чаго ўсміхнуўся, хмуры клён?
Можа, ўспомніў іншыя ўжо дні?
А мо сведкай новых быў падзей
і цяпер вось думаеш: «Дзівак,
як пасля другі з ёй тут сядзеў,
каб ты ведаў, ці тужыў бы так?»

Не міргай разлучніцы-вярбе,
не хавай усмешку ў бараду —
знаю ўсё я, знаю без цябе...
Ды не раз яшчэ сюды прыйду.

Знаю: не паўторыцца ў жыцці
песня, што ў былое адплыла,
але ўсё ж прыемна так зайсці
ў сад, дзе маладосць мая цвіла.

## ЧАРНІЦЫ

### Лірычнае апавяданне

У вёдрах,
кошыках
і скрынках,
ледзь сонца ўстане з-за гары,
нясуць калгаснікі на рынак
лясоў багатыя дары:
маліну,
зорныя суніцы,
тугіх парэчак шрот буйны
і сакавітыя чарніцы
з прыемным водарам лясным.

Чарніцы!
Дымныя чарніцы —

краса наднёманскіх лясоў,
з якой, скажыце, вы крыніцы
пілі свой жыватворны сок?
Даруйце,
што калісьці з вамі
не ў дружбе жыў,
цаніць не мог,
таптаў вас босымі нагамі
у цеплаваты мокры мох,
злаваўся,
што вы рот чарнілі,
што кіславатыя на смак...
Аб вашай жыватворнай сіле
не ведаў я тады, дзівак.
І толькі ў партызанскім лесе
вас палюбіць змог шчыра я.

...Была ў атрадзе ў нас Алеся —
сяброўка лепшая мая.

Падрыўнікі зімовым ранкам
з задання сумныя прыйшлі,—
Алесю са смяртэльнай ранай
яны няслі
на шынялі.

Зламаны ліўнем цвет каліны
без часу вяне над ракой...
Алеся!
Любая дзяўчына!
Ну што рабіць цяпер з табой?
Што даць табе, каб сэрца біцца
не перастала?..
Чым жывіць?

І чую шэпт:
«Глядзі — чарніцы
паспелі... Дай мне... дай чарніц...»

А на двары — завея вые
у сто трывожных галасоў,
пакрылі гурбы снегавыя
багацці шчодрыя лясоў...

— Чарніцы, кажаш? —
і маланкай
каня свайго я асядлаў,
марознай ноччу праз дзялянку
паехаў проста да сяла.
У вокны грукаў,—
хат старэнькіх
трашчалі дошкі аканіц.
— Мо, цётка,
ёсць у вас хоць жменька,
хоць жменька сушаных чарніц?!

Маўчалі нема аканіцы.
Імчаў далей.
Зноў грукатаў...
Лясныя ягадкі — чарніцы,
за вас бы я жыццё аддаў...

Нарэшце цётка мне сказала
спагадліва: «Сынок, зайдзі».
Мяшэчак вузкі развязала,
сыпнула на руку.
«Глядзі,
такіх чарніц няма ні ў кога,
шчэ даваенныя... Сама
сушыла... для свайго малога...
Цяпе ужо яго няма...
Няма Мікіткі...»
І слязінка
упала ў ягады.
«Бяры,
бяры ты ўвесь мяшэчак, сынку,
кампоцік хвораму звары.
Хай ачуняе ваш салдацік...»

Я цётку добрую абняў,
у лоб маршчыністы, бы маці,
з удзячнасцю пацалаваў.

Чарніцы!
Дымныя чарніцы —
краса наднёманскіх лясоў,
з якой, скажыце, вы крыніцы
пілі свой жыватворны сок?

Нясуць,
нясуць вас з рынка людзі
у слоіках,
кульках з газет.
Адзін варыць варэнне будзе,
другі з'есць з цукрам у абед.

У нас жа будзе сёння свята.
Пад поўных чарак перазвон
напоўнім мірную мы хату
зноў славай партызанскіх дзён.
Прыпомнім маладосць былую,
успышкі баявых зарніц...

І знаю: жонка пацалуе
за жменьку сушаных чарніц.

## З кнігі
# «РОСНЫЯ ЛІЛЕІ»

1965

### МАКІ

Як новага дня агнявую зару,
чырвоныя макі ў букет сабяру,

істужкай звяжу, пакладу на акно
табе, маёй любай, жаданай, адной,

каб ведала ты, што не толькі здаля —
і зблізку прыгожая наша Зямля;

каб верыла ты ў бессмяротнасць жыцця,
бы ў колер пялёсткаў — наш сонечны сцяг;

каб помніла тых, хто гарачай крывёй
сплываў, дзе мы сёння гуляем з табой.

### ЛЯСНЫЯ МАГІЛЫ

Росы, як слёзы мінулае ночы,
смуткам павіслі на вейках травы.
Саванам дзёран ухутаў грудочкі
з глеем і гліцай змяшанай жарствы.

Колькі іх — ціхіх, журбой зацярушаных?
Цяжка злічыць — зараслі, апаўзлі...
Колькі тут русых ляжыць беларусаў
ў роднай зямлі?

Мы не лічылі.
За дротам калючым
мёртвым быў рай. Данімала жывых
здань, што лятала ў паветры смярдзючым,—
тыф.

Здані той страшнай панурыя цені —
людзі не людзі, звяры ад звяроў —
ў шэрым абрыдлым фашысцкім адзенні
споўдалі ўсюды,
прастрэльвалі роў.

Вылі аўчаркі на хмурае неба,
вязням прарочылі вечны спачын.
Просьбы нямыя: «Мамачка, хлеба!» —
рвалі збалелыя сэрцы жанчын.

Тыф клаў прытном.
А смерць выбірала
самых слабейшых — дзяцей-немаўлят.
...Гэта на іхніх магілачках ранніх
росаў так шмат.

Росы, як слёзы мінулае ночы,
высушыць сонца на вейках травы.
Сэрцы ж ахвяр у стагоддзі стукочуць,
будзяць жывых,
заклікаюць жывых —
мір берагчы на планеце абжытай!

## КАСТРЫ

*М. Ц. Лынькову*

На сінім узлеску смаляк гарыць.
Пакуль не ўзмахне светлым крыллем зара,
мы будзем сядзець ля кастра,

з маршанскай махоркі цыгаркі курыць
ля мірнага будзем кастра.

А памяць не хоча драмаць і тады,
калі засынаюць бары,
а памяць свае пакідае сляды...
Яна ўваскрашае другія кастры:
вёскі гарадь,
гарадь гарады,
паромы гарадь на Дняпры.

Я знаю: не лёгка нясці праз гады
усё гэта ў сэрцы адным:
пажараў дым,
будоўляў дым,
дзіцячы плач
і танка сляды...

Усё гэта ў сэрцы адным
не лёгка нясці праз гады
і быць душой маладым.



На аб'яве — сонца,
а на промнях — ноты,
а на нотах — птушка,
а над птушкай — тэкст:
«У нядзелю танцы
на Цэнтральнай плошчы.
Юнакі, дзяўчаты,
запрашаем вас!»

Дзякуй табе, птушка!..
Дзе ж была раней ты,
як дзяцінства сцежкай
бег я на бальшак —
на бальшак юнацтва,
песень, летуценняў,
на бальшак вясенні
бег
і не дабег.

Не было салоўкі,
і наперад клікнуў
у паход суровы
крэйсера гудок.
Падарыў мне боцман
гарнітур па росту —
моцную марскую
робу з палатна.

Выбіваў я пошчак
кованым абцасам
па крутому трапу
то наверх,
то ўніз.
А затым са швабрай
весела кружыўся —
палубу да бляску
драіў-выціраў.

Мо таму сягоння
над галоўкай сына
меддзю карабельнай
сонца зіхаціць,
што ў гады юнацтва
міма танцпляцоўкі
крокам страявым я
ў шынялі прайшоў.

...На аб'яве — сонца,
а на промнях — ноты,
а на нотах — птушка,
а над птушкай — тэкст:
«У нядзелю танцы
на Цэнтральнай плошчы.
Юнакі, дзяўчаты,
запрашаем вас!»

## ПЯЦЬ ХВІЛІН ДА СВІТАННЯ

Па-пластунску
паўзе
па лагчыне
туман

між заспаных кустоў
перадроглай ракіты,
падкрадаецца ярам
да ціхіх палян,
дзе стаяць,
пысы ўзняўшы высока,
ракеты.
Праясняецца ўсход —
пачынае світаць.
Дзень
трывожную азбуку зорак
патушыць.
Вартавы на пасту.
Вочы пільна глядзяць,
аўтаматныя дыскі начынены туга.
Пяць хвілін да світання...
Прэч, сон і спакой!
За плячамі — планета
прыціхла ў чаканні.
...У такую вось ноч
стаў салдат сіратой
пяць хвілін, пяць хвілін да світання...

## Я НАРАДЗІЎСЯ Ў ВЁСЦЫ МАРС

Нямала вёсак ёсць у нас,
нямала ёсць у вёсак назваў дзіўных.
Пад Жлобінам,
у вёсцы Марс
я нарадзіўся.
Адкуль такая назва?
Даўніны
не варушыў я — прызнаюся шчыра,—
ды знаю:
крыважэрны бог вайны
тут не прычына.
Прыгнуты да зямлі
работаю зямной,
да войнаў і разбою не ахвочы,
відаць,
глядзеў далёкі продак мой
у будучынь прароча.

Ён верыў:
скончыцца пакуты век,
ён ведаў:
у руках працоўных сіла.
Ён марыў:
вольнай працы чалавек
набудзе крылы.
Мы сёння сведкі явы, а не мар:
лятаць па-над Зямлёй —
для нас не дзіва,
ляціць ракета
на планету Марс.
...У вёсцы Марс
я нарадзіўся.

## НАМ ПАТРЭБНЫ ЯГО ПАРТРЭТЫ

Не трэба яму
ані мармур,
ні бронза,
ні пліт надмагільных каменны цяжар.
Навошта паэту
усе гэтыя дробязі,
калі ёсць вялікая кніга — «Кабзар»?!
Калі ёсць
жывыя радкі «Запавету»,
не трэба
ні бронза,
ні мармур,
ні медзь.
А нам жа патрэбны
Шаўчэнкі партрэты,
каб нашыя душы
не сталі чарсцвець,
каб сэрцы не млелі
ад слодычы лёстак,
каб вочы не слеплі
ад дыму кадзіл,
каб рук не звязалі
кайданы паклёпу,
каб вецер анафемы
кроў не студзіў.

Прайшоў праз усё,
а з дарогі не збочыў
сям'і нашай вольнай
сын родны — Тарас.
З-пад выцвілых броў
яго ясныя вочы
глядзяць
без дакору на нас.
Ёсць помнік — «Кабзар».
І яму больш не трэба,
звыкламу, крочыць дарогай нягод.
А нам жа патрэбны
Шаўчэнкі партрэты,—
мы хочам падобнымі быць да яго.

**КАЛАМЫЙКІ**

*Памяці Ю. Мельнічука*

Сонца садзіцца за сінія горы,
за сінія горы.
П'юць хлопцы з крыніцы—размочваюць горлы,
размочваюць горлы.
Размачылі,
кашлянулі —
захісталіся смярэкі [1],
каламыйкі зацягнулі —
паланінай [2] коціць рэха:
— Ой, дай божа здароўечка
хлопцам і дзяўчатам!
Ой, дай божа здароўечка
у кожную хату!

Гэта толькі запеў — запрашэнне сціплае,
а за ім, як бомба, выклік на дасціпнасць,
галасістасць:
— Як я толькі заспяваю,—
ўскалыхнуцца сёлы.

---

[1] Смярэка — елка, яліна.
[2] Паланіна — высакагорныя лугі ў Карпатах.

Да мяне ляцяць дзяўчаты,
як на квецень пчолы.

І дзявочы голас звонкі
пацягнуў далей пляцёнку:
— Ой, што гэта за хлапчына
дужа расхадзіўся,
ці не той, што з касой
на пакос зваліўся?

Гэтым зуха не збянтэжыш,
ён адказ адразу рэжа:

— Я не ўмею касіць,
сена ў копы класці,
толькі з гаю выглядаю,
дзе б дзяўчыну ўкрасці.

Маладзіца-удавіца
прабіваецца у круг,
ёй у хаце не сядзіцца,—
рутай-мятай пахне луг.

— Ой, трымайце — упаду,
дзевачкі-падружкі.
Я ж такое завяду —
мёртвага узрушыць.

Кахай мяне, мой міленькі,
кахай мяне, любы,
у мяне прыгожы стан,
салодкія губы.

Эх, ці пан — ці прапаў!
Як у вір галавой,
кінуўся хлапец у спрэчку
з языкастай удавой:

— Села шэрая зязюля
на гары высокай.
Глянь, бяззубая бабуля
пусцілася ў скокі!..

Наступае удава —
разбітная галава:

— Ой, у полі на таполі
сарока стракоча.
Хто сказаў вам, што старая
танцаваць не хоча?

Я хадзіла па садочку,
яблычкі зрывала,
маладзенькім парубкам
цераз плот давала...

Каламыйкі завяліся,
і цяпер іх не суняць!
Песні ў такт
зялёным лісцем
вербы ніцыя шумяць,
вербы ніцыя шумяць,
слёзы льюць на скалы.
Там, пад скаламі, ляжаць
хлопцы-запявалы —

хлопцы дасціпныя,
хлопцы задорныя,
хлопцы галасістыя,
дваццацігадовыя.

Ім бы песні спяваць,
не пад муравой ляжаць;
ім бы ў танцы кружыцца,
а не спаць у зямліцы;

ім бы з дужых плячэй,
з маладзецкіх грудзей
скінуць скалы-абеліскі,
сваіх суджаных абняць...

А над імі чорным лісцем
вербы ніцыя шумяць.
Вербы ніцыя шумяць...
Каламыйкі звіняць...

І на спеў
блакітны ранак
па адгор'ях бяжыць.
. . . . . . . . . . . . . . .

Запявалы паміраюць,
песня ж
вечна
будзе
жыць!

## РОСНЫЯ ЛІЛЕІ

Пад крыламі ніцай
лазовай смугі
хавае Старыца
свае берагі.

Прыйдзі ты сюды
па расе на зары,
густыя кусты
лазняку прадзяры —

і ўбачыш тут дзіва:
на чорнай вадзе
сузор'і імкліва
запальвае дзень,

сузор'і купчастых
і росных лілей.
Пялёсткі іх частыя
снегу бялей.

Табе не трымаць
тыя кветкі ў руках,—
ім добра ляжаць
на лістах-паплаўках.

Ім добра з прадоннем
заспаным дружыць,
дзе можна спакойна
бутоны раскрыць...

Калі яшчэ казкі
забыў ты не ўсе,
прыйдзі, калі ласка,
сюды па расе.



Ідуць рабочыя на пенсію,
салдат звальняецца ў запас...
А для людзей
маёй прафесіі
не наступае гэты час.
Як хлебароб
зямную працу
да скону
на плячах нясе
(«Хоць паміраць ты і сабраўся,
а жыта сей!»),
так і паэт —
заўжды ў паходзе,
заўжды ў страі,
заўжды ў баі,
заўжды ў даўгу перад народам;
ніхто яму не скажа «годзе!»,
хоць працаваў бы за траіх.
Адказны ён
за лёс планеты,
найпрыгажэйшай між планет.
І разгадаць жыцця сакрэты
імкнецца ўсё жыццё
паэт.
Ён падзяляе
радасць,
гора
сваіх братоў — людзей Зямлі.
Ён разам з імі
рушыць горы,
ляціць да зор на караблі.
І плача з імі,
і смяецца,
ідзе за імі,
іх вядзе.
Надыдзе смерць,
а ўсё здаецца —
зрабіў так мала для людзей.
І як ні пяўся,
ні стараўся,—
не вычарпаць да дна душы:
хоць паміраць ты і сабраўся,

а ўсё ж пішы!
І, верны сын
                    сваёй прафесіі,
сустрэне ў працы судны час.
Не!
Песня не ідзе на пенсію
і не звальняецца ў запас.

## ЭЦЮД

Крыга чорная парома
ціха дрэмле на Дняпры.
Колер лугу — вокіс хрома,
ў небе — кінавар зары.

Кружыць качка над затокай,—
зараз плюхнецца ў чарот.
Беразняк на ножках тонкіх
скача з горкі за гарод.

Там — густой ліствы шаптанне,
водар мяты,
ціша,
змрок;
там — для сэрцаў закаханых
неразгаданы куток.

## ЧЫСЦІНЯ

З узгорка
              ў нізіну,
з нізіны
              на ўзгорак
нас лыжня вядзе
скрозь маўклівасць змяркання.
Твой смех — нібы снег:
у яго ты угортваеш
пачуцці свае
і мае парыванні.

І лёгка ісці нам
па грэшнай зямлі,
калі столькі многа наўкол цішыні,
а ў сэрцах — затоенай цеплыні,
а ў думках — святой чысціні.

## ЦЯПЛО ЎСМЕШКІ

Сіберны вецер да касцей праймае.
Прахожыя ідуць, падняўшы каўняры.
Адну дзяўчыну холад не скарыў,—
ідзе з усмешкаю, шчаслівая такая.

Зірнуўшы на яе, і малады й стары
прыцішвае хаду і плечы развінае,
і больш не хмурыцца,
і раптам заўважае:
прыгожыя прысады ў серабры!

І я падумаў: калі б шчодра гэтак
адзін другому людзі ўсяго свету
цяпло сваёй душы дарыць маглі,—

растаў бы снег і ледзяныя горы,
і не было б ніколі на Зямлі
самоты, крыўды, зайздрасці і гора.

## ПРАЛЕСКА

Са спазненнем шызы іней
на адхон упаў з разбегу,—
пот зямлі пралескай сіняй
выбіцца паспеў з-пад снегу.

І растаў халодны іней
каля ног пралескі сіняй.

## ГРЫБЫ

### З народнага

Хмару вецер выгнаў з-за бору,
хлынуў дождж, нібыта з вядра,
і вылазяць з зямлі мухаморы —
надыходзіць грыбная пара.

А дзе ж баравік?
Быў ён і знік.
А дзе ж казлякі?
Уцяклі да ракі.
А дзе ж лісічкі?
Шыюць спаднічкі.
А дзе ж грузды?
Шукаюць вады.
А дзе ж абабкі?
Згубілі шапкі.
А дзе ж ваўнянкі?
Пабеглі з палянкі.
А дзе ж апенькі?
Мыюць сукенкі.
А дзе ж падасінавік-пан?
Пайшоў ён у рэстаран,
будзе піць там гарэлку-атруту,
праклінаць свой няўдалы лёс,
што жыве ён раздзеты, разуты,
пралівае шмат горкіх слёз.

Прыбяжыць баравік:
— Ідзі дамоў!
— Не пайду...
Прыбяжыць казляк:
— Ідзі дамоў!
— Не пайду...
Прыйдзе важны грузд:
— Ідзі дамоў!
— Не пайду...
Загляне абабак:
— Ідзі дамоў!
— Не пайду...
Прыбягуць хітрыя лісічкі,
распусціўшы спаднічкі,

абсядуць пана:
— Які ж пан рахманы
і зусім не п'яны,
толькі вясёлы-вясёлы,
жартаўнік, як ніколі.
Раскажы нам, пан,
дзе купіў ты жупан,
дзе вучыўся так дасціпна трымацца,
так прыгожа ўсміхацца?..
Калі тут пану нязручна,
мы праводзім яго дамоў,
да яго каханай жонкі,
да любімых сыноў.
І скажа падасінавік:
— Так і быць!
Буду з вамі дружыць.
І пойдзе дамоў
да сваёй жонкі каханай,
светлавокай пані,
да мудрых сваіх сыноў.

## ЧАМУ Я ХАТУ ПАБЯЛІЛА

### З народнага

Я ж учора ў лес хадзіла па апенькі,
там сустрэў мяне ляснік маладзенькі.
        Цыц, сяброўкі, памаўчыце
        і нікому не кажыце:
                                        ...маладзенькі.
Прывітаўся, усміхнуўся, даў дарожку
і навекі маё сэрца растрывожыў.
        Цыц, сяброўкі, памаўчыце
        і нікому не кажыце:
                                        ...растрывожыў.
Ні апенек, ні ваўнянак не шукала,
пад ляшчынай лесніка цалавала.
        Цыц, сяброўкі, памаўчыце
        і нікому не кажыце:
                                        ...цалавала.

Вось чаму я пабяліла сваю хату,—
ён сказаў мне, што ў суботу прыйдзе ў сваты.
Ой, сяброўкі, не маўчыце,
усім людзям раскажыце:
...прыйдзе ў сваты.

## КНЕХТЫ

Я раскажу,
як адліваюць кнехты —
трывалейшыя рукі карабля.
...Коўш трохпудовы
нахіляе з крэктам
ліцейшчык,
сам мурзаты,
як зямля.
Метал сіпіць —
не хоча ліцца ў форму,
не хоча
строгай формы набываць,
чырвоны —
не жадае стаць ён чорным,
гарачы —
ён не хоча астываць,
нібыта
толькі ў тым яго прызванне,
каб разлівацца вогненнай ракой.
А заўтра ж ён
на месца сваё стане
на борце карабля.
І зноўку неспакой.
І церці будуць
да крыві швартовы
не год,
не два —
і ўсё ж не пецятруць!
І хвалі
будуць біць —
у нас паход суровы!—
ды не саб'юць
і нават не сагнуць,

бо ён — метал,
халодны,
цвёрды,
чорны.
А форма?
Зместу ёй адпавядаць:
няма ў тым сэнсу,
што не мае формы;
без формы ўсё,
ў чым сэнсу не відаць.

## РАКСАСА — СЫН ГОР

### Легенда

Легенды жывуць, і таму я ім веру.
На Яве вулкан ёсць пад назвай Семеру.
Стаіць непрыступным ён тысячы год,
попелам схілы пакрыты яго.

Калісьці Семеру быў бог знакаміты,
меў радасць — дачку-прыгажуню Джувіту
са станам, якому зайздросціў бамбук,
з тварам ружовым, як спелы джарук [1].

Аднойчы дзяўчына сышла ў даліну,
сустрэла ў даліне Раксасу-хлапчыну,
на шчасце ці мо на бяду — скуль ёй знаць?
Трэба ж сустрэчных заўсёды вітаць.

— Дзень добры, шаноўны! — Джувіта нясмела
вітанне звычайнае хлопцу прапела,
хіснулася, нібы пад ветрам трыснік,
сэрца samлела, адняўся язык.

Раксаса — сын гор, незвычайны асілак,
і кроў — не вадзіца — цякла ў яго жылах,
лавіць не баяўся пантэру за хвост,
быў небяспечны яго толькі ўзрост,—

---

[1] Джарук — явайскі апельсін.

як глянуў Джувіце ў раскосыя вочы,
аддаўся ў палон прыгажосці дзявочай,
шаптаў на-малайску адно ён: «Люблю,
ты засланіла мне сонца, зямлю!»

Раксаса быў хлопец наіўны не ў меру.
Назаўтра пайшоў ён да бога Семеру
і выклаў начыста намер добры свой:
«Мой бог, парадніцца хачу я з табой».

Зірнуў багацей на хлапцовы апраткі:
дзірка на дзірцы ды латка ля латкі.
— Які ж, галадранец, дасі мне калым? —
крыкнуў ён басам сваім грамавым.

— Калым? Ён пры мне — мая сіла, адвага.
І я абяцаю табе пад прысягай:
усё, што мне ты загадаеш, зраблю.
Моцна Джувіту, павер, я люблю.

За лесам дыміўся вяршыняю Брома —
вулкан, чый уздых мацней буры і грому.
Стагоддзі не ведаў ён сну і спакою,
нішчыў навокал сябе ўсё жывое.

— Пяску акіян,— кажа хлопцу стары,—
да пеўняў насып каля схілаў гары,
і будзе Джувіта жонкай тваёй.
Здужаць не зможаш — сам станеш гарой.

Згадзіўся Раксаса. Вялізны ўзяў батак [1].
Пясок з дзюн прыморскіх насіў ён заўзята,
стараўся, спяшаўся Джувіту абняць...
Кошык апошні сагнуўся набраць.

А хітры Семеру сачыў за работай,—
дачку аддаваць за хлапца неахвота,—
і ён у куратнік стралой сігануў,
соннага пеўня за хвост пацягнуў.

Спуджаны з седала той недарэка
грымнуў не ў пору сваё «кукарэку»,

[1] Батак — кошык.

хаця яшчэ ўсход не свяціўся зарой...
Зрабіўся Раксаса халоднай гарой.

Такая легенда. Казалі ў народзе:
пройдзе мо тысяча тысяч стагоддзяў,
устане Раксаса, спіну развіне,
шчасце і мір прынясе старане.

Жадаю працоўным я вострава Явы,
каб іхняя мара зрабілася явай:
прачнуўся Сын гор і падняўся народ,
скінуў з плячэй пракаветны прыгнёт.

## SOS!

На моры шторм.
Разбіты дзікім шквалам,
нарвежскі цеплаход «Ісус Хрыстос»
шле ў пустату трывожныя сігналы:
тры кропкі, тры працяжнікі, тры кропкі —
SOS!

На моры шторм...
Як ніткі, рвуцца ванты.
Трашчыць абшыўка,— вырашаны лёс:
рукой кашчавай смерць з апошняй здыме
вахты.
SOS!
SOS!
SOS!

На моры шторм...
Радыст — не салажонак,
праз буры ўсіх шырынь душу сваю пранёс,
але і ён не верыць, што прышле ратунак
вось гэты лямант у прастору — SOS...

Тры кропкі, тры працяжнікі, тры кропкі...
Да хрусту сціснута галоўка тэлеграфнага ключа.
Канец?
Канец!..
Не хочацца ісці да продкаў,
дзе — ні віна, ні рому, ні дзяўчат...

На моры шторм...
Як ванты, нітачкі спадзевак рвуцца...
Радыст не знаў,
што курс змяніў савецкі рудавоз,
бо ў светлай рубцы хлопец русы,
хлопец рускі
пачуў ягоны прадсмяротны выкрык —
SOS!

І шлюпкі з рудавоза падаспелі.
Радыст не чуў, намёртва да ключа прырос
і слаў у пустату, ад страху звар'яцелы,
тры кропкі, тры працяжнікі, тры кропкі —
SOS!

Яго сілком ледзь выцягнулі з рубкі,
калі пад хвалямі знікаў «Ісус Хрыстос»,
і ў непрытомнасці ён галавою адбіваў па
борце шлюпкі
тры кропкі, тры працяжнікі, тры кропкі —
SOS!..

## З кнігі
## «НАСТОЙ»

1968

### АБЕЛІСК

**Вянок санетаў**

**1**

На скрыжаванні гулкіх дзвюх дарог
сыходзяцца з дажджамі сонца промні.
Удоўж і ўпоперак гуляюць проймы,
згінаюць долу кветкі і быльнёг.

Сляды фурманак і дзіцячых ног
зямля трымае на сваім улонні.
Тут кожная пясчынка добра помніць
раскаты перуноў усіх эпох.

Расою плачуць травы, нібы ўдовы,
ды з мудрасцю дзядоў сівагаловых
сядзяць каля абочын валуны.

Сляды чужынцам не былі адкрыты.
Аб гэтым моўчкі сведчаць курганы,
што славай і жалобаю спавіты.

**2**

І славай, і жалобаю спавіты
легенды, што з вякоў данёс народ
пра нейкі там на полаўцаў паход,
пра подзвігі асілкаў старажытных.

А тут жа блізка — сорак першы год...
Слязамі і крывёй дзяцей заліты
і па-сапраўднаму яшчэ нікім не біты,
шалёны фюрэр рваўся на усход.

Ён марыў пра Маскву і Ленінград
і не чакаў сустрэць супраціўленне
ля вёсачак, нічым не знакамітых.

Пад ганаровай вартаю прысад
у кожным беларускім пасяленні
стаіць гранёны абеліск гранітны.

**3**

Стаіць гранёны абеліск гранітны,
вартуе пабрацімаў вечны сон,
прахожаму здалёку ён відзён
на светлым фоне цішыні блакітнай.

Не захавалі нам нямыя пліты
нічога, апрача саміх імён.
Напластаваннем новых дат і дзён
пачуцці, думы воінаў прыкрыты.

А кожны з іх не толькі быў салдат,
а нечы бацька, сын, ці муж, ці брат,
ці проста самы блізкі друг сардэчны...

Іх нездарма хавалі ля дарог:
вандроўнікі тут слухаць будуць вечна
кароткага жыцця бясконцы эпілог.

**4**

Кароткага жыцця бясконцы эпілог
уславяць раманісты і паэты,
і намалююць мастакі партрэты
са здымачкаў, што цудам час збярог.

Тады ж байцы не думалі пра гэта.
Фашызм, як ненажэрны той Малох,
пераступіў свяшчэнны наш парог
і пагражаў заліць крывёй планету.

І не магло быць іншага рашэння,
чым тое, што падказана сумленнем:
памерці, а свабоду адстаяць!

Нашчадкамі героі не забыты:
на плошчах манументы ім стаяць.
Не! Недарэмна кроў была праліта!

5

Не, недарэмна кроў была праліта —
мы выстаялі, мы перамаглі,
змялі чужынцаў са сваёй зямлі,
дабраліся да логава бандыта.

І зведаў пераможаны Берлін
святы наш гнеў, святую нашу літасць:
не толькі помсціць за сяброў забітых —
жывых сяброў мы ратаваць ішлі.

І тых, каму па сёння шчэ карціць
паклёпамі гісторыю зацьміць,
спытаем:
калі б нашыя салдаты
адвагаю сваёй у сорак пятым
фашысцкі не раструшчылі бярлог, —
развеяўся б туман цяжкіх трывог?

6

Развеяўся туман цяжкіх трывог.
Заззяла мірна сонца ў небе сінім.
Былыя воіны лугі касілі,
на скібы рэзалі дзірван аблог.

Мы клалі на святочны стол Радзімы
пасляваенны першы свой пірог,
калі на сэрца цень злавесны лёг
ад атамнага грыба Хірасімы.

Падманная заўжды ты, цішыня!
Ніколі глыбіня і вышыня
не змогуць прымірыцца між сабою,
нібы рака і стромісты парог...

Было нам бачна: прагне свет спакою,
акопы рупна заарэ нарог.

7

Акопы рупна заараў нарог,
прабітыя ў зямлі сатлелі каскі,
жалезныя крыжы, падковы, спражкі,
дзе фарысейскі надпіс: «З намі бог!»

Трагедыі камічная развязка:
ад смерці бог фашыстаў не збярог,
хоць позна, разгадаў усё ж падлог —
убачыў іклы пад авечай маскай.

Месіі крывадушныя! Нямала
урокаў вам гісторыя давала,
а вы ўсё марыце кагосьці «вызваляць».

Ды карта ваша зноўку будзе біта.
Аб гэтым пушчы грозныя шумяць,
спявае-даспявае ў полі жыта.

8

Спявае-даспявае ў полі жыта
на месцы, дзе кіпеў крывавы бой.
Прыйдзі на золку і пагладзь рукой
зямлёй і сонцам каласок наліты.

Не проста хараство перад табой,
а наша гордасць, скарб наш і набытак,
ён працай рук натруджаных здабыты,
нялёгкай і упартай барацьбой.

Таварыш хлеб, надзённы, аржаны,
ты быў ласункам нам у час вайны,
ды і пасля... Мы добра гэта помнім.
На глум не аддадзім свае палі
ні атамнай, ні вадароднай бомбе!
Сыны ўзмужнелі, ўнукі падраслі.

9

Сыны ўзмужнелі, ўнукі падраслі —
атожылкі няскоранай дубровы.
Не толькі вочы, валасы ды бровы
у спадчыну ад продкаў мы ўзялі:
сцяг пурпуровы,
водар чабаровы,
смугу ялін,
бязгрэшны пал раллі,
садоў наліў
і смелых дум разліў,
і цвёрдасць мускулаў,
і дух здаровы.

А перш за ўсё нам зведаць выпаў лёс
боль і тугу, салёны прысмак слёз,
сіроцтва горкі палыновы дым.

Перажылі мы гора-ліхалецце,
з руін паднялі вёскі, гарады,
найлепшы лад будуем на планеце.

10

Найлепшы лад будуем на планеце —
братэрства, праўды, шчасця, дабраты.
Дзе голле ўсыпала густая квецень,
даспеюць там крамяныя плады.

Бягуць гады па лесвіцах крутых
на перавал вятрысты паўналецця.
Галоўныя, адказныя пасты
ля пультаў хутка зоймуць нашы дзеці.

І мы падчас трывожымся: яны
то вузяць, то расклёшваюць штаны,
дык, значыць, і галовы іх пустыя?..

А хто арэ арцельныя палі,
кілім зялёны сцеле у пустыні
і смела ў космас водзіць караблі?..

11

І смела ў космас водзяць караблі
Савецкае Дзяржавы грамадзяне,
яны ў бяздонным Шостым акіяне
калумбамі бясстрашнымі былі.

Мы верым: хутка мара явай стане —
планеты прымуць пасланцоў Зямлі,
і ў нас сяброў прыбавіцца, калі
на свеце ёсць плутонцы, марсіяне.

Ім лёгка будзе зразумець наш герб:
сталёвы молат, залацісты серп —
прылады мірнай працы, а не зброя.

Бясконцы і загадкавы Сусвет.
Ды «паталка» не ведаюць героі,
якія ў заўтра пракладаюць след.

12

Героі ў заўтра пракладаюць след
праз дзірваны людскога прымірэння
з руцінай даўніх звычак і ўяўленняў,
з цяжарам зла і невыносных бед.

Бяруць у бой пяро і пісталет.
Шлях адкрывалі новым пакаленням
Ульянаў Саша і Ульянаў-Ленін,
ламаючы стары замшэлы свет.

А ёсць яшчэ адвага марака,
святая непадкупнасць мастака,
руплівасць хлебароба ў веснім дыме.

І пот, і кроў — у тым увесь сакрэт —
байцы да кроплі аддаюць Радзіме,
іх подзвігі — нашчадкам запавет.

13

Іх подзвігі — нашчадкам запавет
і, можа, больш яшчэ — загад найстрогі

настойліва ісці да пэўных мэт,
лягчэйшай не шукаючы дарогі.

Яны — сынам на сотні зім і лет
бацькоўскі прыклад і перасцярога:
не палічыць бляск медзяных манет
за ззянне бранзалета залатога.
Спакус на свеце многа ёсць яшчэ.
Ад кулі чалавек, бывае, уцячэ,
ды ўлезе ў частыя мяшчанства сеці.

Слабых народ карае забыццём
і помніць тых, хто змог усё жыццё
сцяг мужнасці, як эстафету, несці.

**14**

Сцяг мужнасці, як эстафету, несці
і дзень у дзень і з веку ў новы век.
Ісці наперад, не стаяць на месцы —
тваё прызнанне гэта, Чалавек.

Жыццё сваіх абраннікаў не песціць.
Вазьмі сабе імклівасць горных рэк,
і цвёрдасць скал, і прастату прасек,
устань раней за сонца, на дасвецці.

Бо позна спаць — і радасці не знаць,
усё жыццё кагосьці даганяць
і праклінаць выбоіны і ямкі.

Рух наступальны — поспеху залог,
таму і забаронены стаянкі
на скрыжаваннях вуліц і дарог.

**15**

**Магістрал**

На скрыжаванні гулкіх дзвюх дарог,
і славай і жалобаю спавіты,
стаіць гранёны абеліск гранітны —
кароткага жыцця бясконцы эпілог.

Не. Недарэмна кроў была праліта:
развеяўся туман цяжкіх трывог,
акопы рупна зaараў нарог,
спявае-даспявае ў полі жыта.

Сыны ўзмужнелі, ўнукі падраслі,
найлепшы лад будуюць на планеце
і смела ў космас водзяць караблі.

Героі ў заўтра пракладаюць след,
іх подзвігі — нашчадкам запавет:
сцяг мужнасці, як эстафету, несці.

## «ЁСЦЬ!»

Я знаю,
што служба марская — не слодыч,
а мора —
не толькі адна прыгажосць.
Нялёгка
дакладна па-флоцку
вымавіць простае слова —
«Ёсць!»
«Ёсць!» — гэта значыць,
зразумеў ты загад камандзіра
і, пагарджаючы смерцю,
здзейсніш суровы загад;
«Ёсць!» — гэта значыць,
ты пойдзеш на подзвіг
у імя Радзімы,
за славу Радзімы,
па шчасце Радзімы
і не адступіш ні кроку назад.
Вымавіць гэтае слова трэба
і шчыра,
і цвёрда,
як маці гаворыш «Мама»,
як любай — «Кахаю цябе».
Не, тут не возьмеш луджаным горлам,—
сэрцам узнімеш,
пяскораны ў барацьбе.



Не крычыце, чайкі,
не завіце ў мора,
я не салажонак,
ведаю ваш нораў,—
толькі падбухторыце:
— У паход, за намі!
Першымі ж на бераг
вернецеся самі,
вернецеся ціха,
па адной, без крыку,
ганьбу дэзерціраў
несучы пад крыллем.
Нам заложыць вушы
ватаю стыхія
і са злосцю кіне
пад валы крутыя.
Нам ісці наперад,
паказаць свой нораў.

Чайкі, дом ваш — бераг,
хлопцы,
дом наш — мора.



У гавані,
ля самага мола,
на абшарпаную сцяну нейкай будыніны
інвалід-фатограф павесіў «фон»:
няўмелай рукой
грубымі мазкамі
намалявана раз'юшанае мора
з цяжкой,
як сілікатная цэгла,
пенай па грэбенях хваль,
з нерухомымі,
прыклеенымі да неба,
крывакрылымі чайкамі.
Падыходзяць да «фона» матросы,
становяцца ў ваяўнічую позу

і фатаграфуюцца,
каб затым
паслаць
прыгожую фальшыўку
родным,
знаёмым,
каханаї.
А побач
б'ецца ў мол
сапраўднае мора,
хвалі на ім
празрыстыя,
лагодныя,
крутыя,
а пырскі прыбою — сонечныя.
Неба над імі —
глыбокае
з жывымі
легкакрылымі чайкамі.



Гэта будзе кароткі,
ды сумны расказ...
Не вярнулася ў гавань падлодка.
На вайне такое бывала
не раз,—
бездань морская раптам глынула хлопцаў:
маладых,
баявых,
спевакоў
і танцораў...
Ёсць у кожнага
мама,
каханка
і друг.
Мама дзесьці далёка-далёка ад гора
спіць на шорсткіх далонях натруджаных рук.
А каханка...
Яна спалатнела
ад весткі,

ды не верыць,
не можа ніяк уявіць,
што на свеце няма ўжо найлепшага ў свеце,
і самотна
на пірсе пад ветрам стаіць.
Недарэмна падводнікі песню любілі
пра матроскую дружбу
спяваць пад баян,—
ёсць у кожнага друг:
у халодных глыбінях
у абдымках ляжыць баявая сям'я.

◆◆◆

Ніхто не нарадзіўся ўмелым,
ніхто не нарадзіўся мудрым,
ніхто не нарадзіўся смелым,
ніхто не нарадзіўся мужным —
усё
прыходзіла з гадамі,
набыта цяжкаю цаной:
ад неўсвядомленага «Ма-ма»
да неўміручага — «За мной!».

◆◆◆

Калі былы марак прыходзіць
на карабель, ён сцішыць крок
і пры любой, як ёсць, пагодзе
зірне спачатку на флагшток,
дзе сцяг трапеча бела-сіні,
нібыта пеніцца вада.
І ён паважна шапку здыме
і моўчкі флагу чэсць аддасць.

І ўспомняцца ў імгненне тое
паходы праз імжу, баі,
і здасца, што сябры-героі
стаяць на палубе ў страі.

Рапорт, як некалі прысягу,
унукам аддаюць дзяды:
блакітна-пенiстаму сцягу
былі мы верныя заўжды.



На флоце крыкуноў не любяць,
напышлівых не цэняць слоў.
Калі ты сеў з сябрамі ў шлюпку,
дык пакажы свой спрыт вяслом.

Няма ў адсеках лішняй плошчы,
у рундуках — паліц пустых,
і кантрабандай груз падложны
у мора ўзяць не зможаш ты.

## БЯРОЗЫ

У краі пагоркаў пясчаных
сэрцам радня не счарсцвела,
трымае яна
                ў пашане
светласць
                бярозы белай.
Бярозы
            гамоняць гасцінна
над Добаснай
і Дняпром...
Бярозы
            над кожным гасцінцам,
бярозы
            пад кожным акном.
Старыя,
            з нагамі чорнымі,
парэпанымі да крыві,
і маладыя
                ў ружовых панчошках
падбельваюць наш краявід.
П'юць землякі бярозавік,

хвошчуцца венікамі бярозавымі.
З бяросты жывой берасцянка
будзіць вясну на світанку.
У засень бяроз
ідуць закаханыя,
рассыпаўшы смех у барозны,
і сумна едуць
богам забраныя
на могілкі
пад бярозы.

## СТРЭШЫН

Вераб'іныя падстрэшшы
і гасцінную ветласць
беражэ вякамі Стрэшын,
нібы скарб запаветны.

Як і помню з дзяцінства:
«Жыў-жыў-жыў!» — з-за парканаў,
«Здрастуй!» — ветла і ціха
незнаёмыя кажуць,
і з усіх палісадаў
павітаюць вяргіні...

Параходзік паласаты
дошку-трап на бераг кінуў.
Пад нагамі гнецца дошка...
— Здрастуй, Стрэшын, родны кут!
Пацяжэў, відаць, я трошкі,
дай руку ты земляку:
надта ўжо ступіць мне рупіць
на твой бераг залаты.
Дай руку!
Прысядзем, дружа,
пагаворым, як браты.

## РУЖОВЫ КОНЬ

Пад елку плашч-балонню кіну,
на сук павешу капялюш,
у мураву, як у пярыну,
сябе самога я ўтаплю.

І, праганяючы назолу —
турботу заўтрашняга дня,
лянотна буду ў хмарнай золі
шукаць ружовага каня.

Ён там, дзе воблачную пену
узбіў на небасхіле дзень,
гуляе вольна...
Чадам кмену
прапахлі ногі да калень;

у промнях палымнее грыва,
і вочы ззяюць, як агні...
Яшчэ ніякі ў свеце рыцар
не гарцаваў на тым кані.

Я ж мог...
Прыходзіў сам калісьці
ён у будан мой між ракіт,
аб грудзі цёрся цёплай пысай
і набіваўся ў дружбакі.

А мне было тады семнаццаць,
і часта бачылася ў сне
зямное шчасце ў белым плацці.
І я сказаў рашуча:
— Не!

...Старэю і душой чарсцвею,
плынь часу песняй не суняць!..
А ў сэрцы ўсё жыве надзея —
сустрэць ружовага каня.

Цяпер не стану я марудзіць,
адразу ўскочу на спіну,
вятрам падстаўлю смела грудзі
і ўжо назад не павярну,

бо ведаю цану хвіліны
і гаркату нязбытых мар.
Хоць на імгненне, ды павінен
падняцца некалі да хмар,

адчуць у сэрцы прагу ўзлёту,
пагардзіць мернасцю людзей,
прыгубіць шчасця асалоду,
а там хоць смерць, хоць сто смярцей!

Даўжэюць цені...
Мята пахне...
Няма ружовага каня...
І зноў бярэ мяне пад пахі
турбота заўтрашняга дня.

## БАБІНА ЛЕТА

Плывуць
і плывуць
павуціны
над погарбам ціхай хаціны.
Пасля дажджоў
раптам такі дзянёк вясёлы...
Ля плота
дзед расстаўляе
снапкі фасолі,
а пад капою саломы
прымасцілася бабуля,
пляце ў вянкі цыбулю,
услых думае:
— Для разводу вяночак адзін,
гэта — можа, прыедзе з горада сын.
гэта — прадамо,
а гэта... як-небудзь самі з'ямо
з селядцом
ды з салам...
Усміхаецца дзед:
«Размеркавала!..»
Задраў галаву,
глядзіць на вялізную павуціну,

што цягне за сабой
рэактыўны самалёт,—
напэўна, зноў
сын
паляцеў на курорт
у край, дзе спеюць апельсіны.

## ЗАЛАТЫ ЛІСЦЯВЕЙ

*Памяці П. Беразняка*

Лясы бараўлянскія
ў сонечным пыле,
у млявай задуме бары.
Гарыць беразняк на распараным схіле,
на ўзлессі асіннік гарыць.
Гарыць-дагарае зялёная казка,
сцякае крывавая медзь.
Усё гэтак проста...
Ды страшна і цяжка
без сіл на галінцы вісець;
душой разумець, што з-за далечы сіняй
не вернеш гадоў маладых,
чакаць, што сарве і ў нябыт цябе кіне
не бура, а ветрыка ўздых;
што нават і сонца нічым не паможа —
даб'е шчодрай ласкай сваёй.
...Не будзь жа ты, восень,
такою прыгожай,
не будзь жа ты жорсткай такой!

## МІНІЯЦЮРЫ

На родны, да драбніц знаёмы кут
нагледзецца не могуць мае вочы,
і, можа, гэта —
самы большы цуд
з усіх
зямных і незямных
дзівосаў.



Клінкоў не дарылі мне ў спадчыну,
затое ўручылі надзейную зброю —
Кастрычніцкі сцяг, абмыты крывёю,
і песню на мове матчынай.



Грэе ўсіх сонца,
і ўсіх корміць глеба,
ды аратаі прыкмецідь змаглі:
колас пусты
пнецца-цягнецца ў неба,
колас наліты
паклон б'е зямлі.



У царстве лясным
сустракаю кантрасты,
якіх зразумець не магу аніяк:
прыгожанькі звер —
а драпежнік ікласты,
стракатая птушка —
ды дрэнны спявак.



Мяхі на лайбу грузчыкі грузяць.
Прыгледзься,
як носяць яны цяжар:
хто ў плячах адчувае дужасць,
ідзе спакойнай і лёгкай паходкай,
а слабыя бягуць па сходках,
як на пажар...



Ты падобна на Венеру?..
Веру часам і не веру.
Не падобна крышачку —
не стае дзвюх рысачак:
на губах — пяшчоты,
у вачах — самоты.

◆

Свайму жаніху гаварыла паморка,
калі выпраўляла яго на вайну:
— Загінеш у моры — памру я ад гора,
пакінеш сяброў там — навек пракляну!

◆

Хоць ты плячом варочаў горы,
умеў пад хмарамі лятаць —
не гавары,
кім быў учора,
скажы,
кім заўтра хочаш стаць.

◆

Прыдумалі мы спачувальныя словы:
«Жыццё зламала...»,
«Згарэў, няшчасны...»
А бачыў ты, каб ліст дубовы
пажоўкнуў і апаў заўчасна?

◆

Мне з юнацтва было ўжо
ясней яснага
пытанне жыцця і смерці:
подла —
жыць
толькі дзеля шчасця ўласнага,
гонар —
за шчасце народа
памерці.

### СМАРЖКІ

Грыбы вясеннія — смаржкі,
нібы скамарохі,
апранулі кажушкі,
выйшлі на дарогі,
дражняцца,
крыўляюцца,
прастачкамі прытвараюцца.

Прастачкам лягчэй жывецца:
ім даруюцца грахі.
Не бярэ ніхто да сэрца,
што ні зробяць прастачкі;
з імі біцца
ці судзіцца
не заведзена ў народзе.
Прастачкоў
няпростыя
проста абыходзяць.

На гэта і разлічваюць смаржкі...

Але я — грыбнік са стажам,
бачыў розных хітруноў,
можа, тону перасмажыў
на патэльні грыбоў.
Ведаю і вас, смаржкі —
майскія дзівакі.
Хоць вы на выгляд страшныя,
ды задужа смачныя,
густа пахнеце ядлоўцам,
перагрэтаю смалою,
ліпкім глеем коўзкай сцежкі,
чаем леташняй травы
і яшчэ там нечым церпкім,
першабытным,
баравым,
што пасуе так да скваркі
з маладой цыбулькаю,
калі побач у чаркі
не вадзіца булькае.



Бяру я хлеб не відэльцам,
а рукой,
бо мы з ім —
            даўнія знаёмыя,
нават радня:
я араў зямлю,

рассяваў зерне па раллі,
затым жаў жыта,
малаціў яго
і збожжа завёз на млын...
Бяру хлеб не відэльцам,
а рукой —
я з ім вітаюся.



Пад крылом самалёта — смуглявая Таўрыя,
як рассцелены дбайна армяк чумака,
нават бачны на крыссі рудыя паджарыны
і на локці палаплены правы рукаў.
Той чумак быў хлапец, відаць,
дужа гарэзлівы,
ён прыехаў па соль
аж з Палескай зямлі,
каля мора салодкую дыню разрэзаў,
выеў мякаць,
лупіну шпурнуў у заліў.
Пазіраў:
ці патоне, ці выплыве з хваляў?
Бачыць:
дыняю Месяц у небе плыве...
Конь траву прагна скуб,
адыходзячы ўдалеч,
дзе цыкады трашчалі ў густой сіняве.
І юнак —
наўздагонкі.
Апранаха і сёння шчэ
рыжай плямай баштаннай
ляжыць паміж траў.
...Мне не страшна
высока ляцець
над Херсоншчынай,
дзе прадбачлівы продак
армяк разаслаў.

## ПЯТЫ ПЯЛЁСТАК

Расквітнеў і задыміўся
бэз бухматы каля хаты.
Дзесь у гронках прытаіўся
і маўчыць пялёстак пяты.

Той пялёстак мы шукалі —
кажуць, шчасце ён прыносіць.
Ды сустрэцца нам рукамі
ненарокам давялося.

Пальцы палкія спляліся,
вусны вуснам штось шапталі.
Трапятала ціха лісце,
сэрцы нашы трапяталі.

А ля хаты бэз бухматы
буйнай квеценню дыміўся.
І маўчаў пялёстак пяты —
дзесь у гронках прытаіўся.



Усё тут наша:
мурагу дыван,
грыбных сцяжын узорныя мярэжы,
сунічны сок распараных палян,
маўклівыя кусты арэшын.

Усё тут наша:
сіні страх асін,
стракатыя рабінавыя цені,
бярозавыя сны,
зары вячэрняй стынь
і першых зор нясмелае мігценне.

А прыйдзе восень —
будзе лісце рваць,
шпурляць пад ногі
ржавую манету,

але і ёй
у нас
не адабраць
празрыстае смугі шклянога лета.



Значыць, мы з табой адсталыя,
значыць, не сучасныя:
месім гурбы нерасталыя
напрадвесні ў лесе часта мы.

Па сцяжынках, ледзьве бачных,
прабіраемся імшарамі
і з трывогамі дзіцячымі
млеем пад ляснымі чарамі.

Разглядаем ля завоіны
быстрыя сляды заечыя,
смутак, на смале настоены,
п'ём да самага да вечара.

І зрываем на праталінах
сон-травы званкі зубчастыя...
Гэта значыць: не адсталыя,
значыць, мы з табой сучасныя.

## ГАДАННЕ НА РАМОНКУ

— Любіць, не любіць,
здрадзіць, забудзе...
Вецер пялёсткі
сарваныя студзіць.

Жоўтае вочка,
белыя вейкі —
кветка-рамонак,
ад рэўнасці лекі,

даўні аракул
долі дзявочай...
Што ж ты,
апошні пялёстак,
прарочыш?



Лёг пакорна чорны бор
вечару пад грудзі...
Не чакай — не будзе зор,
месяца не будзе.

Бляск трывожны над зямлёй
непагадзь прарочыць.
Ад залевы нам с табой
не ўцячы да ночы.

А ў сяле яшчэ не спяць...
Міма чорных вокнаў
давядзецца нам ступаць,
нібы пад канвоем.

Праганяе чорны бор,
і асудзяць людзі.
Не чакай — не будзе зор,
месяца не будзе.

**БАБУЛЬКА ЛЯ АЎТАМАТА**

З пальцамі,
якія тысячу град прапалолі,
выткалі кіламетры палатна,
перамылі горы бялізны,
выпесцілі дзяцей і ўнукаў,—
з пальцамі яе агрубелымі
не хоча капейка расстацца.
Нарэшце манетка
скочыла ў шчыліну,
і ў шклянку з хрыпам палілася газіроўка.

А вочы бабулькі,
што на свеце ўсяго перабачылі,
выплакалі поўныя рэчанькі слёз,—
вочы яе мудрыя і строгія
раптам засвяціліся такой наіўнай радасцю,
што кожны ўбачыў
усю па-дзіцячаму чыстую
яе душу.

## ГАРА ХАМЕЛЕОН

Ты, як дрэнны сябар,
ветла ўсміхаешся,
запрашаеш грэцца
на свае бурштыновыя схілы
ў дзень пагодны.
А толькі хмары закрыюць сонца —
ты насупішся,
зласліва горбіш
сваю спіну іглястую,
як яшчар дапатопны.

## ВУЖ

Між розных насельнікаў нашай Зямлі
самы няшчасны — вуж:
прырода дала яму цела змяі,
атруты забылася даць.

Не можа вуж
укусіць і забіць
тых, хто мацней за яго,
ловіць люгашак, мышэй, чарвякоў,
ласуецца рыбнай ікрой.

А людзі не вераць, думаюць — гад
страшны такі, як гадзюка,
могуць прыцісцуць віламі ўраз
і кінуць без жалю ў мурашнік.

Калі завірухі над лесам гудуць,
не спіцца вужу пад карчом,
ён думае, як бы аблічча змяніць,
пакінуць змяінае кодла.

Вясною вылазіць рашуча з нары,
знаходзіць пянёчак-рагулю,
праз вузкую шчыліну пнецца-паўзе,
слізкую скуру здзірае.

Балюча,
пякуча,
цямнее ў вачах,
ды трэба цярпець небараку.
Вось вылузаўся і пацёк-сігануў
у ціхую завадзь затокі.

Плыве задаволены між трысьнягоў,
шыю дугой выгінае:
«На лебедзя зараз падобны стаў я,
не будуць мяне ненавідзець».

Наперадзе ззяе люстэрка вады,
пабачыў там...
Што за напасці?
Як быў ён змяёй — так астаўся змяёй,
і новая скура — з лускою.

## ЦЭМЕНТ

Вы ведаеце, што такое цэмент?
Парашочак, з выгляду рахманы,
а робіць трывалым пастамент
генію
і тырану.
Здавалася б, ясна, як белы дзень:
каб у вяках
выстаяць
высака,
купі цэменту тоны дзве
крычаўскага
ці ваўкавыскага.

На справе ж усё наадварот —
ніхто сваёй
не распараджаецца
славай:
скідае тыранаў
і пры жыцці
народ,
а геніям
пасля смерці
помнікі ставіць,
значыць,
цэмент — не той элемент,
што робіць трывалым любы пастамент.

## АЗЯБЛАЯ ТАПОЛЯ

І хто табе прыдумаў
такія пакуты:
стаяць на марозе
раздзетай,
разутай?
Завошта?
Ці за сваволю дзявочую,
ці за няварнасць жапочую?

За сваволю пакараныя крычаць,
за няверпасць —
церпяць мукі і маўчаць.

Ты ж, тапалька, не крычыш,
пад вятрамі шуміш —
не маўчыш,
пазіраеш з надзеяй
на сцяжынку ў поле
і камусьці
прыветна махаеш голлем.
Малайчына, таполя!

## ЧЭМЕР-ЧАМЯРЫЦА

Паводле народнага

Адцвілі канваліі,
адцвілі купены,
па лагчынах, па канавах
чамярыца пеніцца.

Чэмер-чамярыца — горкая травіца,
ой, няма ж мне да каго
сэрцам прытуліцца.

Прападу-схаваюся
у туманным змроку.
Ды ад гора-ліхалецця
не ўцячэш далёка...

Чэмер-чамярыца — горкая травіца,
разлучыла мяне з любым
родная сястрыца.

Ночкаю вясноваю,
ночкаю духмянай
цалаваў ён, мілаваў ён,
называў каханай.

Чэмер-чамярыца — горкая травіца,
я іду адна па сцежцы,
малада ўдавіца.

Адцвілі канваліі,
ціха за аселіцай...
Не са мною, а з сястрою
мой каханы жэніцца.

Чэмер-чамярыца — горкая травіца,
дай ты мне сваёй атруты
удосталь напіцца.

## ПАКУТЫ

Па матывах «Песні Песняў»

Цалуй мяне, цалуй, каханы!
Не трэба сёння мне віна,—
ад палкіх вуснаў буду п'янай,
хачу я шчасце піць да дна,
не адпушчу цябе да дня.
Цалуй жа ты мяне, каханы!

Узяў душу — бяры і цела
у хмельнай квецені вясны.
Пакуль зусім я не згарэла,
сцялі мне ложак лісцвяны,
каб залатыя сніла сны.
Ты ўзяў душу — бяры і цела!



Я смуглянка. Ну і што ж?
Не загана гэта:
паліць сонца, мые дождж
твар мой усё лета.

Ды затое гнуткі стан,
як таполя, тонкі.
Вусны, нібыта цюльпан
распусціўся толькі.

Я за брата росны сад
ноччу вартавала.
Свой дзявочы вінаград
я не ўратавала.

Сон салодкі ў будане...
Позна ўжо ці рана?
Што ж не йдзеш ты да мяне,
любы мой, каханы?!



Не будзіце, матулі, дачок закаханых,
не трывожце іх светлыя сны.

Сняцца ім у рамонкавым звоне паляны,
сняцца зоры на вейках вясны.

Сняцца радугі-дугі над вымытым лугам,
чысты-чысты, як шкло, далягляд.
Сняцца ў шчасце дарогі, усланыя пухам,
пад зялёнаю песняй прысад.

Плачуць звонкай расою ў далінах цюльпаны,
у цяснінах стаяць туманы.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Не будзіце, матулі, дачок закаханых,
не трывожце іх светлыя сны.



Чаму я — не яблыня,
ты — не вятрыска?
З табою заўсёды былі б мы так блізка.
Ты б з гор, непрыкметны,
у сад прылятаў,
рукамі гарачы мой стан абдымаў,
зрываў, не чакаючы цёмнае ночкі,
з дрыготкіх плячэй лісцвяную сарочку,
пяшчотна туліў да грудзей маладых
і рваў бы налітыя сонцам плады.



Вінаграднік Саламона,
кажуць, быў такі вялікі,
што яго за цэлы тыдзень
не аб'едзеш на кані.

Ні падліку, ані ўліку
гронкам спелым, сакавітым.
І які ні быў цар мудры,
не ўпраўляўся ён адзін.

Падзяліў ён вінаграднік
на маленькія участкі
і садоўнікам руплівым
у арэнду аддаваў.

Ураджай яны збіралі,
а цару плацілі грошы.
Кажуць, тысячу дзінараў
меў даходу Саламон.

Не раўня я Саламону:
арандатараў не маю,
вінаграднік мой маленькі,
і заўсёды ён пры мне.

Наліліся хмельным сокам
гронкі буйныя, даспелі.
Ці ж дазволю дакрануцца
я да іх чужым рукам?

Саламону не зайздрошчу,—
што мне тысяча дзінараў!
Аддаю задарма гронкі,
ды таму, каго люблю!

## ФІТАТЭРАПІЯ

Слова цяжкаватае,
слова мудраватае,
слова непрывычнае
і страшнаватае —
                    фі-та-тэ-ра-пі-я.
Тэрапія —
            значыць, нешта бальнічнае,
таямнічае,
яно выклікае асацыяцыі
з мікстурамі
і пілюлямі.

А разабрацца — зусім не так.
Калі, скажам, ты размяк,
усё ў цябе не клеіцца,
усё ў цябе не ладзіцца:
і праца не спорыцца,
і з блізкім не гаворыцца,
і ні да каго цябе не горне,
і нікому ты не верыш,

белае здаецца чорным,
чорнае — шэрым...
Бывае ў цябе такое?
А чым ты лячыўся,
як вырываўся
з зачараванага кола?
Проста:
ішоў у лес
ці ў поле,
выбіраў, дзе мясціна сушэй,
трава гусцей
і мякчэй,
клаўся на яе спіной
і піў гаючы настой
кветак і сонца.
Піў прагна,
як пасля цяжкое работы
п'еш
хлебны квас ці піва,—
і як рукой здымала ўсе нягоды.

Аказваецца,
гэты просты метад
лячэння самотай ад сумоты
вучоныя назвалі
мудрым словам —
фітатэрапія.



Маладыя, родныя, харошыя,
не крычыце пад маім акном
у той час, як госцяю няпрошанай
узыходзіць поўня над сялом.

Чалавек я — не агарак свечкі,
можа, больш за вас яшчэ люблю
слухаць, як цалуе майскі вечар
вечна сарамлівую зямлю.

З кнігі

# «АБЕЛІСК»

1973

## ЧЫТАЕ «ПРАВДУ» ЛЕНІН

Прыйшоў фатограф да пачатку працы
хвілін за пяць.
Ён ведаў: не прывык Ільіч спазняцца,
тым больш — чакаць.
Вось крокі чуюцца па калідоры,
бліжэй, гучней.
Заходзіць Ленін, свежы і бадзёры,—
няма радней.
Вітаецца, услых прыпамінае:
— Так, так... Партрэт...
Прашу,— шырокім жэстам запрашае
у кабінет.—
Дам паўгадзінкі вам...— Прыжмурыў вочы:
ці не зашмат? —
Вы ле́пш здымайце, баценька, рабочых,
сялян, салдат.
Яны — героі нашых векапомных,
бурлівых дзён,
навекі трэба твары іх запомніць...—
За стол сеў ён,
газету разгарнуў, упіўся прагна
у тэкст вачмі.
Адкрыта, шчыра размаўляла «Правда»
заўжды з людзьмі.

Нямала вестак добрых і трывожных
лавіў пагляд.
...Ужо ўзваліў фатограф на трыножнік
свой апарат,
навёў на рэзкасць і касету ўставіў,
гатоў здымаць.
Ільіч усё чытае і чытае...
Чаго ж чакаць?
Цудоўны кадр! Сядзіць Ільіч без позы,
румянец шчок.
Фатограф з аб'ектыва асцярожна
зняў каўпачок.
І стала ціха-ціха на ўсім свеце,
спыніўся час.
Сядзіць Ільіч ужо не ў кабінеце —
а сярод нас.
Ён бачыць нас. І чуе нашы крокі.
І нас вядзе
у новы век, у новы свет шырокі,
у новы дзень.
Змяняюцца, мужнеюць пакаленні,
шчыльнее строй.
Чытае «Праўду» неўміручы Ленін
планеце ўсёй.

## МНЕ ЧАСТА СНЯЦЦА КАРАБЛІ

Мне часта сняцца караблі —
не з моднай песні брыганціны,
што бераг казачнай зямлі
шукаюць у тумане сінім.

Мне сняцца крэйсеры, эсмінцы,
падлодкі, старажавікі,
і самы просты бераг сніцца,
пустынны бераг,
пра які
мы гэтак марылі ў паходах,
гайданкай зморанымя ўшчэнт.
Той бераг быў узнагародай
за недаспаных сто начэй.

Скакалі мы на ім, як дзеці,
з разгону падалі ў траву,
на міг забыўшыся, што дзесьці
тарпеды
глушаць сіняву.

## ЗЯЛЁНЫ ПРАМЕНЬ

Сонца ў мора садзіцца —
адпрацавала свой дзень.
Ліст над спелай суніцай —
дзе ж той зялёны прамень?

Зловім яго — па калена
будзе нам мора жыцця.
...Хвалі коцяцца лена
у пацямнелы прасцяг.

З мачты сцягам жалобным
ветразь звісае пусты...
Сэрцы нашы ў палоне
жорсткасці ці дабраты?

Млеюць сонныя далі,
ціша калыша карму...
Лепшых слоў не сказалі
мы шчэ адно аднаму.

Неба ў марыве сінім,
крэчка натужна вясло...
Буру трэба прайсці нам,
як бы яно ні было!

...Сонца ў мора садзіцца —
адпрацавала свой дзень.
Ліст над спелай суніцай —
дзе ж ён, зялёны прамень?



Калі цвіце за вёскай грэчка
і пахнуць рошчынай палі,
здаецца недарэчнай спрэчка:
у небе лепш ці на зямлі?

Радней, бліжэй зямля, вядома.
Хаця і вабіць крыл узмах,
я на зямлі заўсёды дома,
а ў небе — быццам бы ў гасцях.

У небе нават сцюардэсы,
чый лёс даручан сіняве,
сумуюць па зялёным лесе
і па нятоптанай траве
і радуюцца, калі важка
пачне зніжацца карабель...

А мне тым больш — у небе цяжка
смактаць зямную карамель,
на ніў квадраты,
нітку рэчкі
глядзець праз таўшчыню смугі
і ўспамінаць,
як пахне грэчка
ля вёсак, сэрцу дарагіх.



Зайшлі ў туман па пояс дрэвы,
нібы купальшчыцы ў ваду.
Да кладкі мне прабіцца трэба —
ніяк сцяжыны не знайду.

Што ж вытвараеш ты, прырода:
няўжо і ў наш касмічны век
перад капрызнай непагодай
схіляцца мусіць чалавек?

На рамяні транзістар плача
бездапаможным дзіцянём.

Іду навобмацак, наўдачу
праз хмыз багністы напралом.

І вось ужо туман радзее,
імжа за ўзгорак адплыла...
Старая, нібы свет, надзея
Мяне да мэты прывяла.

## ВЕРАСЕНЬ

Дык няўжо і праўда — адзвінела лета?
Не была ж дуброва ўся як след прагрэта,

не былі прамыты ліўнямі палі,
не спявалі травы,
елкі не цвілі.

Некалькі дзянькоў мне помніцца пагодных
ды тваіх паглядаў, маладых, лагодных.

Думаў-разважаў я: усё на-пе-ра-дзе.
Глянуў — у будан мой верасень ідзе.

## ПАХАВАННЕ ЯРАСЛАВА ДАМБРОЎСКАГА

Парыж, 25 мая 1871 года. Раніца.
Над Сенай,
                над Б'еўрам
                                клубіцца дым — не туман.
Гарыць-дагарае
                        пакінутая камунарамі ратуша,
ідзе рукапашны бой
                                на вуліцы Сент-Антуан.
Ахрыплі гарматы за ноч:
                        версальцы не лічаць снарадаў —
зброі і злосці ўдосталь
                                сабралі за семдзесят дзён.
Чым жа адкажуць ім сёння
                                        чырвоныя барыкады,
дзе кожны на ўліку баец,

дзе кожны на ўліку патрон?
Адкажуць чым барыкады?
Мужнасцю федэратаў,
якім асталася надзея —
аддаць за Камуну жыццё?
Паэтыкай Дэляклюза,
што марыць з'яднаць атрады,
каб выбіць версальцаў з Парыжа —
раздзьмухаць ачахлы касцёр?..
Застыў
над плошчай Бастыліі
танцуючы Геній Свабоды,
з вяршыні калоны Ліпеньскай
нібы хоча на брук зляцець.
Ён бачыць, як там,
у занятых кварталах заходніх,
версальцы расстрэльваюць
камунарскіх жанок і дзяцей.
Пакуль шчэ
апошніх секунд свабоды
не адлічыў няўмольны гадзіннік
і з рук пралетарскіх
вецер не вырваў
агністых сцягоў —
і на гэта адкажуць барыкады,
адкажуць па-свойму ў ярасці дзікай:
— Шпіёнам — смерць!
— Заложнікам — смерць!
— Палацам — агонь!
Адкажуць,
пазней крыху —
пройдзе, можа, гадзіна якая,
а зараз...
Здыміце шапкі,
здолейце
слёз струмені
зводам броў скаваць:
на могілках Пер-Лашэз
прымае зямля — не родная,
але і не чужая —
цела Ярослава Дамброўскага.
*Хто справе Камуны*
*аддаў*
*усе свае сілы,*

*свой розум,*
*адвагу,*
*сумленне*
*і крой —*
*той варты апошняй пашаны,*
*той варты спакою магілы,*
*той варты,*
*каб светлае імя яго*
*не гасла на вуснах сяброў.*
На чорных насілках
лажыць шынялём ён прыкрыты,
не грозна-мяцежны,
гатовы рынуцца ў бой,
а ціхі, лагодны,
журбой адчужэння спавіты,
з русай пасмай на высокім лобе,
з ледзь узнятай клінком-барадой.
Здаецца,
зараз расплюшчыць вочы,
гляне на дымны горад,
рукой агрубелай
адкіне крысо шыняля
і, абвёўшы паглядам прысутных,
спытае з дакорам:
— Няўжо вы лічылі мяне здраднікам
за тое, што я — паляк?
І ў адказ усхліпнула Дзмітрыева Лізавета,
яна з барыкад Манмартра
на мітынг жалобны
прыйшла:
— Няпраўда...
Няпраўда...
Няпраўда ўсё гэта —
мы верылі табе,
мы ведалі твой сумленны
ў рэвалюцыю шлях.
Адкуль пачынаўся ён?
З вуліц крывенькіх —
кравецкіх, шавецкіх —
Жытоміра — міста і мяста,
дзе тлум ад цямна да цямна,
ці з Брэста,
куды хлапчуком ты прыехаў
у корпус кадэцкі

і ў бруднай казарме
знявагу і царскую «ласку»
спазнаў?
Той дзень ты запомніў навекі:
казармы ў святочным убранні,
у корпусе госць найвысокі —
прыехаў сам цар Мікалай,
на строй навабранцаў
важна глядзеў ветэранам
і «длань найсвятлейшую» лёгка
табе на галоўку паклаў.
Расчуліўся: хлопчык прыгожы;
пад пахі цябе — і высока
узняў,
аж здалося,
што ў вечнасць
плыве-адплывае зямля.
Спытаў:
— Прозвішча, імя?
— Яраслаў Дамброўскі, ваша вялікасць.
І выпусціў з рук цябе цар,
праз зубы зняважліва цыркнуў:
— Паляк...
Затым — Пецярбург. Чарнышэўскі. Гурток.
Філасофіі ўрокі.
Варшава — паўстанне.
І арышт.
І допыт.
І фікцыя-суд.
Астрогі...
Этапы...
Астрогі...
Неверагодна дзёрзкія ўцёкі...
Італія — з Гарыбальдзі.
Парыж — генерал Камуны.
Твая нацыянальнасць, Яраслаў,
пры чым жа тут?
*Хто справе Камуны*
*аддаў*
*усе свае сілы,*
*свой розум,*
*адвагу,*
*сумленне*
*і кроў —*

*той варты апошняй пашаны,*
*той варты спакою магілы,*
*той варты,*
*каб светлае імя яго*
*не гасла на вуснах сяброў.*
Бачыш, схіліўшы галовы,
ідуць развітацца з табою
у сініх палапленых блузах
старыя з Бельвіля майстры,
сябры твае —
гарыбальдзійцы,
заўсёды гатовы да бою —
на кожным, як сцяг вызвалення,
чырвань кашулі гарыць.
Важна ідуць маркітанкі —
вольныя грамадзянкі:
шаспо на плячы — па-мужчынску,
ды ўсё ж ім слёз не стрымаць;
цяжка ступаюць матросы,
плачуць наўзрыд санітаркі.
Апошні парад, генерал, прымай!
На тварах байцоў тваіх —
ні знаку адчаю і страху,
ты ж іх навучыў не баяцца
залпаў чужых батарэй.
Загадай — і пойдуць у пекла,
загадай — і касцьмі ўсе лягуць.
Паслухай, што кажа твой сябар
француз Вермарэль:
— Развітваемся мы
з генералам рэспублікі Сусветнай.
Герой і паходня Камуны,
Дамброўскі не быў нам чужым.
Камандаваў намі Дамброўскі,
і мы ганарымся гэтым:
салдаты яго любілі,
салдаты яму верылі,
салдаты ішлі за ім.
Дзякуй народу польскаму
за гэткага слаўнага сына,
які стаў паўстаўшай Францыі
радней, чым родны сын.
Бывай, Яраслаў Дамброўскі,
памёр ты не на чужыне,

Камуны Сусветнай воін
                    і грамадзянін.
*Хто справе Камуны*
                    *аддаў*
                              *усе свае сілы.*
*свой розум,*
*адвагу,*
*сумленне*
*і кроў —*
*той варты апошняй пашаны,*
*той варты спакою магілы,*
*той варты,*
          *каб светлае імя яго*
                    *не гасла на вуснах сяброў.*
Бывай,
     генерал Камуны!
                    Бывай, дарагі Яраславе,
няхай табе светла спіцца
                    пад нашай пухам-зямлёй.
...Ідуць камунары з могілак
                              не на барыкады —
                              у вечнасць і славу.
Ідуць,
     ідуць камунары
                    у праведны бой.
І ўжо
ні кулі версальцаў,
ні гарматы бісмаркаўскай арміі,
ні імперыялістычны куты бот,
ні фашысцкі тупы цясак
не змогуць
          адабраць у рабочых
                              замацаванага крывёй:
«Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!»

З кнігі

# «АБАВЯЗАК»

1979

## НАШ ДЗЕНЬ

Наш новы дзень ступае па зямлі
дзяржаўным
гаспадарчым
цвёрдым крокам,
упэўнена,
паважна,
нетаропка,—
так дбайны сейбіт
крочыць па раллі,
калі не раб ён —
гаспадар шчаслівы,
адборным зернем засявае ніву.
Наш новы дзень ступае па зямлі.
Наш мірны дзень — нястомны працаўнік;
шахцёр — у шахце,
на палях — араты,
за пультам кіравання — аператар,
на стромкіх рыштаваннях — будаўнік;
ён промні ловіць дужымі рукамі,
па скронях пот сцякае ручайкамі...
Наш мірны дзень — нястомны працаўнік.
Наш кожны дзень напоўнены жыццём:
спакоем,
рухам,

шчасцем
і журбою,
адчаем,
верай,
суцяшэннем,
болем,
бо мы расцём,
наперад мы ідзём,
змагаемся,
шукаем,
адкрываем,
адно — спыняцца права мы не маем.
Наш кожны дзень напоўнены жыццём.
Наш ясны дзень — прадвеснік новых дзей,
як парастак,
што з зерня прарастае,
у рунь эпохі
ён сцяблінкай стане,
закаласіцца справамі людзей,
зачырванее нараджэння датай
для будучых паэтаў,
касманаўтаў.
Наш ясны дзень — прадвеснік новых дзей.
Наш светлы дзень — гісторыі працяг,
учорашніх задум і мар здзяйсненне,
імгненне эстафеты пакаленняў,
што з дня Кастрычніка
нясуць агністы сцяг
высока
над абжытаю планетай,
прарочым словам Леніна
сагрэтай.
Наш светлы дзень — гісторыі працяг.



Бацькоўскі край — гаючая крыніца,
лясы,
палі,
блакіт над галавой,
цябе любіць, табою ганарыцца —
сыноўні абавязак мой.

Бацькоўскі край — заводы і палацы,
трывалы мост над вечнаю ракой,
твае багацці множыць рупнай працай —
штодзённы абавязак мой.

Бацькоўскі край — лагодны ветрык весні,
лясны зацішак,
лугавы настой,
тваю красу і веліч славіць песняй —
пачэсны абавязак мой.

Бацькоўскі край — салодкі хмель прычасця
да волі вольнай,
радасці зямной,
цябе абараніць ад злых напасцяў —
свяшчэнны абавязак мой!

## МАЦІ КАСМАНАЎТА

Віток за вітком,
віток за вітком
вакол планеты
аблятае твой сын,
як зусім нядаўна
крок за крокам
ножкамі перабіраў
па вымытай падлозе —
хадзіць вучыўся.

Віток за вітком,
віток за вітком...

А нядаўна зусім
з табою сядзеў на прызбе,
лушчыў фасолю
стручок за стручком
і да бубачкі бубачку
клаў у гліняную міску.

Віток за вітком,
віток за вітком...

Як нядаўна зусім,
падкурчыўшы ногі,
сядзеў за сталом
і на паперы выводзіў
да літары літару
першае слова — МАМА.

Віток за вітком,
віток за вітком...

Як год за годам
і клас за класам...
Не без бядот і трывог:
то цяжка хварэў на адзёр,
то сабакі кручанага напалохаўся,
то праваліўся зімою ў палонку...

Віток за вітком,
віток за вітком...

...Вось і вырас,
роўны з бацькам,
амаль мужчына,
ды ўсё ж яшчэ горкае дзіця...
Куды ж такому ехаць
аднаму
ў белы свет?..

Віток за вітком,
віток за вітком...

Пісьмо за пісьмом
прысылаў з далёкага горада
то часта,
то зусім рэдка.
Суседкі суцяшалі:
«Доўга не піша — добра жыве,
а бяда напаткае —
адразу ўспомніць матулю».

Віток за вітком,
віток за вітком...

Прыходзяць суседзі,
віншуюць,

з павагаю велічаюць па-бацьку
і пашанліва дадаюць:
— Матуля касманаўта.
А ў галаў лезуць
зямныя турботы:
а хто яму там шкарпэткі памые?
Хто згатуе абед,
пасцеле пасцель?..

Віток за вітком,
віток за вітком...

Лічыць матуля гадзіны,
чакае ля тэлевізара
перадачу «Час»,
калі пакажуць яго
адтуль
на імгненне нейкае...
Здаровы, вясёлы,
усміхаецца,
перадае ёй прывітанне...
Дзякуй, сынок!
Можа, ты і герой,
можа, ты і касманаўт,
а я ж — проста маці,
для мяне ты — толькі сын,
родная крывінка...

Віток за вітком,
віток за вітком...

Цякуць слёзы радасці,
а сэрца спакою не мае,
ноччу спаць не дае
спрадвечная матчына трывога...

Віток за вітком,
віток за вітком —
бліжэй да Славы
ляціць твой сын.
Твой!
А вернецца на Зямлю
сынам усяго Чалавецтва.

## ІДУ Ў ВЯСНУ

Іду ў вясну,
                    нібы ў бацькоўскі дом
вяртаюся з дарогі дальняй.
Іду не госцем,
                    а гаспадаром
сваіх турбот,
                    лакальных і глабальных.

Іду ў вясну,
                    у сонечны прыбой,
іду ў сваю штодзённую работу,—
у мора так
                    выходзіць кітабой,
надзеўшы робу і цяжкія боты.

Іду ў вясну.
І сонцу б'ю чалом.
Іду ў вятры,
                    пад хмары дажджавыя.
Няхай грыміць над галавою гром:
іду ў вясну —
                    сваю стыхію!



Мая зямля цвіце не круглы год,
не кожны дзень над ёю сонца свеціць,—
яшчэ зашмат
                    напасцяў і нягод
з-за сініх гор
                    прыносіць чорны вецер.

Мая зямля не толькі ўсё дае:
абутак, вопратку, пітво і ежу,
яна й бярэ —
                    балюча ў сэрца б'е
прадоннасцю
                    магілы
                              кожнай
                                        свежай.

## ВЯРТАННЕ

Дзень добры, Дняпро —
светлая казка майго маленства!
З твайго крутога берага
я закідваў вуду-валасянку,
спадзеючыся злавіць залатую рыбку.
Але ці то прынада была непрывабная,
ці то рыбка была непрынадная,—
яна так і не клюнула...
І тады я перайшоў на твой другі,
пясчаны, бераг,
ён быў цёплы і мяккі,
як матчына далонь.
Я грэўся пад сонцам
і любаваўся,
як па тваёй шырокай спіне
аднекуль з невядомых даляў
прыплывалі плыты, чаўны і параходы,
не спыняліся,
плылі далей — у невядомыя далі,
пакідаючы ў памяці радасць сустрэч
і тугу развітанняў,
а ў сэрцы —
прагу да нязведанага...

Дзень добры, Дняпро —
светлая песня майго юнацтва!
Па гэтых вось лугавых сцяжынках
блукаў я шчаслівы,
наліты ружовым сокам першага кахання,
што расцвіло ў душы гарэзнай
буйным калінавым цветам.
Вясновымі вечарамі
я назіраў, як у плыткай вадзе
адбівалася зорнае неба,
і мне было ўжо мала
тваёй шырыні і глыбіні,—
сэрца рвалася ў далёкія далі,
каб прайсці лясы, пустыні, стэпы,
узабрацца на тую вяршыню,
з якой можна дастаць
самую яркую зорку
і пакласці яе ля ног каханай...

Дзень добры, Дняпро —
светлая мара маёй сталасці!
Як разумны і клапатлівы бацька,
ты не стаў тады мяне,
гарачага,
імклівага,
неразважнага,
утрымліваць каля сябе,
адпусціў ад сваіх сівых берагоў
у свет нязнаны,
каб я, гледзячы на зямныя дзівосы,
яшчэ больш палюбіў
тваю гордую спакойную плынь,
сумаваў па табе,
як рыбіна ў перасохлай пратоцы...

Дзень добры, Дняпро!
Я вярнуўся з далёкіх вандровак
на твае берагі,
цёплыя і мяккія, як матчыны далоні.

## МІЖ ДНЯПРОМ І СОЖАМ

Між Дняпром і Сожам
гэткія бары:
заблудзіцца можна
ў цёмным гушчары.

Між Дняпром і Сожам
гэткія палі:
каласіцца збожжа,
гнецца да зямлі.

Між Дняпром і Сожам
гэткія лугі,
што з травы мурожнай
не падняць нагі.

Між Дняпром і Сожам
гэткія сады,—

тонуць у іх вёскі,
тонуць гарады.

Між Дняпром і Сожам
шмат крутых дарог,
што былі прычынай
матчыных трывог.

Між Дняпром і Сожам
войны адгулі,—
косці зграй варожых
тлеюць у зямлі.

## ВЕТЭРАНЫ

Вецер узносіць штандары,
пеніцца квецень вясны.
Рыцары полымнай мары,
ідуць ветэраны вайны:
маршалы і генералы,—
золатам слава зіхціць,
прозвішчы іх у аналы
трапіць змаглі пры жыцці;
мічманы і афіцэры
энскіх часцей франтавых,
поўныя кавалеры
ордэнаў баявых;
лётчыкі і танкісты,
снайперы і маракі,
стройныя артылерысты
і пехацінцы-стралкі;
падпольшчыкі і партызаны —
нябачнага фронту байцы...
Крочаць вайны ветэраны.
На тварах іх шрамы-рубцы.
Грудзі ў вясёлках істужак.
На скронях блішчыць серабро.
У сэрцах — адвага і мужнасць.
А вочы іх зычаць дабро.

## У МУЗЕІ ГІСТОРЫІ ВЯЛІКАЙ АЙЧЫННАЙ ВАЙНЫ

Ведаю, гэта — макеты, муляжы
ды тэхніка мікраілюмінацыі,
а здаецца,
нібыта зноў стаю на мяжы
дзяцінства з юнацтвам;
чытаю
на пасечанай асколкамі браме
загады пад чарнакрылымі арламі:
«За хаванне зброі — смерць!»
«За аказанне супраціўлення — смерць!»
«За дапамогу чырвонаармейцам — смерць!»
...А дома
на вышках, за снапамі жыта,
ляжыць наш лётчык
з нагой перабітай
вышэй калена кулямётнай чаргой,
і мне трэба хоць пад зямлёй
знайсці і бінт і ёд...
Вунь фашыст
увесь свой рыштунак павесіў на плот
і ў адных трусах паклыпаў да рэчкі...
А можа,
у яго кішэні ляжыць
паходная аптэчка?..
А можа?..
Вечарам маці жагнаецца:
— Крый божа!..
Абышліся б мы без бінтоў, без ёду.
Ёсць бялізна, сушаныя травы —
зраблю настой,
прынясу ад братавай мёду,
вылечу на славу.
Выхадзілі,
паставілі на ногі,
пайшоў баец у цёмную ноч з нашага парога
здабываць Перамогу.
І зноў — трывогі, трывогі, трывогі...
Аблавы...
Засады...
Налёты...
Блакады...

Таварыш экскурсавод,
памаўчы хоць хвіліну,—
сэрца маё навылёт
прабіваюць успаміны
спаленай вясны.
...З плячэй сваіх, пэўна, цяжару вайны
да смерці
не ўдасца мне скінуць.

## БАЦЬКІ ДЗЯЦЕЙ ПЕРАЖЫЛІ

Вайна гуляла па зямлі,
ў разоры сеяла няшчасце.
Бацькі дзяцей перажылі,
самоту п'юць у светлай хаце.
Не для адной сваёй вясны
рубілі гэты зруб смалісты,
ды не прыйшлі з франтоў сыны,
дачку замучылі фашысты.
Бацькі дзяцей перажылі...
А час такі настаў — усмак
жыві, працуй, хто мае рукі.
Цвілі б нявесты, нібы мак,
былі б адзеты, сыты ўнукі.
І праязджаў бы ў госці зяць,
прывозіў з горада абновы —
знайшлося б чым пачаставаць:
у бутлях бродзіць сок вішнёвы.
Бацькі дзяцей перажылі...
Шуміць лістотай свежай клён,
плыве туман за белым садам.
Прыносіць пісьмы паштальён
ад незнаёмых адрасантаў.
Бы галасы дзяцей жывых
пачуліся каля парога:
вітаюць з Першамаем іх
і з юбілеем Перамогі.
Бацькі дзяцей перажылі...

Бацькі дзяцей пераджылі,
самоту п'юць у светлай хаце...
Жылі б інакш... Ды на зямлі
вайна пасеяла няшчасце.

## ДЗЕНЬ ПЕРАМОГІ

Запросім сёння мы на свята
вітаць наступную вясну
і генерала,
і салдата,
і нескупога старшыну,
і маладога запявалу,
і сталага палітрука,
і медсястру, што ратавала
байцоў, насіла на руках,—
усіх,
хто лёг пад абеліскі,
каго не разбудзіў салют,
як самых родных,
самых блізкіх,
пасадзім на пачэсны кут.
І будзем з імі,
як з жывымі,
законны піць напітак свой,
тытунь курыць
і ў сінім дыме
успамінаць апошні бой,
спяваць аб тым,
як свішчуць кулі,
як часта сніцца бацькаў дом...
А пасівелыя матулі
зноў будуць плакаць за сталом...

## НА ВУЛІЦЫ ЯНКІ МАЎРА

Як ветразь, жаданае сонца плыве
па сцішаным небе вясеннім.
Ад светлых дамоў наўскасяк па траве
цягнуцца сінія цені.

Бярозкі ля сцен летуценяць.
І там,
дзе ў зацішку ад стрункіх вятроў
мяжуе цяпло з прахалодай,
дзіцячых калясак стаіць доўгі строй,
нібы каля пристані лодкі
ці збілася качак чародка.
Матулі на сонцы, а дзеці ў цяньку
скверыка яшчэ не густога...
Матулі на лавачках...
Дзеці ў пяску...
Сляды ўсё далей ад парога,
нібы выбіраюць дарогу...
Не ўгледзіш —
яны ўжо, як птушкі з гнязда,
выпырхнуць з цёплых улонняў...
Матулін жа лёс — пазіраць-выглядаць
на шлях з-пад абвялых далоняў,
чакаць вестуна-паштальёна...
Язмін падрасце,
шчэ ярчэй зацвіце,
ад спёкі расплавяцца хмары...
Не сціхне ніколі смех звонкі дзяцей
на вуліцы Янкі Маўра —
дзе з явай вітаецца мара.



Зарасло чарнобылем былое,
крапівой глухою зарасло.
Тэлехвалі сёння спрытна ловіць
чуйнымі антэнамі сяло.
З важнасцю дзяржаўнай вечарамі,—
бо няма патрэбы прасці, ткаць,—
землякі сядзяць перад экранам,
перадачы трох праграм глядзяць.

Зрэдку каменцірують падзеі:
— Во размах!
— Будуем на вякі.
— Шчэ дарагаватае адзенне,
хоць і ткуць мацерыю станкі...

— Дзе там дарагое! Ў аксаміце
ходзяць і мужчыны і жанкі.
— Гэтым трэба толькі ганарыцца.
— Ну, а я што? Час цяпер такі.

Час такі.
А тое усё, былое,
адцвіло, травою зарасло...
Мы яго прыпомнім шчырым словам,
каб назад вярнуцца не змагло.

## ВЯДОМАМУ НА ЦЭЛЫ СВЕТ

### 1

У гэты майскі юбілейны дзень,
віншуючы працаўнікоў завода,
мы ў думках дзень за днём і год за годам
назад гартаем каляндар падзей.

І ёсць якраз цудоўная нагода
успомніць добрым словам тых людзей,
з чыіх крылатых мар і спорных дзей
снаваўся гонар усяго народа.

Прыйшлі героі з вогненных франтоў,
стваральнай працай рубцавалі раны:
капалі для падмуркаў катлаваны,
стаўлялі кроквы з промняў і вятроў.

І дужа не любілі ветэраны
пустапарожніх — хоць і гучных — слоў.

### 2

На ўзлессі выраслалі карпусы,
напоўненыя працавітым гулам.
І неўзабаве вестка ўсіх кранула,—
з канвеера сыходзіць першы «сын».

Дасужыя ва ўсякія часы,
у аб'ектыў лавілі фотакоры

рубчастых колаў елачныя ўзоры,
капот нязвыклай формы і красы.

Ён тут жа паказаў імпэт юначы,
калі, пачаўшы шлях з палос газет,
на нівы пацягнуў свой след гарачы.

Наўрад ці хто з нас мог тады прадбачыць,
што трактара імклівы сілуэт
вядомым зробіцца на цэлы свет.

3

Мурзаты хлопец падруліў яго
да ўрадавай — у чырвані — трыбуны,
як трактар, сам ён быў надзвычай юны
пад трапяткімі промнямі сцягоў.

Тыповы прадстаўнік рабочай руні,
сын пакалення гордага свайго,
ён прыгажэйшы быў за ўсіх багоў
у пераліве мускулаў чыгунных.

Умела ён машынай кіраваў.
А заглушыў матор, на сонца глянуў,
па сіняму крылу далоняй ляснуў

і — светлая надзвычай галава —
прамовіў важна з мудрасцю сялянскай:
— Без ворыва не будзе і жніва.

4

«Без ворыва не будзе і жніва»,—
спрадвеку так гавораць у народзе.
Яшчэ пасеяць трэба, заскародзіць,
інакш заглушыць паласу трава.

Таму так шчыра дбаюць на заводзе,
каб трактар мог надзейна працаваць,
не ленаваўся і не прыставаў
у самым важным — за жыццё! — паходзе.

Пад коламі не вечна будзе брук,—
машыне рупнай не патрэбны ружы,
ёй лепей дай вынослівасць і дужасць.

Рабочы хлебаробу шле вітанне.
Няма мідзе мацнейшага яднання,
чым шчыры поціск працавітых рук.

## УДЗЯЧНАСЦЬ

Дзякуй вам, мама і тата,
за тое,
            што вы ніколі
не песцілі мяне і не казалі,
што я — самы-самы разумны
і самы паслухмяны хлопчык.
Таму я і па сёння
не хаджу ў любімчыках лёсу,
не ведаю смаку дармовага хлеба
і хмелю незаслужонай пашаны.

Дзякуй вам, школьныя настаўнікі,
за тое, што вы ніколі
не ставілі ў мой дзённік
завышаных ацэнак.
Таму я і па сёння
лічу сябе невукам,
прагна чытаю мудрыя кнігі,
хачу знайсці ў іх адказ
на самае галоўнае пытанне:
як жыць,
                каб людзям прыносіць карысць.

Дзякуй вам, мае камандзіры і начальнікі,
за тое,
            што вы ніколі
не пакідалі мяне на запасных пазіцыях
і не прымушалі строй раўняцца па мяне.
Таму я і па сёння
адчуваю сябе навабранцам
і маю многа сяброў,
на якіх раўняцца мне ўсё жыццё.

Дзякуй вам, суровыя крытыкі,
за тое,
што вы ніколі
твораў маіх не хвалілі,
з мяне не рабілі ўзору,
не ўзнімалі мяне на п'едэстал славы.
Таму я і па сёння
з бояззю гляджу на аркуш чыстай паперы,
да пацямнення ў вачах шукаю
тое адзінае слова,
якое павінен сказаць людзям толькі я,
а яно кожны раз уцякае ад мяне,
пакідаючы асалоду адкрыцця на заўтра.
Дзякуй вам,
мае добразычліўцы!

## МЯДЗЕЛЬСКАЯ ВЕНЕРА

Яна ішла па кладцы хісткай,
Венера мядзельскіх азёр,
бы ў цырку спрытная артыстка
па тонкім дроце ў ззянні зор.

Нейлонавы купальнік чорны
прыгожа станік аблягаў.
Уроскід рукі.
Непакорна
адкінутая галава.

На вуснах зайчыкі гулялі,
што праз альховую ліству
прабіліся з касмічных даляў,
каб памаліцца хараству.



Мяне вятры спыніць хацелі,
сцябалі, гнулі да зямлі;
ад стомы ногі аж гудзелі,
ды ўпарта ўдалячынь ішлі.

Мяне агні спаліць хацелі,
кідалі з полымя ды ў жар,
а мне ўсё больш і больш карцела
ляцець увысь на крылах мар.

І маразы скаваць хацелі,
каб я гарачкі не пароў,
пяклі — аж скура ледзянела,
але не стыла ў жылах кроў.

Яшчэ дажджы прыспаць хацелі,
лізалі лёсткамі парог,
ды я мяняў цяпло пасцелі
на гул мастоў і пыл дарог.

Напасці розныя хацелі
мяне зваліць і задушыць,
ссушылі, зранілі ўсё цела,
ды не знявечылі душы.

І перуны забіць хацелі,
ахвярна кінуць у жарству,
маланкамі цалялі ў цемя,
ды не патрапілі — жыву!

Нясу ў вачах я неба ўсмешку,
народу роднаму служу
і «Дзякуй!» за крутыя сцежкі
калісьці лёсу я скажу.

### ЯБЛЫК НЬЮТАНА

Не ўсяму здароваму
наканавана доўгае жыццё.
Не ўсё хворае
асуджана
на смерць і забыццё.

Рэжа каса маладую траву,
Спелае збожжа ідзе на млiва...
А яблык,
што Ньютану ўпаў на галаву,

Быў жа, напэўна,
гнілы ці чарвівы,—
Інакш — не ўпаў бы.
І колькі шчэ год
Не быў бы адкрыты
Закон прыцягнення...
Справа не ў тым,
які быў плод,
А ў тым,
што думцы
ён даў памкненне.

## КАЛІ ГЛЯДЗЕЦЬ З ВЫШЫНІ

Раве, кіпіць бязмежная
стыхія вадзяная,
аж скалы прыбярэжныя
адчаем выцінае,
нібы лавіна конная
падковамі дол месіць.
...На мора неспакойнае
глядзіць спакойна Месяц.



Не цугляйце, хлопцы, песню
пад гітарны ўсхліп.
Нечым юным,
нечым вешнім
пахне лісце ліп.

Вы ж бароды, як сумёты,
распусцілі,— проста смех,—
наганяеце сумоту:
— Сне-е-е-ег, сне-е-ег, сне-е-е-ег...

Снег, ён іншы раз бывае
лепшы за траву,

калі мроя маладая
кружыць галаву;

калі ёсць каханне ў сэрцы,
дык не страшны й лёд,—
вы на слова мне паверце,
досьбіты барод.

Ці ж не юным,
ці ж не веснім
пахне лісце ліп?
Не цугляйце, хлопцы, песню
пад гітарны ўсхліп!

Дайце ёй прастор і волю,
дайце ёй разгон,
каб да ранку ў чыстым полі
разлягаўся звон;

каб запеўкаю бадзёрай
абтрусіла сад
і з-пад матчыных назораў
выгнала дзяўчат,—

тых, што кожнаму да пары
не стае якраз,
без якіх рыпяць гітары,
як засохлы вяз.

## МАЙСКІЯ РУЖЫ

На муаравай стужцы ночы,
як бронзавы медаль
параненага салдата,
захістаўся поўнік.

Гэта недзе
ў сухую асіну
ударыў пярун,
разбудзіўшы лябёдак
на сонным возеры.

Яны замахалі крыламі,
раздзьмухалі пажар
світальнай зары.

А ў бэзавым скверыку
закаханыя зліліся вуснамі,
і ў іх сэрцах
адначасова расквітнелі
дзве ружы:
белая
і чырвоная.

## СКУЛЬПТАР

Вечарам майскім,
калі па-над лугам
клубіўся туман,
зацвіталі сады,—
сэрца тваё
скамянела,
аглухла,
і ад мяне ты пайшла назаўжды.

Знікла,
прапала,
нібыта растала...
У сэрцы пакінула
скруху і боль...
Сэрца ж не хоча з марай расстацца,
сэрца шукае сустрэчы з табой.

Свет абышоў.
Не было ўжо надзеі...
Сёння ж
пасля векавой слепаты
ў мармуру глыбе
ўбачыў цябе я,
хоць і старанна схавалася ты.

Кажуць, што ма́я ніхто не вяртае,
толькі хіба што мільгне ён у сне...

Мармур
я знішчу,—
і ты, як жывая,
прыйдзеш —
ужо назаўжды! —
да мяне.

## БАСАНОЖКІ

На вітрыне
ў магазіне
сярод модных туфелек
сіратліва,
сарамліва
басаножкі туляцца.

Басаножкі,
басаножкі —
замшавыя пасачкі,
хто абуе
вас на ножкі,
стане на абцасікі?

Па-дзіцячы
выхваляцца
будзе хто абноўкаю?..
Хто абуе?
Хто разуе
ножкі цёмнай ночкаю?..

## РАЙСКІЯ ЯБЛЫКІ

— Мама, зірні —
зацвілі нашы «райкі»!
— Моду ўзяла ўжо:
да ранку гулянкі...

— Зàвязі, мама,
на голлі багата.
— Зноў ты прыбралася,
нібы па свята...

— Мама, плады
паліваюцца сокам!
— Каханне — не сокал,
не ўзносіць высока...

— Райскія яблыкі,
мама, паспелі!
— Кахай, ды глядзі,
каб ні-ні да вяселля!..

— Яблыкі райскія
ела я з любым...
— Купляй жа, дачушка,
вэлюм да шлюбу.

## МАНАЛОГ ЗАКАХАНАГА

Вечарам,
калі туманы прыцягнуць з лагчын свежасць,
а ўсе скнары замкнуць дзверы на замок
і на мулкіх ложках будуць сніць
уяўнае сваё багацце,—
мы з табой
пойдзем за ваколіцу,
дзе мёдам пахне луг
і ў алешніку аж заходзяцца салаўі;
на маладой траве
ты абдымеш мяне,
акрыеш цёплай хусцінай свайго пачуцця
і як гаспадыня
павядзеш у жаданы дом,
які завецца каханнем...
І калі апошняя маланка
пакіне тваё дрыготкае цела,
мы ўбачым раптам над сабой
зорнае неба,
такое блізкае,
як дрэва, асыпана росамі.

Заснем мы ў сусвеце.
І будуць нам сніцца
толькі зоркі.

## МАНАЛОГ ЗАКАХАНАЙ

Прыходзь, мой любы,
прыходзь, мой харошы,
прыходзь не госцем у жаданы дом —
прыходзь назаўсёды ў сэрца!
Я не мару пра высокія зоркі,—
прышытая да цябе іголкаі чакання,
увесь дзень правяла ў клопатах,
увесь дзень рыхтавала для цябе пачастункі:
з кужалю цнатлівасці
выткала чысцюткі абрус вернасці,
засцялю ім стол роднасці,
пастаўлю перад табой
поўныя місы добразычлівасці,—
на здароўе!
Налью поўныя кубкі шчырасці,—
на здароўе!
Пі асалоду жыцця,
пі мёд маіх вуснаў!
Пі,
пакуль я не навучылася
варыць атруту здрады...



Мне сніліся рукі твае —
пяшчотныя і нясмелыя,
кволыя,
ціхія,
белыя.

Мне сніліся рукі твае —
даверлівыя і гарачыя,
смуглыя,
мяккія,
ўдзячныя.

Мне сніліся рукі твае —
спакуслівыя і прынадныя,
гнуткія,
палкія,
ўладныя.

Мне сніліся рукі твае...
А я не ўтрымаў цябе, родную,
сваімі рукамі халоднымі...



На тысячу жыхароў —
адзін магазін.
На пяць тысяч жыхароў —
адна школа.
На дзесяць тысяч жыхароў —
адна бальніца.
На тры мільярды людзей —
адно сонца.
Якую ж сілу трэба мець,
каб саграваць
усю планету!

## У МАМЫ НА РУКАХ

Спіць у мамы на руках сынок,
залюляны мараю салодкай,
нібы,
склаўшы крыльцы,
матылёк
спіць пад ласкай сонца на пялёстках.

На руках у мамы хлопчык спіць.
А на ганку летні ветрык лёгкі
ходзіць,
хоча дзверы адчыніць
у няхнаны свет,
у свет шырокі.

Хлопчык спіць у мамы на руках...
Можа, сніць сябе дарослым надта
у прыгожаі форме марака
ці ў бліскучым шлеме касманаўта.

Пройдзе час —
і стане явай сон:
выйдзе ў мора, узляціць пад хмары,
працай рук нястомных будзе ён
маладзіць вясновыя абшары.

А пакуль — маленечкі сынок
на руках у мамы спіць салодка.
І жывы трапеча матылёк
над ягонай ільняной галоўкай.

## ВЯЧЭРНІЯ ЦЕНІ

Па скверыку асенняму
іду я спакваля.
Гараць агні вячэрнія,
і ценямі-спляценнямі
услана ўся зямля.

І цень мой завіхаецца
у крузе ліхтара:
танцуе,
і крыўляецца,
і за спіну хаваецца,
вялізны, як гара.

Не заўважаю холаду
і кропель дажджавых.
Мне весела і молада,
ступаю крокам волата
па ценях нежывых.

## ІМКНЕННЕ

А я сваё жыццё пражыць
імкнуся так:
браць па-салдацку рубяжы
ў агні атак,
а не паўзці, як слізкі вуж,
далей ад грому, лютых сцюж.

Імкнуся ў дружбе з песняй быць,
спяваць аб тым,
як добра, як шчасліва жыць
ў краі маім
таму, хто з чыстаю душой
на шлях працоўны узышоў.

Імкнуся той куток зямлі
не разлюбіць,
вучыўся дзе араць палі
і слёзы ліць
над кветкай, стоптанай канём,
і над забітым птушанём.

Там, сярод кветак і трысця,
пачатак быў
любові шчырай да жыцця,
да барацьбы.
Так, барацьбы! — не дзеля славы,
не дзеля выдумкі-забавы.

А барацьбы за светлы мір
для родных ніў,
за тое, каб прастораў шыр
штодня будзіў
не злосны свіст варожых мін,
а гімн працоўны — гул машын.

## РАДАСЦЬ ЖУРНАЛІСТА

Бяжыш, спяшаеш —
не спазніцца б
на месца радасных падзей,
навін старонак, можа, трыццаць
збярэш у свой блакнот за дзень,
каб раніцою
працы сведкай
дыхнула чытачам у твар
двух-трохрадковая заметка
з кароткім подпісам:
Наш кар.

Каму там з чытачоў газеты
цікавы аўтар двух радкоў?!
Ты ж рад,
бо радасць і не ў гэтым,
а ў тым,
што расказаў ты свету
пра дасягненні землякоў.

## ЦЁМНЫ ЛЕС

На станцыі Цёмны Лес
лесу няма і ў паміне.
Тут з цягніка я злез
і злезці памог дзяўчыне.
Чатыры ношы ў яе:
кошык
і тры чамаданы.
— Дазвольце, я вам паднясу.
— Адстанеце ж...
— І адстану!

З'яўлюся тваім бацькам,
скажу:
«Вось, прымайце зяця,
хоць непрыгожы сам,
ды, бачыце, колькі багацця!..»
Напэўна ж, купіла шмат
кніжак,
прысмакаў,
адзення?
Цяжкі чамадан, акурат
зямля ў ім
ці, можа, каменне?..

Смяецца:
— Гэткі «калым»
прывабіць не тату з мамай,
а тых,
хто марыць галы
забіць у вароты «Дынама».
З'явіліся як з-пад зямлі
тут хлопцы,

дзяўчыну сустрэлі,
з рук маіх ношы ўзялі,
прыўзнялі:
— Ого, і гантэлі!

Панеслі свой спортінвентар
будучыя чэмпіёны.
А нас
электрычны ліхтар
павёў між цяністых клёнаў.

— Як добра, што тут я злез,—
ціха кажу я дзяўчыне.

...На станцыі Цёмны Лес
цемры няма і ў паміне.

## ЖУРАВЕЛЬ

Жвавым жураўлём
я выпырхнуў з гнязда маленства,
як толькі ў мяне пачалі адрастаць крылы.
Крычаў ад радасці,
выхваляўся:
— Я ўмею лятаць,
я нікога не баюся!

Лез у бойку
з іншымі птушкамі,
такімі ж маладымі і дзёрзкімі,
як сам.

У бітвах
разгубляў пёры са сваіх крыл.

А цяпер
не маю на чым
вярнуцца ў гняздо маленства.

Можа, гэта і добра?..



Надакучыў мне гасцінец,
гладзенькі ды роўненькі...
Захацелася прайсціся
крышачку шурпатым.
Надакучыла мне быць
чысценькім, харошанькім...
Захацелася пажыць
крышачку праклятым,
Крышачку праклятым,
Крышачку забруджаным,
Языкатымі суседкамі
Добра перасуджаным:
«Ён такі,
Ён сякі,
Усё ж даскакаўся...
Ты заўваж,
Ты разваж,—
Колькі прытвараўся?!.
І вось...»

А што «вось»?
Проста ўбачылі мяне такім,
які я ёсць,
Якім быў,
Якім буду ўвесь свой век,
Бо і я ж —
чалавек.

## МАРСКІ САНЕТ

На моры не бывае цішыні...
Гайдаецца зялёнае бязмежжа,
карункі вяжа з пены беласнежнай.
Па грэбнях скачуць водбліскі-агні.

Калі плывеш па роўнядзі мярэжнай,
цвярозымі вачмі пад кіль зірні,—
і ўбачыш, як у цёмнай глыбіні
віруюць сілы вольніцы мяцежнай.

Яны збяруць у гурт свой дзікі хмель,
знянацку ўдараць у абшыўку шквалам.
Па швах аж затрашчыць
твой карабель,

узняты на дыбы дзевятым валам.
...А заўтра хвалі подыхам апалым
яго, як трэску, выкінуць на мель.

## ЗЯЛЁНАЯ КНІГА

Мініяцюры

Зялёнай кнігі светлыя лісты,
панова кожны год я вас чытаю,—
як да крыніцы мудрай прастаты
засмяглымі губамі прыпадаю.

### Рупіць мне

Дзень вясновы —
пяшчотны, пагодны.
Так і рупіць мне
кеды абуць,
кінуць іншым
за славай пагоню,
п'едэсталаў
і лаўраў дзяльбу,
выйсці ў поле,
на родным улонні
піць паветра з далінных далоняў,
слухаць медную сонца трубу.

### Бусел вярнуўся

Лес апрануўся ў лістоту,
грывай зялёнай трасе.
Бусел вярнуўся з палёту,
ладзіць гняздо на страсе.

## Сасонка

Што ёй буркатня-гамонка
старамодных цётак дрэў!
Выйшла юная сасонка
на палянку,
на прыгрэў;
ветру плечы падстаўляе —
абдымай мяне, мілуй!
Сонцу шчокі падстаўляе —
саграваў мяне, цалуй!

## Раса

Гэта травы плакалі ўсю ноч —
думалі,
што сонца іх пакінула.
Узышло яно,
і травы зноў
плачуць слёзна — ад вялікай радасці.

## Зямля трымае

Ударыла маланка
ў дуб,
спаліла, звугліла
ўвесь чуб,
але не збіла з ног
камля,—
трымае родная
зямля.

## Дарога

Дарога бяжыць
праз палі і лясы,
праз узгоркі і лагчыны,
паўз гароды і сады,
сшывае суровай ніткай
вёскі і гарады.
Дарога водзіць людзей
шукаць здані надзей.
Па дарозе ж і надзеі
уцякаюць ад людзей.

### У бярэзніку

Пад нагамі ўжо не брук —
сцежачка-дарожка.
Сеў на грудзі майскі жук,
як жывая брошка.

### Сонца і кветка

У сонца кветка запытала:
— Услаўлю чым я геній твой?
І сонца кветцы адказала:
— Сваёй маўклівай чысцінёй.

### Бярозавы ліст

Ліст бярозы падобны да сэрца,
што гарэза падлетак нажом
выразае на парце крадком,
каб засведчыць «каханне да смерці».
Ліст бярозы ў жніво пажаўцее,
панясуць яго ўдалеч вятры.
І «каханне да смерці» згарыць,
не пакінуўшы ў сэрцы надзеі.

### Кантраст

На Лысай гары
сунічнік расцвітае.
З цёмнай нары
гадзюка выпаўзае.

### На абочыне

Няхай хтось наперад імкнецца, як вецер.
Я збочыў з дарогі,
прысеў на мурог,—
мінулых гадоў мне дарогі не вернуць,
не вернуць гады мне ранейшых дарог.

### Як выбух бомбы

Мне лес наверыў і даверыў
зацішак свой, святло і цень.

І раптам ціхі стук сякеры —
як выбух бомбы ў мірны дзень.

### Ода пырніку

Колькі разоў
я сваімі рукамі
з карэннем цябе вырываў
і шпурляў за плот,
знішчаючы
і праклінаючы
ўвесь твой род.

А праз дзень
зялёным няпрошаным дзівам
ты зноў вылазіў з зямлі,
усміхаўся небу,
хмурае яно ці яснае,—
табе ўсё роўна,
бо ты не баішся
ні дажджоў,
ні туманоў,
ні спёкі,
ні золкіх вятроў.

Вось і я,
калі падобным да цябе стану,
буду жыць доўга — мільёны гадоў.

### Гром

Дзесьці далёка,
за глухой сцяной сіняга лесу,
спіць гром.
Калі крылатыя вятры-непаседы
яго разбудзяць,—
прыляціць у наш край
навальніца.

### Шаптуха ліпа

Ад крыўд, папрокаў і дакораў,
ад сумятні і калатнечы,
як ад урокаў, нагавораў,
мяне шаптуха ліпа лечыць.

### Стракаты верш

Фарбы
з кветак усіх
сабяру,
сатку з іх
стракаты верш,
пацвялю ім
зайздросных сяброў па пяру —
паэтаў і паэтэс.

### Пенсіянер

Павіс мост новы над Дняпром,
два берагі злучае.
Пайшоў на пенсію паром —
на пляжы загарае.

### Спёка

Пшаніца
смыліцца
ад спёкі,—
мо градусаў сорак па Цэльсію...
Над нівай
маўкліва
аблокі
плывуць пахавальнай працэсіяй.

### Вавёрка

Бяры, вавёрка,
сухары
з маіх спагадлівых далоняў,
хай хвост твой шчэ ярчэй гарыць
у сполаху ружовых промняў!

І чую, шэпча мне звярок:
— Спажывы шмат на вашых дачах,
ды не вазьму я сухара знарок,
каб не прывыкнуць да падачак.

## Рамонкавая паляна

Пастарайся прыйсці сюды ліпеньскім ранкам,
калі промні ў лагчыну спіхнуць сіняву,—
мікракосмас адкрые лясная палянка,
дзе рамонкі, як зоркі, у вечнасць плывуць.

## Вечар

Сонца ўпала спелай грушай,
наступае вечар.
Да мядовых вуснаў ружы
прыпадае вецер.

## Ноч

Ноч абрысы паламала,
сцерла ўсе малюнкі дня,—
там, дзе праўда задрамала,
прачынаецца хлусня.

## Зона адпачынку

Не свежым памётам ласіным —
дымам прапах сіні бор:
пад кожнай ялінай — машына,
на кожнай паляне — касцёр.

Пратоптаны тысячы сцежак,
зламаны мільёны сукоў.
Няма казлякоў, сыраежак,
не тое — каб баравікоў.

Звіняць неўгамонна гітары,
п'янеюць басы-галасы...
Ад шуму, задухі і гары
ўцякаюць у горад ласі.

## Клён

Клён крыўляецца, як мім,
прытвараецца нямым,
пругкім голлем, як рукамі,

дамаўляецца з вятрамі,
каб яны прэч адляцелі,
бо лісты шчэ не зжаўцелі.

### Для шчасця трэба

Пад васільковым родным небам
пасля касьбы,
пасля хады
для шчасця трэба:
скібка хлеба,
карэц калодзежнай вады,
шчэ самакрутка з самасаду,
шматочак ценю пад вярбой
і слова шчырае спагады
зямелькі грэшнай,
ды — святой.

### Жнівеньскія зоры

Жнівеньскія зоры —
нібы памідоры,
спеюць, чырванеюць проста на вачах,
закаханым дораць залатыя горы,
у краіну шчасця вызначаюць шлях.

Не чакаю дзіва,—
час бяжыць імкліва,
працаю руплівай упрыгожу дом.
Звоніць зернем жнівень —
будзе многа мліва,
па зямлі хадзіць мне белым млынаром.

### Царыца-рабіна

На пагорачку рабіна —
як на троне:
ззяюць ягады-рубіны
у кароне.

Явар — паж яе дасціпны,
ды не строгі,
медзякі даверу сыпле
мне пад ногі.

### Халодны душ

З хмар няспынна дождж цярушыць,
рабаціць рачную сінь.
Гнуцца пад халодным душам
спіны голыя асін.

### Ліст жаўцее

Ліст жаўцее не ад злосці,
чырванее не ад сораму,—
гэта восень
зноў у госці
крочыць
родньімі прасторамі.

### ЛІПЕНЬ

Беліцца ў промнях глыбокае неба.
Дыхае поле водарам хлеба.

Сонечным пылам усыпаны сад.
Дрогка сінее ў смузе далягляд.

Цяжка хістаюцца спелыя травы.
Іскрай мігціць матылёк маладжавы.

Вецер, як вожык, скруціўся ў клубок,
Адпачываць закаціўся ў цянёк.



За дзень не ўбачыш чалавека,
пустуе старадаўні шлях —
змяло машынным нашым векам
з дарог вандроўнікаў, бадзяг.
А мне карціць на золку выйсці,
адчуць нагамі золь расы,

прывеціць вербы з мокрым лісцем,
рукой пагладзіць каласы,

паслухаць, як перад касьбою
звініць пад ветрам сенажаць,
і душны водар травастою
на грудзі поўныя ўдыхаць.

## ЯСКОЛКА

Кветкі,
кветкі...
Стракатай прынадаю
сталі раптам усе паплавы.
Валяр'янку,
цыкуху цыбатую,
цягне сонца
за вушы з травы;
дзьмухаўцы залацяцца пацешныя,
меладычна званочкі звіняць,
ды рамонкі блішчаць беласнежныя,
смолкі іскрамі ззяюць-гараць;
а далей —
наліваюцца просінню
васількі,
сінякі,
сіняцвет,—
нібы самі ўсе кветкі просяцца
у букет.
Толькі я іду міма:
крыклівыя,
выстаўляеце ўсё напаказ.
Вунь у яры
ясколка маўклівая,
а куды прыгажэй за ўсіх вас;
у цянёк сарамліва хаваецца
ад праменняў,
ад прагных вачэй
і нікому яна не ўсміхаецца,
а ўсміхнецца — душу апячэ.

## ЗА ЯГАДНЫМ ЛЕСАМ

За ягадным лесам
ёсць тое балота,
дзе сонца начуе
ў чубатых чаротах.

Прачнецца, памые
расою твар чыста
і ўстане над краем
іскрыстым гарністам.

Я ж ведаць не ведаў,
з адбітай касою
прыйшоў і скасіў
той чарот з асакою.

Скасіў, задаволены
крочу дахаты.
А сонца назаўтра
устала мурзатым.

Няма дзе заспаны
памыць яму тварык,—
ад сораму зрана
схавалася ў хмары.

І з неба сыпнулі
дажджы заліўныя.
А хто ж мне прасушыць
пракосы тугія?

А хто ж мне завяліць
істужкі-лісточкі,
калі дождж ліецца
ад ночкі да ночкі?

Гавораць прыкметы,
гавораць прагнозы:
— Дашчэнту згніюць
твае, браце, пракосы.

Згнілі... Бо свяціла
пакінула травы,

пакуль не ўзнялася
чароту атава,

пакуль не змагло яно
ўмыцца расою...

З тых пор больш прытном
не махаю касою:

баюся з гарачкі
зноў спляжыць балота,
дзе сонца начуе
ў чубатых чаротах.

## ГРЫБНІКІ

Сасняк-дзівак
зняверыўся,
ашчэрыўся
іголкамі колкімі,
закрыў,
заступіў
сцежкі-мярэжкі.

А нам
няўцям:
чаго,
каго
баіцца,
імгліцца
кастрыцай-іглiцай?

З кашамі,
з нажамі
ідзём-брыдзём
між сонных сасонак
да сініх асінак,
да клёнаў зялёных.

Не выбіраем,
спрытна зразаем
шапкі-галоўкі

абабкам,
радоўкам,
ваўнянкам,
бялянкам,
таўстушкам,
гаркушкам.
Абы — грыбы!



У верасні святлее чарналессе,—
жаўцяць ліству начныя халады.
У выцвілай траве паміж алешын
растуць ваўнянкі, рыжыкі, грузды.

Я іх люблю збіраць. Устаў на золку,
у гумавыя боты ціха ўлез.
Туманна. Золка. У руках кашолка
рыпіць, трывожыць яшчэ сонны лес.

Ці ж сонны? Прыглядаюся паволі
да ўмяцін на ствалах і на траве.
Мы, людзі, спім. А лес не спіць ніколі —
шуміць, расце, змагаецца, жыве.

За ноч расой набраклі павуціны,
халоднай плазмай ліпнуць да шчакі.
Вядзе ў асіннік свежы след ласіны,
узрылі мох галодныя дзікі.

Зямля бугрыцца над крацінай норкай,—
упарты землякоп не ведаў сну.
Мільгнула ценем жвавая вавёрка
і вёртка шмыганула на сасну.

А во і рыжык,— выгнуўся, зламаўся,
ружовую рашотку паказаў.
Не толькі сам ён дэмаскіраваўся,
а й цэлы полк сваіх сяброў прадаў.

Нажом зразаю бледныя галовы —
няма ўжо на ратунак ім надзей!
...А сонца ўстала собалем барвовым,
і новы дзень спакойна ў лес ідзе.

## ЧАЙ

Будзь разважлівай, жонка,
не сварыся дарма,
лепш мне чай завары чаборам і ліпавым
цветам.
Сёння ноччу
ў мяккіх валёнках
прыйдзе ў горад зіма,
з вуліц прагоніць духмянасці лета.

Замяце завіруха...
Прыпудрыць двары
і шчокі дамоў
шатраванае мліва.

Без адценняў,
як радасць і скруха,
раніцою ў акно чорна-белы зірне дрэварыт
на пушкінскія матывы.

Нам жа трэба з табою
ў кватэры ўтрымаць
успаміны пра пахі і колеры лета...

Чуеш,
крадзецца хітрай лісою
ў нашы сэрцы зіма?..
Ты мне чай завары чаборам і ліпавым цветам.

## ЗАСТОЛЬНАЕ СЛОВА

Шчэ даўно калісьці
ў час гаркотны
склаў
такую прымаўку
народ:
«Ні тугі,
ні крыўды,

ні маркоты
не насі ў душы пад Новы год».

Як цяпер яна нам падыходзіць!
Як яна па-новаму гучыць!
Добра мы жылі
ў мінулым годзе,
яшчэ лепш
у новым
будзем жыць!
Для тугі
няма ў нас месца ў хаце,
поўнай шчасця,
радасці,
святла.
Келіхі з краямі налівайце,—
нам сястрой
маркота
не была!



А нам бы ў лес,
у самы дзікі,
дзе стыне ў снезе
ельнік колкі,
куды не далятаюць крыкі:
— Го-о-орка-а!
— Горка-а-а!

Там без прымусу,
без прынукі,
без кепікаў,
намёкаў грубых
сальюцца ў шчырым пацалунку
губы.

## У БЕЛАЙ МАЎКЛІВАСЦІ

> Гэта адвечная мудрасць —
> уладарная, узнесеная над светам —
> смяялася, убачыўшы марнасць жыцця,
> безнадзейнасць барацьбы.
>
> *Джэк Лондан*

Нацягнула зіма
на зямлю
свой белы саван
і ў твар сонцу
халодным аскалам
смяецца:
«Што, нацешыўся прыжыццёвай славай,
былы бог Жыцця?
Паслухай жа прысуд вечнай багіні Смерці:
улады тваёй не было і не будзе!
Веліч тваю прыдумалі людзі,
мудрасць твая — балбатня пустая,
бо ўсё, што нараджаецца,— памірае».

Сонца моўчкі слухае
злосную буркатню зімы
(перад нахабствам падчас пасуе і само
свяціла),
сонца маўчыць...
А ружовая пупышка сасны
набухла жывіцай,
на свет праклёўваецца сціпла.



Мне сівізна — не навіна,
а даўняя радня.
Была вясна — гула вайна,
мог спапялець штодня.

І ў летні дзень — кароткі цень:
жніво ды сенакос.
Вёз без падмен у дождж, сухмень
турбот паўнюткі воз.

А ўвосень зноў — на збор пладоў.
Ад золкае расы,
ад тумаоў, ад маразоў
бялелі валасы.

Лёс не браню — а сівізну
даў на апошні крок,
каб у зіму я сігануў,
як заяц-белячок.



Няма і ў ціхім лесе
гарантый ад бяды.
На свежым пульхным снезе —
ваўчыныя сляды.

Бы толькі што драпежнік —
падпалыя бакі —
з алешніку ў арэшнік
галёпаў нацянькі.

Галодны і азяблы,
забыўшы ўсякі страх,
з разяўленаю зяпай
ён зыркаў па баках,

шукаў сабе ахвяру,
спыняўся, нюхаў пні,
на жываце поўз ярам,
стаяў каля сасны,

спрактыкаваным вокам
уважліва сачыў...
Напружыўся і — скокнуў
праз цёмныя карчы...

Скрываўленае пер'е
чарнее каля пня,—
якаясьці цяцера
папала ў пашчу звера...

І зноўку — цішыня...
Няма ж і ў ціхім лесе
гарантый ад бяды:
пайшлі далей па снезе
ваўчыныя сляды.

## НА ЛЫЖНАЙ ПРАГУЛЦЫ

Раз, два!
Левай!
Правай!
Успамінаю маладосць,
іду паходкай жвавай,
на поўныя грудзі ўдыхаю свежае паветра.
Незляжалы снег парыпвае ветла.
А навокал —
такая прыгажосць:
белыя далі, сінія цені!..
Думкі заснулі...
Не спяць летуценні:
бачу сябе багатым і знакамітым,
лаўрамі ўвітым
аўтарам бессмяротнага праекта,
які вызваліць тысячы рук ад цяжкой
працы...
Мае партрэты — ва ўсіх газетах...
Усе рэпрадуктары крычаць мне:
«Слава! Слава! Слава!»
Раз, два!
Левай!
Правай!
Якая прыгажосць:
сінія цені, белыя далі!..
Суровую рэчаіснасць яны нагадалі:
прыйшла яшчэ адна зіма,
падсыпала мне сівізны ў скроні,
а ў мяне як не было, так і няма
вялікага плёну:
добрыя задумы пакрыліся плесняй
іржавай,
гусцее на карку абыякавасці поўсць...

Раз, два!
Левай!
Правай!
Якая прыгажосць:
белыя далі, сінія цені,
сінія цені, белыя далі...
Далі...
Цені...
Белыя...
Сінія...
Сінія...
Белыя...



Зямля пад снегам —
вабная жанчына,
а сонца ў небе —
поўны сіл мужчына.
Жанчына спіць
пад прасцінаю белай,
мужчына воддаль
тупае нясмела,
і з кожным днём
яму ўсё больш карціць
жанчыну
пацалункам разбудзіць.
Усё бліжэй, бліжэй
ён падступае,
па твары
прагным позіркам блукае,
любуецца
святлом на юных шчоках,
дыхнуў на кудзеркі
над вокам,
на ружы вуснаў глянуў —
не ўстрымаўся,
прыпаў да іх
і ўжо не адарваўся...



Пастукала сонца —
мой друг залаты —
у шыбу рукою гарачай:
— Заседзеўся, браце,
над вершамі ты,
вясну праваронiш, няйначай.
Паслухай, як звонка
звiняць капяжы,
вятрыскі шугаюць над гаем.
Зiрнi — каля ўзлесся
паветра дрыжыць,
пупышкi бяроз набухаюць.
Я сшытак адклаў
і хутчэй — на прастор,
на волю,
пад сонца,
пад вецер,
туды, дзе ласіныя пацеркі
бор
на гнуткае вецце
развесіў.
Там, думаю, першым
змагу я вясну
сустрэць на праталінах цёплых,
на поўныя грудзі паветра ўдыхнуць
і сокаў напіцца жыццёвых.
Ды што гэта?
Праўда, спазніўся, дзівак,
праспаў,
праваронiў,
прамарыў...
Не я,
а сусед мой — гарэза юнак
вясну ўжо вядзе
па бульвары.
Семнаццаць гадоў ёй.
Пагляд аж пяе...
На шчоках — ружовыя ўспышкі...
І грудзі
пад тонкім жакетам яе —
тужэй,
чым на дрэвах пупышкі.

## ЗЕМЛЯТРУС

Уздрыгнула планета
хрыбтом Кардыльер,
у трывозе прыціхлі
і джунглі і пушчы,—
гэта зноў землятрус,
як раз'юшаны звер,
клетку мудрай прыроды
зубамі раструшчыў.
Быў на волі імгненне,
бяды ж натварыў —
будуць людзі гадамі
жахацца ўспамінаў:
сотні жыццяў забраў
і дамы разбурыў,
пакалечыў людзей,
пакалечыў скаціну.
І схаваўся, і знік
зноў у нетры зямлі,
без трыумфу фанфар,
пераможнага балю,
беззаконны ўладар
сініх гор і далін,
безразважны забойца,
бязмэтны знішчальнік.
Цяжка нам зразумець
гэты гнеў нізашто,
гэту помсту наўгад,
баязлівую смеласць —
не людское ўсё гэта.
Хто ж напраўду ён?
Хто:
прагны раю нячысцік
ці бог ашалелы?

## САЛАЎІ

*Памяці Антона Бялевіча*

— Годзе хныкаць і плакаць! —
буркнуў дзядзька Антон,
недаплецены лапаць

шпурнуў пад услон
і накінуў на плечы
дублёны кажух:
— Руш за мною, малеча,
я цуд пакажу.

Пахудзелая поўня
вісіць над сялом,
неўзаранае поле
скародзіць святлом;
палахлівыя цені
бягуць па мяжы...
Мы на леташнім сене
у пуні ляжым.

Абгарнуліся цесна
адным кажухом;
саграваецца цела
уласным цяплом;
удыхаю паветра
густое, бы ўзвар,
і цяжэюць павекі
ад слодычы мар.

Я ж бадзёруся: рана
яшчэ засынаць,—
дзядзькаў цуд абяцаны
баюся праспаць.
Дзядзька дужа не любіць
знявагі такой,
больш ніколі нікуды
не возьме з сабой.

Хоць і кажуць, што дзядзька —
лайдак і дзівак,
без ягоных дзівацтваў
не пражыць мне ніяк.
Ён — мая ўся навука,
мая вера,
мой суд.
Я пытаю на вуха:
— Дзядзька, хутка твой цуд?

Дзядзька локцем ласкава
штурхнуў мяне ў бок:

— Ой, малеча-малява,
пусты кацялок!..
Не сапі гэтак носам,
а слыхам лаві:
вось-вось-вось за алёсам
запяюць салаўі.

І нібы па загаду,
калыхнуўшы ліству,
пачынае руладу
вясновы пяюн:
— Чок-чок-чок, ф'юць-ф'юць, ціву,
віць-віць-віць, тррр... пім-пім! —
то задужа імкліва,
то паволі зусім.

І з кустоў-пералескаў,
зарэчных гаёў
адгукнуліся песні
соцень дзвюх салаўёў.
— Я такога канцэрта
шчэ ніколі не чуў,
буду помніць да смерці,—
дзядзьку ўдзячна шапчу.

Вучыць дзядзька разважна:
— Пра смерць памаўчы.
Хай над ворагам нашым
крычаць крумкачы.
Нам з табою, мой дружа,
салоўка пяе.
А хто з песняю ў дружбе,
той вечна жыве!

## ЧЫСТЫЯ ВЫТОКІ

### Маналогі дзекабрыстаў

Праз тоўшчу гадоў,
праз дрымоту снягоў
з далёкіх сібірскіх нор-руднікоў
даносіцца стоены звон ланцугоў.

Там розум,
адвагу,
узлёт светлых мар,
нядолі цяжар гордых сэрцам ахвяр
хацеў пахаваць напалоханы цар.

Ды ў прысаку памяці рускі народ
іскру надзеі збярог ад нягод,—
і ўспыхнуў пажарам Семнаццаты год.

Гневам народным раструшчаны трон.
Поступам дружным працоўных калон,
жыццём
зацвярджаецца новы закон.

І ў першых шарэнгах байцоў маладых
мы бачым і светлыя вобразы тых,
хто горда стаяў ля вытокаў святых;
хто першыя ў полі ўзрасціў каласы
братэрства і волі —
не дзеля красы.

Паслухаем сёння мы іх галасы.

К а н д р а т  Р ы л е е ў:

> Погибну я за край родной,—
> Я это чувствую и знаю...
> Свой жребий я благославляю.
>
> *«Споведзь Налівайкі»*

На славу мне або на смерць ісці? —
не падарыў лёс выбару такога:
была ў мяне адным-адна дарога,
была любоў адзіная ў жыцці.

Не вынес дух прыгнёту векавога.
І як кароткі век ні караці,
а гнеў святы павінен дарасці
да адмаўлення і цара і бога.

Прадбачыў я і блаславіў шлях свой:
ірваўся ў бой з паднятай галавой,
пад шыбеніцу стаў без пакаяння.

А песню нельга задушыць пятлёй,—
яна, як Фенікс, з попелу паўстане
і будзе мужных клікаць на змаганне.

Вільгельм Кюхельбекер:

И славу мог купить за миг короткой муки...
*«Грэчаская песня»*

Не, не зайздрошчу я свайму герою:
за міг кароткай мукі славу ён купіў,
а я за волі міг так шчодра заплаціў —
багаццем, славай, гонарам, здароўем.
Усё, усё аддаў.
І не шкадую.
Навошта слава мне, высокі чын?
Ёсць у мяне багацце —
успамін
пра незабыўную хвіліну тую,
калі з сынамі лепшымі Айчыны
глыткамі піў я вольніцы нектар,
а царскім войскам непрызнаны цар
хаваўся моўчкі за вяльможаў спіны.

І ёсць яшчэ ў мяне скарб незлічоны —
цяпло спагады, шчырасці сялян
з-пад Оршы, Мінска, Слоніма, Пружан,
што мне далі прытулак у дзень чорны.

Міхаіл Лунін:

Народ мыслит, несмотря на глубокое молчание...
Власть, на все дерзавшая, всего страшится.
*«Пісьмы з Сібіры»*

Мяне,
ужо зняслаўленага, абшальмаванага,
старога і нядужага,
звязанага па руках і нагах
забаронамі і абмежаваннямі,
вы —
усемагутныя, здаровыя, сытыя —

спалохаліся?
Ха-ха!
Вы спалохаліся мяне?!
Зноў скруцілі,
закулі ў жалеза,
морыце голадам
і тайком шукаеце
наёмніка-забойцу...
Што ж, спяшайцеся
са мной расправіцца:
вы можаце пазбавіцца
ад няўгодных людзей,
ды не пазбавіцеся
ад іх ідэй!
Мае пісьмы
лятуць у Лондан,
каб са старонак
герцэнаўскай «Полярной звезды»
расказаць свету
праўду аб тым,
хто такія мы,
чаго хацелі;
праўду аб тым,
як вы ў кайданы закулі
праўду.

Пётр Кахоўскі:

Я и в оковах буду вечно свободен.
*Пісьмо цару з казэмата*

Вялікі ўсядзержац Расіі,
новага веку Нерон,
ты быў бы і праўда ўсясільны,
каб мы не хіснулі твой трон.

Ты б мог нашу сілу і веру,
аб волі крылатыя сны
замкнуць за жалезныя дзверы,
закуць назаўжды ў кайданы.

Ды позна!
Разбуджана прага
да новых імкненняў і дзей.

Жыве ў мужных сэрцах адвага
змагацца за шчасце людзей.

Палохаеш нас эшафотам?
Няма чаго больш нам чакаць:
вышэйшая форма свабоды —
жыццё за свабоду аддаць!

Мікалай Бястужаў:

Як здані прыгавору,—
абветраныя горы,
таежны шлях,
астрожныя цямніцы.
А мне ўсё сніцца мора...
А мне ўсё сніцца мора...
А мне ўсё мора сніцца, сніцца, сніцца...
Не толькі сніцца тое,
што хваляю крутою
нясе карвет
насустрач хмарам грозным,—
а й тое, маладое,
што воляю людскою
бурліла на Сенацкай плошчы ў дзень
марозны.

Эх, сіняя прастора,
уздыбленая штормам
і грознай навальніцай-бліскавіцай!
Стыхія-непакора,
Бурліць, грукоча мора...
Няхай жа яно вечна сніцца, сніцца!..

Павел Песцель:

Право есть следствие обязанности...
Рабство должно быть решительно уничтожено...
*«Руская Праўда»*

Без боязі ішоў на эшафот,
каб выканаць апошні абавязак
і гэтым заслужыць святое права —

судзіць, тыраны, вас
сваім судом суровым:
— Падсудныя
Раманаў Мікалай Першы,
Раманаў Аляксандр Другі,
Раманаў Аляксандр Трэці,
Раманаў Мікалай Другі
а б в і н а в а ч в а ю ц ц а
ва ўчыненні злачынстваў
супроць рускага народа
і карэннага права Грамадзянскага,
на падставе
параграфа шостага раздзела трэцяга
і параграфа дзесятага раздзела пятага
Рускай Праўды
ці Запаветнай Дзяржаўнай Граматы
Вялікага Народа Расійскага
п р ы с у д ж а ю ц ц а
да пакарання смерцю
і вечнага пракляцця народнага.
Прысуд канчатковы
і абскарджанню не падлягае.

## КАЛІСЬЦІ ТУТ ХАДЗІЎ КУПАЛА

Нацэленыя ў неба вежы
прыціхлі, і між іх наўпрост
у Стара Места вецер свежы
бяжыць з Градчан праз Карлаў мост.

Ах, Стара Места — град гасцінны,
мярэжы чарапічных стрэх,
касцёлы,
плошчы — як хусцінкі...
Тут з верай быў у згодзе грэх;

тут кожны крыж і кожны камень
за тысячу мінулых год
такімі кратаўся рукамі,—
хоць у музей бяры яго.

З разважлівасцю беларускай,
не верачы ў наяўнасць дзіў,
калісьці тут па вулках вузкіх
Купала стомлены хадзіў.

Была тады інакшай Прага:
не гэткай люднай, як цяпер,
не гэткай стрыманай на брагу,
не гэткай шчодрай на давер.

Сям-там яшчэ ўздыхала гора
і блякла ўцеха пазалот...
Але прарочыў Йозаф Гора
вясны бурлівае прыход.

Пясняр сахі і навальніцы,
выразнік мар людскіх і дум,
ён слухаў «Песні будаўніцтву»,
нібы з чароўнае крыніцы
піў жыватворную ваду.

І шчырыя радкі Купалы
на чэшскай мове паўтараў,
каб старамесцкія кварталы
маглі іх браць для пільных спраў.

А сёння на тых вузкіх вулках
шмат сонца і кароткі цень,
гурбой паэты на прагулку
сюды кіруюць кожны дзень.

Спяваюць звонка, як цымбалы,
над Влтавай струнскія масты...
Калісьці тут хадзіў Купала —
нястомны сейбіт дабраты.

### ПРАЖСКАЕ МЕТРО

Той дзень я ў памяці збярог
ва ўсіх яго дэталях.
Другую лінію метро
у Празе адкрывалі.

На сонца жнівень быў скупы,
для свята ж пастараўся:
прамыты дожджыкам сляпым,
яснеў у промнях ранак.

Сышліся тысячы людзей
на Вацлаўскую плошчу,—
і горад яўна маладзеў
і маладзелі вочы.

Гарэлі словы, як давер,
ярчэй за ружы-кветкі:
і «ЧССР», і «СССР»,
і «сполечне навекі».
Для метрабудаўцаў Масквы
вянок сплятала слава...

Прайшлі праз калідор жывы
кіраўнікі Дзяржавы.

Разрэзаў стужку Прэзідэнт,
узняў руку: «Чэсць працы!» —
і запрасіў нас паглядзець
падземныя палацы.

Па эскалатарах уніз
мы ехалі без спешкі,
і ззялі весела агні,
і весялелі ўсмешкі.

А вось і станцыя! Святлом
залітыя пероны,
заходзілі, бы ў родны дом,
мы ў светлыя вагоны,—
перадавалі свой настрой
наступным пасажырам...

Пражане едуць у метро
з Градчан на плошчу Міру.

## КАРЧМА «ПЧАЛА»

Гудзела ў святы вулеем пчаліным
карчма з лагоднай назваю — «Вчэла»,
што клубам, зборняй гарнякоў была,
гулялі ў ёй вяселлі і радзіны.

Хто ж мог падумаць, што навек застыне
слязой журбы вішнёвая смала,
што ка̀ты спаляць Лідзіцэ датла,
і змоўкнуць расстраляныя мужчыны...

Над дзяцельнікам кружыцца пчала;
як цень празрыстага яе крыла,
сляза спагады коціцца ў даліну.

Трывожыць сэрца памяць не пакіне...
Ахвяраў позіркі пад смуткам шкла,
а побач — урна з попелам Хатыні.

## СЛУХАЮЧЫ ДВОРЖАКА

Над руннню жыта ўзвіўся
і павіс на нітцы промня жаваранак,—
сярэбранай песняй
звоніць ён у купал неба.
Паміж кустоў альховых
булькоча рачулка,
у соннай яе завоіне
маці мочыць сувой палатна
і рассцілае яго
на казяльцовым лузе...
А я, пяцігадовы неслух,
бягу па гэтай мокрай сцежцы,
аж пырскі ляцяць з-пад босых ног.

Усё гэта зноў бачу,
усё гэта зноў чую,
слухаючы Дворжака.

## ЛАБА

Над Лабай дзень стаіць высокі.
Над Лабай плавяцца аблокі.
Над Лабай сонца — спелай ружай.
Над Лабай мірна бусел кружыць.

Ля Лабы кучаравіць хмель.
Ля Лабы — поплаў, як пасцель.
Ля Лабы — спелы шум садоў.
Ля Лабы — поціск рук сяброў.

За Лабай — горы некрутыя.
За Лабай — нівы залатыя.
За Лабай марыва трапеча.
За Лабай — новыя сустрэчы.

А паміж Лабаю і мной
блукае мроя — вобраз твой,
такі мне блізкі
і... далёкі!

Над Лабай дзень стаіць высокі...

## УСМЕШКА ГАГАРЫНА

Зноў мне — турысцкаму вязню —
паказваюць дзіва за дзівам:
У Марыянскіх Лазнях — лазню,
У Пльзені — пльзенскае піва,
у замках — вежы з байніцамі,
у касцёлах — алтары і арганы,
у музеях — фрэскі маляўнічыя
ды скульптуры ваяўнічыя
рыцараў і атаманаў.

Калі пад'язджалі да Карлавых Вараў,
нас папярэдзілі строга:
— У Тэплай рэчцы вада — як вар, а
жыве ў ёй,
не варыцца,
стронга.

Гэткі ж і фантан гарачы —
рук сваіх не апячыце;
на добры ўспамін гарлачык
з доўгім носікам купіце...

Зроду я пра сувеніры не марыў.
Іду з-пад прыгожых гандлярскіх падстрэшкаў
на плошчу,
дзе Карлавы Вары
Гагарын
саграваe бронзавай,
роднай мне,
ўсмешкай.

## МАРАВІЯ

Мірны край — Маравія...
Горы і лясы...
Ліпы кучаравыя
млеюць ля шашы...
Самалёт пад небам...
Коні за ракой...
Пахне спелым хлебам,
скошанай травой.

Адчыні, таварыш,
крышачку акно,
хай абмые твары
ветрам, як віном,
галавы захмеліць
водарам густым,
валасы пабеліць
пылам залатым...

Коціцца аўтобус
у тунель прысад.
І зямля, як глобус,
верціцца назад,
верціцца, раскручвае
памяці рулон.

. . . . . . . . . . .

— Цяжка аднарукаму,—
крэкча Радзівон,—
ні скруціць цыгаркі,
ні забіць цвіка...

Хтось пытае:
— Дзядзька,
дзе ж твая рука?
— Дзе? Ішлі на захад,—
сеў ён на бярно,—
увесну сорак пятага
вызвалялі Брно,
ля ракі Світавы
бралі рубяжы...
Гэта ордэн Славы
там я заслужыў.
І руку пакінуў...
Быў гарачы бой,—
аскабалак міны
зрэзаў — як касой...
Добра, што не правую...
Добра, што жыву...

Мірны край — Маравія...
Воблакі плывуць
над табой, зялёнай,
як вясна сама...

Дзядзьку Радзівона
я ўспомніў нездарма,
яго ордэн Славы
і рукаў пусты...

Над ракой Маравай,
над ракой Світавай —
еднасці масты.

## ЗАВІРУХА Ў ТАТРАХ

Нездарма шчымела ў сэрцы скруха
і круціла косці ламата,—
загуляла ў Татрах завіруха,
на адгор'ях вецер засвістаў,

закруцілі снежныя віхуры,
сцежкі і дарогі замяло...
Стала ціхім,
сумным
і панурым
ўчора шчэ вясёлае сяло.
Лепіцца яно
гняздом арліным
на скале крамністай векавой.
Над сялом —
аснежныя вяршыні,
пад сялом —
глыбокая цясніна,
да краёў залітая імглой...

На сляды славацкіх партызанаў
марыў я натрапіць у гарах,
ды буранам гэтым нечаканым
быў загнаны
пад гасцінны дах.
Можа, злёг бы,
як мядзведзь,
у спячку
пад снягамі тут аж да вясны,
каб не вочы сінія славачкі,
што маланкамі
трывожаць сны;
каб не песня,
што ў юнацтва кліча,
груз гадоў скідаючы з плячэй
(песня прысвячаецца Паўлічку,
ну а мне хіба з таго лягчэй):

— Ні за Франам, ні за Янам
не ступлю ні кроку.
За Паўлічкам, за каханым,
Дунай пераскочу!
Дунай, Дунай, Дунай, Дунай —
шырокае поле.
Толькі ты мне, толькі ты мне
ашчаслівіш долю...

І калі з'явіўся той Паўлічка —
прыгажун,

асілак,
рагатун,—
ўсе мае спадзеўкі,
　　　　　　　　нібы знічкі,
спапялелі, згаслі, на ляту.

...Нездарма шчымела ў сэрцы скруха
і круціла косці ламата,—
загуляла ў Татрах завіруха,
па адгор'ях вецер засвістаў.

## СЦЮДЗЁНЫ ВАДАСПАД

З гары высокай
сляпая вада падае:
не круціць жорнаў —
　　ніхто не здагадаўся пабудаваць млын;
не палівае град —
　　навокал шэры камень, нішто не расце.

З гары высокай
сляпая вада падае,
падае дні,
　　　　гады,
　　　　　　стагоддзі,
дарэмна траціць энергію...

З гары высокай
сляпая вада падае...

Няўжо у гэтым —
яе мудрасць?



Гураль — як Чорная гара,
захутаная хмарамі турбот,
доўга стаіць непрыкметны,
бо маўчыць.

Аднойчы ён
варухне шырокімі плячамі,
скіне хмары-туманы,
і ўсе ўбачаць,
які ён высокі
                    і горды,—
як Чорная гара.

## АТАМАН АКСАМІТ

**Славацкая балада**

За Сцюдзёным вадаспадам
на зялёнай паланіне
сабіралася на раду
братчыкаў дружына.

Па гарах паўзлі туманы,
засланялі хмары сонца.
— Хто ў нас будзе атаманам —
бацькам нашым, «водцам»?

— Няхай Петра верхаводзіць,
мы яму ўсе верым!
Петра шапку зняў:
— Я згодзен.
Дзякуй за давер'е,
за давер'е, за пашану,
за добрае слова.
Буду вамі атаманіць,
ды з адной умовай.
Гучнае імя звычайна
выбіраюць атаманы,
каб яно сваім гучаннем
люд на бітву падымала.
        Я ж з радзіны працавітай,—
        быў і буду Аксамітам.
Грознае імя звычайна
выбіраюць атаманы,
каб яно сваім гучаннем
жах тыранам наганяла.

Ці ж мне славіцца бандытам? —
Быў і буду Аксамітам.
Звонкае імя звычайна
выбіраюць атаманы,
каб яно сваім гучаннем
волю вольную ўслаўляла.
Не хачу стаць знакамітым,—
быў і буду Аксамітам.
— Як ты хочаш называйся,
хоць гаршком гліняным,
толькі ў бой вядзі на панства,
будзь нам атаманам.
Чужаземцы і магнаты
на зямлі лютуюць,
край рабуюць, паляць хаты
і дзяўчат гвалтуюць.
Плачуць сіраты і ўдовы,
у ярме — сяляне...
Топча вораг нашу долю,
веру нашу ганіць.
Больш цярпець прымус не хочам,
час расплаты блізкі.
Кажуць, едзе ўжо ў Лявочу
біскуп каталіцкі:
з Кракава праз Піяніны,
у чорнай карэце...
Добра ў Чортавай цясніне
мы яго «прывецім»:
Аксамітавай пятлёю
за каўнер сутаны,
пад асінаю сухою...
Будзь нам атаманам!
Будзь нам бацькам,
будзь нам «водцам»,
светлай галовою!
— Слухайце каманду, хлопцы!
На конях! За мною!

Прысягала атаману
братчыкаў дружына.
І спаўзалі з гор туманы
ціхія ў даліну.

## ГУРАЛЬСКАЯ ПЕСНЯ

— Гэй, налі паўней!
Лезе ў голаў песні пачатак,
а не ведаю, што далей.

— Гэй, п'ём. Будзь здароў!
Адно віно ўсіх раўняе:
пастухоў і цароў.

— Гэй, не стаў, пі да дна,
каб мы сустракаліся
гэтак штодня...

— Гэй, налі па другой!
Ці помніш, з табой мы хадзілі
да дзяўчыны адной?

— Гэй, не разлівай!
Хто нам верне ў сэрцы нашы
маладосці май?

— Гэй, яшчэ па адной!
Летам віно нясе прахалоду
і грэе зімой.

— Гэй, чаго спахмурнеў?
Тая дзяўчына даўно не чакае
ні цябе, ні мяне...

## ДУНАЙ

Дзень добры, слаўная рака, блакітны звон —
Дунай!
Ад бацькі Нёмана прывёз табе паклон,
Дунай.
Віруй і скалы падмывай, імчыся ўдаль,
Дунай,
ды песні новыя люляй на грэбнях хваль,
Дунай.

Ці, можа, хочаш нагадаць ты сёння мне,
Дунай,
аб пераможнай, у сцягах, красе-вясне,
Дунай,
калі праз горныя хрыбты, лясы, палі,
Дунай,
Чырваназорыя арлы зару няслі,
Дунай?
Да Перамогі выпаў лёс не ўсім дайсці,
Дунай...
А многім з іх шчэ не было і дваццаці,
Дунай...
І сонечны настой вясны п'яніў іх сны,
Дунай.
Ім так хацелася дамоў прыйсці з вайны,
Дунай,
Сваіх каханых і матуль, сяброў абняць,
Дунай...
На берагах тваіх яны ў магілах спяць,
Дунай...
Ім так хацелася дажыць да нашых дзён,
Дунай...
Глядзі ж, надзейна беражы святы іх сон,
Дунай!

## «СЛАВАЦКІ РАЙ»

Цудоўны край — «Славацкі рай»,
курортныя мясціны:
скалістыя вяршыні,
квяцістыя даліны.
На схілах гор —
адвечны бор,
ядловец пахне
і чабор.
Каменні —
самацветаў злiткі.
Над стромамі —
сцяжынак ніткі:
няверна ступіш —
і ў цясніну

цябе раптоўны сполах
скіне,
а ў тоій цясніне —
востры камень:
нагамі падай
ці рукамі...
Фашысты лезлі ў гэты край —
у пекла трапілі
ці ў рай?

Маўчыць аб тым «Славацкі рай»...

## НА ДУКЛЯНСКІМ ПЕРАВАЛЕ

На Дуклянскім перавале
вятрыскі спыняюць бег...
На Дуклянскім перавале
слава і тая ў журбе...
На Дуклянскім перавале
рассыпаўся звон жаўрукоў...

Грудзямі тут фронт прарывалі
салдаты гвардзейскіх палкоў.
Мы помнім —
палегла іх колькі,
і помнім мы —
колькі прайшло...
Тут абеліскі і ёлкі
вартуюць квяцісты лог,
дзе «тыграў» і «фердынандаў»
спыніўся бясслаўны паход,—
агнём бранябойных снарадаў
прабіта браня навылёт;
ля гусеніц рваных, іржавых
рамонкі, як зоркі, цвітуць,
буяюць высокія травы
і глушаць тугу-немату.

А горы ўсе сонцам заліты,
сінеюць у дрогкай смузе...

Цяпер тут,
пад небам адкрытым,
адкрыты
ваенны музей.
Дасведчаных экскурсаводаў
паслухай,
а сам — уяві,
чаму для славянскіх народаў
ты — брат па крыві.

## АДМІРАЛ ДРОЗД

Мы идем
сквозь револьверный лай,
Чтобы,
умирая,
воплотиться
В пароходы,
в строчки
и в другие долгие дела.

*У. Маякоўскі*

Родная Балтыка!
Сінь... Маякі...
Любяць цябе
нездарма маракі.

То ціхаю хваляй
лагодна шуміш,
то пеністым валам
грозна кіпіш.

Хто раз хоць абмыўся
салёнай вадой,—
душою зрадніўся
навекі з табой.

Родная Балтыка —
сінь... маякі,
любяць цябе
нездарма маракі!

Лагоднаю хваляй
ты ціха шуміш
ці пеністым валам
грозна кіпіш,—

курсам надзейным
у дальнюю просінь
пад сцягам гвардзейскім
ідзе мінаносец,
праз буры-віхуры
ідзе ён наўпрост...

Калісьці эскадрай
камандаваў Дрозд.

Помняць балтыйцы
імя марака,
свайго камандзіра,
майго земляка.

У сэрцах матроскіх
ён вечна жыве,
на подзвіг герояў
бясстрашных заве.

...Калі паднімаецца
сцяг на флагшток,—
на палубе цвёрды
чуваць яго крок.

Калі ж аб'яўляюць
камандзе аўрал,—
узыходзіць на мосцік
герой-адмірал,
пытае: «Ці ўсе вы,
матросы, гатовы
змагацца са шкваламі,
бурай суровай?»

І ў памяці зноў —
дні вялікіх баёў,
калі маракоў
Дрозд на подзвігі вёў.



Не паданне гэта —
былъ суровая:
вораг наступаў на Ленінград...

Стаў на вахту
з пільнасцю патроенай,
змены не чакаючы,
Кранштат.
У родным небе —
ворага матары,
міннай смерцю
пагражаў Заліў.
За спіной —
вялікі родны горад
працаваў,
змагаўся,
жыў,
пад бамбёжкай
адліваў снарады
ды бляшанкі толам набіваў,
шыў ватоўкі,
шапкі,
маскхалаты,
хлеб
з мукі апошняй
выпякаў,
праз балота
пракладаў дарогі,
не згубіць каб сувязі з Масквой...
І калі сціхаў сігнал трывогі,
песня узлятала над Нявой:
Пусть ярость благородная
Вскипает, как волна!
Идет война народная,
Священная война.
А для патронаў,
для прадуктаў —
ліміт найстрогі на складах...
Трывожна ў зводках рэпрадуктар
блукаў па бліжніх гарадах:
Гатчына...
Пулкава...
Стрэльна...
Урыцк...



Восень. Ноч. І ціха, нібы ў полі.
Толькі вецер снасцямі гудзе...
З думкамі трывожнымі
паволі
ўсцяж канала адмірал ідзе.

У Савет Ваенны раніцою
выклікае маршал на даклад.
«Ці гатовы маракі да бою?» —
у яго спытае Ленінград.

Так, гатовы!
Адмірал ім верыць,—
слаўныя ўсе хлопцы-маракі.
А ці ж можна адной верай мераць
гарт байца ў суровы час такі?

Не без бою караблі з Заліва
адступілі да Нявы-ракі.
Ёсць ля Рыгі гавань Даўгаўгрыва,
там насмерць стаялі маракі.

А праліў Моонзунд!
А рэйд Кайвіста!
А паход ад Таліна ў Кранштат!
Не, не пройдуць да Нявы фашысты,—
маракі вартуюць Ленінград!

Вось рвануцца б дружна ў наступленне!
Ды няма прастору караблям...
І адно, найлепшае, рашэнне
падказалі сэрцы маракам.



— Смачную кашу
варыш ты, кок!
Сып, не шкадуй,
бо апошні разок...

— Апошні?!
Жартуеш, Пятрусь?

— Братка, не.
Хтосьці другі
варыць суп ужо мне.
Там,—
і махнуў ён
на сушу рукой,—
ў кухні паходнай,
браток, палявой.
Крупнік любімы —
з адменнае грэчкі...

— Значыць, на сушу
ідзеш, Задуйсвечка?

— Значыць, іду.
Шмат ідзе маракоў
на папаўненне
пяхотных палкоў.
Значыць, цябе
разгружаем, браток.

— Значыць, гатую
апошні разок.
Добра валодаю
я чарпаком,
а лепей — прыкладам,
гранатай,
штыком.
Дзед быў салдатам,
і бацька — салдат.

— Значыць?..
— Ідзём!
Адстаім Ленінград!



Прастаяўшы на дажджы
дзень асенні,
як прыемна ў бліндажы
спаць на сене!

Расцягнуўся, лёг салдат,
ногі грэе...

— Падцягні ты крыху, брат,
свае рэі!

Ранавата яшчэ спаць,
карашочак.
Мне ахвота станцаваць
хоць разочак...

Праўда, палуба ў вас
уся на ямачках.
Разані, Апанас,
наша «Яблычка»!

Злосна блiснулi бялкi
у салдата:
— Весялiшся нешта ты,
брат, занадта.

Падцягнуў пад сябе боты
неахвотна:
— Да чаго ж марскi народ
бестурботны...

— А чаго, скажы ты мне,
турбавацца?
Прагуляю на вайне
гадоў дваццаць...

— Прагуляй ты хаця год.
Фронт — не танцы!
Галаў згубiш, ветрагон,
у атацы.

— Галаву я, друг, нашу
ў часе бою
ў сваiм рэчавым мяшку
за спiною.

Як згубiць мне галаву?!
Як памерцi?!
Чуў, што фрыцы нас завуць
«чорнай смерцю»?

Нездарма яны, павер,
нас так празвалi.

Хочаш ты, каб мы цяпер
сумавалі?

Праўда, палуба ў вас
уся на ямачках...
Разані, Апанас,
наша «Яблычка»!



Чырвонай падковай на карту
лінія фронту кладзецца.
— Бачыце, вораг імкнецца
горад узяць у блакаду...
Радзеюць рады абаронцаў,
а тут,— і за фінскі заліў
аловак паўзе,— на Гангуцкай зямлі
тысячы слаўных герояў
акружаны, з ворагам б'юцца,
у няроўных і жорсткіх баях
савецкі адстойваюць сцяг,
жывымі байцы не здаюцца.
Загад вам,
                    таварыш Дрозд:
да Ханка правесці атрад караблёў,
увесь гарнізон маракоў
перакінуць на Ленфронт.
— Ёсць, таварыш маршал! —
                                        Прад вачыма,
нібы чарапахі, паплылі
міны,
      міны,
            міны,
                  міны,
                        міны,—
мінамі загачаны Заліў.
— Ёсць, таварыш маршал! —
                                        Больш нічога
ён не чуе,— ловіць толькі слых
залпы,
      залпы,
            залпы,
                  залпы,
                        залпы,

залпы батарэй берагавых.
— Ёсць, таварыш маршал! —
А шалёны
ледзяны балтыйскі грозны шквал
пырскамі салёнымі,
пенаю салёнай
б'е па твары, валіць напавал.



«Прывітанне, прывітанне,
порт, сівыя караблі,
верных маякоў мірганне,
хваль свінцовых ракатанне,—
мы ізноў да вас прыйшлі.
Моцны трап з адменнай сталі
падавайце, дружбакі,
каб яго мы не зламалі,—
цвёрды крок загартавалі
пехацінскія палкі!»

Косці трашчаць у абдымках сяброў.
Радасць,
здзіўленне,
пытанні:
— Колька?! Жывы, чорт!
— Іван!
— Ты, Пятро?
— Віця... браток, шанаванне!
— Ну, як там, скажы?
Не лягчэй, чым у нас?
З пяхотнымі звыкся харчамі?

Хтосьці хапіўся:
— А дзе ж Апанас,
кок, гарманіст наш, мінчанін?
І радасць адхлынула,
з твараў сплыла.
Вочы ў трывозе застылі...
Сляза ў Петруся па шчацэ папаўзла:
— Няма Апанаса... забілі...
На хутар Харошаў
фашысты ішлі,
перлі лавінай бясконцай...

Прабіцца праз дым
не магло да зямлі
крывёю налітае сонца.
Паранены ў грудзі маёр Камянкоў
вёў нас у бой рукапашны...
Тупіліся джалы фашысцкіх штыкоў
аб наша марское бясстрашша...
Пяхоту адбілі. І бачым: на нас
танк-аграмадзіна прэцца.
Насустрач са звязкай гранат
Апанас
кінуўся... Ён сваім сэрцам
наступ спыніў, каб на нашай зямлі
ранак заняўся вясновы...

Моўчкі байцы бесказыркі знялі,
нізка схілілі галовы.
Нават салдат Іваноў, што не раз
кляў яго звонкі гармонік,
ціха ўздыхнуў:
— Апанас, Апанас,
хто ж нам сыграе сягоння?..



«Хмары нізкія і кашлатыя,
не туманілі б вечара сінь...
Лепш ляцелі б вы ў край, дзе хатамі
беласнежнымі ззяе Валынь.

Мімаходам бы зазірнулі вы
у сяло, што завецца Масты.
Як там бацька мой з матуляю,
сястрычка, малыя браты?

Перадалі б ім, што я жыў-здароў,
стаў Валынь яшчэ больш любіць
і за пні садоў,
за крыжы ля дарог
буду ворагаў біць і біць.
Мне зайздросна, хмары, на вас пазіраць...»
— Добры вечар!
— Здравія жадаю, таварыш адмірал!
Матрос Задуйсвечка.

— А, танцор!..
Ну, як тваё здароўе?
Кажуць, і на сушы танцаваў.
— Усё ў парадку.
Толькі на дарогах
франтавых
абцасы адарваў...
— Чаго на ветры стынеш ты?
Зайдзі ў кубрык, адпачні...
— Я не магу... Сябры лісты
там пішуць блізкім і радні...
І толькі мне... мне аднаму
няма пісаць каму...
— Чаму?
— Бо на Валынь прыгожую
фашысцкі хлынуў шквал,
туды не ходзіць пошта,
таварыш адмірал.
Сяло там роднае — Масты
ў чарэшневай цішы...
А мо ўжо і няма...
— А ты
усё ж, браток, пішы.
Пішы! —
А самому здалося:
за бортам не мора шуміць,
а жыта даспелым калоссем
пад ветрам лагодным звініць;
не снасці тугія — дуброва
пяе над яго галавой...
«Ў палоне і ты цяпер, родны
край васільковы мой...»



Ён усплыў міжвольна прад вачыма,
беларускі ціхі гарадок —
Буда-Кашалёўская...
І сіні
зімні ранак...
Цягніка гудок...
«За ўладу Саветаў!» —
салдаты спяваюць.

Наспешна ў карэтах
паны уцякаюць.
Паны уцякаюць,—
гарадь іх палацы.
Пад коўдрай пуховай
пану чэрці сняцца.
Клеіць рабочы
на будку плакат.
— Падсоб жа мне, хлопча.
Рэвалюцыя, брат!

Цвік іржавы ў сценку забівае
Валянцін старой фунтовай гірай,
на плакаце па складах чытае:
— «Дэ-крэт аб зям-лі...
Дэ-крэт аб мі-ры...»
— Эге ж, як ты слаба чытаеш,
брацішка.
Прыходзь у майстэрню,
дадзім табе кніжку.
Знайсці мяне як?
Ты ў рабочых спытай
Мартына Карунку.
Ну, хлопча, бывай!

...У майстэрні —
іней,
дым махоркі,
грукат бляхі, павуцінны змрок.
Ды якія новыя гаворкі!
Смелых мар які шырокі крок!

У Мартына аж іскрацца вочы
з-пад бяссоннем зморaных павек:
— Ленін — правадыр і друг рабочых,
адным словам, наш ён чалавек.
Чуў, Валёк? Ісці на нас вайною
мерацца буржуі ўсяго свету.
Мы пойдзем смела ў бой
за ўладу Саветаў!
І пайшлі!
Галодныя, босыя,
у ватоўках, шынялях падраных.

...Моўчкі плачуць чэрвеньскімі росамі
над Дняпром, над Прыпяццю курганы.
Знаць бы, у якім з іх спіць Мартын,
Партыі Вялікай родны сын...
Перад ім, бясстрашным камуністам,
прад яго вялікім сэрцам чыстым
у даўгу заўсёды адчуваў
і пражыць жыццё, як ён, жадаў:
ісці вечна ў наступ ва ўвесь рост —
рабочы Дрозд,
рабфакавец Дрозд,
чырванафлоцец Дрозд,
віцэ-адмірал Дрозд.



«Бывай, любімы горад...» не спявалі,
развітальных не крычалі слоў.
Караблі прычалы пакідалі
уначы
сакрэтна,
без агнёў.

Тральшчыкі абмацваюць фарватэр —
небяспечны, вузкі-вузкі шлях.
Штурман!
Строга вытрымай кільватэр!
Збочыш — міны ўдарацъ па бартах.

Мокры снег спадае камякамі...
Ты ж сігнал,
сігнальшчык,
не прагледзь!
Стырнавыя!
Цвёрдымі рукамі
сцісніце мацней штурвала медзь!

Хіліць сон?
Сячэ ў твар вецер золкі?
Млеюць рукі?
Галава баліць?
Гляньце:
вунь на флагманскім — на «Стойкім» —
адмірал без змены ноч стаіць.

Гляньце:
у камандзе аварыйнай —
прапацелы Горскі — камісар.
Гляньце...
Выбух пад фарштэўнем грымнуў,
пахіснуўся карабель, уздрыгнуў...
Ды спакойны ў адмірала твар:
— Так трымаць!
Плывуць насустрач міны.
— На шкафут!
— На ют!
— Аўрал!
— Аўрал!

— Так трымаць!
На гарызонце сінім
свой маяк заўважыў адмірал.
— Так трымаць!
А месяц выпаў з хмары,
выдаў сілуэты караблёў.
Міг — і залпам батарэй ударыў
бераг непрыяцельскі з фартоў.
— Так трымаць!
Прабіты борт снарадам,—
і агонь у склепе зашугаў.
«Толькі б шланг спусціць ў ілюмінатар...» —
ціха Задуйсвечка прашаптаў.
Шчыпле ў носе,
вочы выядае
і сціскае горла едкі дым;
роба на спіне агнём палае,
а Пятро крычыць:
— Вады! Вады!
Уключайце помпу, аварыйцы!

— Так трымаць! —
спакойна адмірал
у агні правераным балтыйцам
падае са «Стойкага» сігнал.

— Так трымаць!
Да мэты недалёка.
Вунь ужо гангутцы узнялі
над Гунхольмам-востравам высока

алы сцяг Вялікае Зямлі.
— Нашы!
— Нашы!
— Нашы караблі!



Ля Стахода луг — адно балота,
б'юць з травы крынічныя ключы,
шастаюць нябачна між чаротаў
даўганогія драчы.

«Жах вам, жах!» — палохаюць іх косы
і крычаць мянташкі: «Уцякай!»
За касцамі ў пульхныя пакосы
валіцца чарот і асака.

Валяцца аеры, валяр'яны,
малачай лье слёзы малака.
Сакавіты водар іх духмяны
ап'яніў да стомы Петруська.

На пакос паклаў сваю галоўку,
задрамаў, бы ў маці на руцэ.
Прыляцела божая кароўка
і паўзе нячутна па шчацэ.

Дапаўзла да рота, казытнула
губы.
І здалося хлапчуку:
маці так пяшчотна прыгарнула
і цалуе ласкава ў шчаку.

«Мама мая, мама дарагая,
не будзі, такі цудоўны сон!..»

Задуйсвечка вочы адкрывае.
Вата...
Бінт...
Шпітальная палата...
Цішыня...
Ляжыць на ложку ён.
Маці?
Не.

А хто ж гэта ў халаце
ціха гладзіць стрыжку галавы?
— Валянцін Пятровіч! Гэта вы?
— Я, Пятро.
Ляжы, не падымайся —
казырнеш, як станеш зноў у строй.
Папраўляйся,
сілы набірайся,
«Яблычка» станцуеш...
Што з табой?
Плачаш? Ну чаго...
Такі герой!
Вось на «Стойкім» будуць усе рады,
як скажу, што хутка прыйдзеш ты...
Так турнём фашыстаў з Ленінграда!
І з валынскай вёскі... Як яна?
— Масты.
— На, вазьмі. Тут пісьмы ад матросаў,
ад мяне — цукеркі-ледзянцы.
Ты даруй... Блакада... Не ўдалося
пачастунка лепшага знайсці.
Ну, бывай!
Жадаю папраўляцца.
Не хвалюйся, браце,
не тужы,
для баёў рашучых
і для працы
сілу сваю,
нервы беражы.

Развітаўся, узмахнуў халатам,
ціхенька,
            на дыбачках, пайшоў...
Выйшаў са шпітальнае палаты
і навекі ў сэрца увайшоў.



Рэжа хвалі Балтыйскага мора
гартаваным нажом кілявым
гаспадар неабсяжных прастораў —
прыгажун-карабель баявы.
Дым заводаў
і водар жытнёвы

лёгкі ветрык прыносіць з зямлі.
Мірна ззяе блакіт паркалёвы,
не сініць мінай смерцю Заліў.

Ды парою
струменем норд-оста
прынясе адгалоскі пагроз...
І тады —
зноў выходзіць на мосцік
Валянцін Пятровіч Дрозд,
пытае:
«Ці ўсе вы,
матросы, гатовы
змагацца са шквaламі,
бурай суровай?»

Грыміць кліч адзіны
ў прасторы марскім:
— Заўсёды Радзімы
спакой адстаім!

1961

## КВЕТКА ЛАМІКАМЕНЬ

> Камінь пробила вона, той камінь,
> що все пераміг,
> що задавив і могутні дуби,
> і терни непокірні.
> Квітку ту вчені люди зовуть Saxifraga,
> нам, поетам, годиться назвати її
> «ломикамінь»
> і шанувать її більше від пишного лавра.
>
> *Леся Українка*

1

«Лета ад нас адлятае,
за небакрай адлятае
шнурамі гусей крыклівых,
чародамі тлустых шпакоў.

Лета з зямлі сплывае,
сплывае ў нябыт дажджамі,
густым залатым лістападам
лета сплывае ў нябыт.

Хочацца крыкнуць лету:
— Лета, куды ты спяшаеш?!.
Хочацца крыкнуць лету:
— Лета, крыху пачакай!

Я не паспеў напіцца
водарам кветак мядовых,
пахамі елак смалістых
напіцца як след не паспеў.

Дай мне цяжкую работу,
дай мне касу ці граблі,
дай мне кавальскі молат,
дай мне тапор цесляра.

Гатоў ад цямна да цямна я
не разгінацца ў полі,
гатоў я стамляцца да смерці,
гатоў хлеб з вадою есці,
гатоў і зусім галадаць,—

каб толькі было ты, лета,
вечна квітнела, лета,

на роднай зямлі і ў сэрцы,
у сэрцы квітнела маім.

Хочацца крыкнуць лету,
хоць і не веру я ў цуды,
хочацца крыкнуць:
— Вярніся!..

Толькі я не крычу.

Моўчкі скарыўся лёсу,
моўчкі цярплю хваробу,
моўчкі глытаю пілюлі
і ў сілу не веру іх.

Восень?
Яна ж непазбежна,
рана ці позна, а прыйдзе,
дажджлівая ці залатая —
прадвесніца смерці-зімы.

Такі ўжо закон прыроды,
яго аніхто не адменіць,
яго мы з табой разумеем,
таму і не трэба слёз.

Таму не крычу я лету:
— Вярніся!
Куды адлятаеш?
Вярніся! Куды ты сплываеш?
У сэрца вярніся маё!..

Адно я жадаю, Леся,
каб ты была побач са мною,
лягчэй мне было б сустрэцца
з лютаю смерцю-зімой».

Леся пісьмо прачытала,
і рукі яе задрыжалі,
упаў на калені лісточак,
да горла камяк падкаціў.

— Сярожа! Мой любы, адзіны!..
Не трэба... Няпраўда... Не веру!..

Ты проста жартуеш са мною.
Ты заўтра напішаш не так.

Я знаю цябе — жыццялюба.
Ты зведаў турму і няволю,
цябе не сагнулі нягоды,
ты прагнеш у бітву ісці.

Змагацца за праўду і волю,
змагацца за шчасце народа —
вось мэта жыцця твайго, дружа,
і ты не памрэш.
Не памрэш!

А праўда крычала з лісточка,
ліловым чарнілам крычала,
настойліва гэтак крычала
суровыя словы свае.

Сняжынкі...
Сняжынкі...
Сняжынкі...
За шыбамі сотні сняжынак
кружыліся, ціха мігцелі,—
ішла, наступала зіма.

Такі ўжо закон прыроды:
не спыніш зімы, не прагоніш,
такі ўжо закон прыроды...
— Закон?
А любоў — не закон?

Пакінуць усё, неадкладна
к табе паляцець, мой адзіны,
к табе, мой зламаны цвеце,
на крылах к табе паляцець!

Стаяць над табой неадступна,
бадзёрыць і клікаць да бою.
здабыць у баі перамогу
ці пасці, дык побач з табой!

2

Грукочуць,
грукочуць колы,
грукочуць па мёрзлых рэйках.
Плывуць за акном далягляды,
гайдаецца з рыпам вагон.

Плывуць за акном далягляды:
раўніны,
узгоркі,
балоты,
драўляныя чорныя хаткі,
аснежныя пушчы-лясы.

З болем у сэрцы Леся
на кожным паўстанку бачыць
людзей у падраных світках,
горам прыгнутых людзей.

Глядзіць праз акно паэтэса:
— О божа, якая галеча
у гэтай старонцы, падобнай
на родную сэрцу Валынь.

Дубровы, нібыта ля Луцка,
пад снегам спяць маўкі [1], русалкі,
а ў хатах галодыя злыдні
спакою людзям не даюць.

Вунь дзед на санях праехаў,
падобны да дзядзькі Лева,
з такой жа сівой барадою,
такі ж яго мудры пагляд.

І доля, відаць, такая,—
работа,
клапоты,
турботы,
нязбытная, вечная мара
аб хлебе,
уласнай зямлі.

---

[1] Маўка — ляспая русалка.

Дзяцінства — хадзіў у падпасках,
юнацтва — па сцежках батрацкіх;
жаніўся — хлеб горкі прымацкі,
ссівеў, а свайго і не еў.

О люд наш гаротны, няшчасны!
Дакуль будзеш жыць ты ў бядоце,
дакуль будзеш жыць ты ў галоце,
цярпець будзеш мукі дакуль?

Грукочуць, грукочуць колы.
Плывуць за акном далягляды,
аснежныя вёскі, раўніны,
балоты і пупічы-лясы.

А сэрца змірыцца не хоча,
а сэрца зіму не прымае,
а сэрца жыве успамінам
шчаслівай далёкай пары.

...Высокае сонца над Ялтай.
Бяскрайняе Чорнае мора,
магутнае, бурнае мора
удалеч няспынна заве,—

далей ад курортнага тлуму,
далей ад лянівага пляжа,
далей ад суседак-мяшчанак —
шукальніц уцешных прыгод.

Па беразе, галькай усланым,
за горад, пад схілы адгор'яў
ішла задуменная Леся,
ля мора сустрэла яго.

Што зблізіла іх — паэтэсу,
выразніцу смутку, жалобы,
і фантазёра-марксіста,—
што зблізіла іх у той час?

Мяржынскі глядзеў на мора,
спакойнае Чорнае мора,
і хуткую буру прарочыў,
якая змяце лад стары.

— Каму ж тая бура патрэбна? —
пытала спалохана Леся.—
Яна ж усё рушыць і крышыць,
нічога не можа ствараць.

— Ствараць? Гэта справа народа.
На месцы руін узвядзе ён
будынак, прасторны і светлы,
пад іменем — сацыялізм.

Мяржынскі прыводзіў факты,
сыпаў цытатамі з Маркса,
каб думку сваю пацвердзіць,—
прыходзіць царызму канец.

Паэта ж цікавяць не факты,
паэту не трэба тэорый,
паэту не трэба гіпотэз,
не трэба здагадак яму.

Паэт жыве толькі сэрцам,
сваім неспакойным сэрцам,
адно яно можа паэту
дарадчыкам верным служыць.

Так мора спрачаецца з камнем,
плывец так спрачаецца з морам.
І ўсё ж перамог ён, фанатык,—
фанатыкам стала й яна.

На ўзгор'е крутое Ай-Петры,
туды, дзе ні лаўраў, ні кветак,
дзе голыя шэрыя скалы,
заехалі неяк яны.

І ўбачылі раптам: высока
на строме вялікая кветка,
цудоўная полымя-кветка
пялёсткі раскрыла свае.

— Зірні,— паказаў ёй Мяржынскі,—
усё заглушыў шэры камень:
дубы, непакорныя церні,
а кветка прабіла яго.

— Якая ў той кветкі назва? —
Леся спытала Сяргея.
І той адказаў: —Saxifraga
завуць па-латыні яе.

На роднай жа нашай мове
яшчэ не прыдумалі назвы,
бо ў нас яе мала хто бачыў,
расце яна толькі ў гарах.

— Давай назавём ламікамнем,—
Леся прыдумала назву,—
і будзем старацца заўсёды
падобнымі быць да яе:

нястомна цягнуцца да сонца,
ламаць на шляху перапікоды,
ламаць шэры камень смутку
і цемру няпраўды ламаць.

— І лад, які сее няпраўду? —
Сяргей запытаў асцярожна.
І Леся, крыху памаўчаўшы,
цвёрда сказала:
— І лад!

Не вечная ўлада тыранаў,
працоўныя волю здабудуць,—
такую ёй веру ў сэрца
Novum Evangelium [1] ўліў.

І трэба змагацца за праўду,
за волю народа змагацца,
змагацца за шчасце народа.
А як жа са шчасцем сваім?

Сяргей аб ім думаў мала,
усё аддаваў ён ідэі —
вялікай марксісцкай ідэі.
І ён у змаганні згарэў.

---

[1] Novum Evangelium *(лац.)* — новае евангелле. Так Л. Украінка жартоўна называла «Капітал» К. Маркса.

А можа, у гэтым і шчасце,
а можа, у гэтым прызванне
паэта, барца, патрыёта —
гарэць і свяціць другім.

3

Каляды. А ў Мінску — хлюпота,
снег мокры на брук ападае
і тут растае. І няспынна
дзьме вецер заходні сыры.

Накрыўшыся цупкай цыратай,
стары балагол па-яўрэйску
кляне-праклінае нягоду
і бога Ягова кляне.

Вось дом на рагу дзвюх вуліц:
Міхайлаўскай і Шырокай.
— Паненку ж ніхто не страчае,
насустрач ніхто не бяжыць?

Адкуль яму знаць, балаголу,
што той, да каго Леся едзе,
не можа падняцца з пасцелі
і госцю прывеціць як след.

Пачуў ён знаёмы голас,
пачуў і вушам не верыць,
глядзіць і вачам не верыць:
— Леся, няўжо гэта ты?!

Дзень добры. З прыездам... Прабач мне...
Знядужаў крыху... Ачуняю...
Тут цёткі, яны ўсё ўладкуюць...—
А цёткі глядзяць спадылба.

Навошта тым цёткам хворы?
Навошта ягоная госця?
Турбот і сваіх удосталь,
не трэба ім лішніх турбот.

Усё зразумела Леся.
Усё.

І рашыла цвёрда:
«Я тут, як ніколі, патрэбна,
І я застануся тут!»

І рады Сяргей, ажывіўся:
— Як толькі пачуў твой голас,
адразу мне стала лепей,
і хутка хвароба міне.

Міне... Ці ж яна не бачыць,
як точыць хвароба сябра?
Бязлітасна точыць хвароба,
надзея адна толькі — цуд.

«Зрабіць гэту цуд ці змагу я,
ды сябра ў бядзе не пакіну,
якой ні была б працяглай
пакутлівых дзён чарада».

Глядзела за хворым, чытала,
словам сяброўскім, шчырым
яго суцяшала.
І крыху
стала Сяргею лягчэй.

Ён просіць узяць даведку,
які санаторый прымае
зімою сухотных.
— Паеду,
і там я змагу ачуняць...

А недзе жыццё кіпела,
а недзе жыццё бурліла;
рэдактары слалі пісьмы —
прасілі артыкул, верш.

І Леся ля ложка Сяргея
піша аб новай драме,
аб новай грамадскай драме
на сцэне і ў жыцці.

— Паслухай, што новае Гаўптман
адкрыў у «Ткачах»:
натоўпу

няма ўжо, а ёсць грамадства,
па-нашаму — клас...
Ты заснуў?..

— Працуй. Не засну я. Мне добра.
Люблю, калі побач са мною
людзі працуюць.
Артыкул
павінен убачыць свет.

І выгляд зрабіў, нібы лепей
яму ўжо: заплюшчыў вочы,
ляжыць, паслухмяны і ціхі,
рахманы, нібыта дзіця.

4

На вуліцы выюць завеі,
мароз узабраўся на шыбы.
То выгляне сонца, то знікне,
і зноўку закруціць пурга.

Выходзіць на ганак Леся,
трывожна паветра ўдыхае,
глядзіць на свінцовыя хмары,—
ідзе, наступае вясна.

Вясна для сухотных — не радасць,
вясна для сухотных — праверка:
ці тэрмін адцягне,
ці грымне
апошні смяротны удар.

— Вясна, я цябе так баюся,—
шэпча і ломіць рукі.—
Вясна, будзь сяброўкаю шчырай,
не ворагам вечным маім...

Бяжыць у пакой, у сенцах
змахнуўшы слязу скупую,
стараецца быць спакойнай,
не выдаць трывогі сваёй.

Ды ўжо суцяшэнні Сяргею
не трэба,— адчуў ён сэрцам,

адчуў, што канец непазбежны,
што ніша хвароба прысуд.

Ён просіць адно:
— Мне кветак,
кветкі ў труну пакладзі мне,
мой сон упрыгож, дарагая,
вуаллю ілюзій і мар...

Мне кветак...
                    Мне безліч кветак...
Паэта святы абавязак —
усё прыбіраць у квецень.
А ты ж мне яшчэ і друг...

...Што мукі святой Веранікі!..
Яна сабірала ў хусцінку
слёзы Ісуса... А тут жа
і гэтага нельга зрабіць.

Ты, сэрца, трывай ці на часткі,
як бомба, ураз разарвіся!..
І чуе: «J'en ai fait drame» [1],—
крыкнула сэрца ў адказ.

Сонца глядзіць у вокны,
сонца снягі зганяе,
сонца звініць капяжамі,
сонца вядзе вясну.

Рука ў руцэ халадзее,
слабей і слабей дыханне...
І грымнулі струны-праменні
настырны жалобны марш.

«Мне кветак, мне болей кветак...»
Скупая зямля Беларусі,
скупая вясна ў Беларусі,
скупая на кветкі вясна.

---

[1] J'en ai fait drame *(франц.)* — я з гэтага стварыла драму. Маецца на ўвазе драма «Утрапёная», напісаная Л. Украінкай за адну ноч ля ложка хворага С. К. Мяржынскага.

«Мне кветак, мне болей кветак...»
Якія ж тут кветкі? — Пралескі,
кволыя слёзы-пралескі
ды сумны званок сон-травы.

Праўду казаў ты, мой дружа:
— Навошта народу лаўры,
навошта магноліі, пальмы,
калі ў яго й хлеба няма.

Тут трэба такі ламікамень,
які б сваім парасткам вострым
прабіў мерзлату векавую,
бядоту людскую прабіў.

Насенне цудоўнай той кветкі
пасеялі мы.
Ды ці ўзыдзе,
ці ўзыдзе калі ламікамень
на гэтай гаротнай зямлі?

5

Сонца любуецца Мінскам,
сонца зайздросціць Мінску —
гораду працы і кветак,
гораду песень і мар.

Работы ж у сонца многа,—
трэба зірнуць ва ўсе вокны,
трэба лінуць ва ўсе вокны
шчодра святло і цяпло.

А вокнаў тых столькі ў Мінску,—
за год іх усіх не злічыш,
зашклёных радасных вокнаў,
і ў кожнае трэба зірнуць.

Пяшчоты ж у сонца многа,—
цягнецца вуснамі сонца
да пухленькіх шчочак дзетак,
да росных лісточкаў,
да кветак,
радасць усім нясе.

У скверы Купалы студэнткі
чытаюць на роднай мове
Лесі Украінкі вершы —
да працы, змагання кліч:

«Устань, хто жывы, ў каго думка паўстала!
Гадзіна для працы настала!
Не бойся дасветнай імглы,—
світання агні запалі,
калі шчэ зара не зайграла».

Гадзіна для працы настала,
для вольнай, стваральнай працы,
яе здабылі ў барацьбе мы,
у жорсткіх баях здабылі.

Па вуліцы Камуністычнай
ідуць юнакі і дзяўчаты,
ідуць да станкоў і варштатаў,
на змену бацькам ідуць.

*1963*

## ПАРТЫЗАНСКІ ПРАСПЕКТ

*Маладым рабочым Мінскага ордэна Леніна і ордэна Кастрычніцкай рэвалюцыі трактарнага завода прысвячаю.*

### Пралог

Гавораць, стаў цяпер зыскоўны
і пераборлівы чытач,—
паэм расцягнутых, шматслоўных
чытаць не хоча, хоць ты плач;
не любіць фраз прыгожых, зычных
і жэстаў рэзкіх, паказных,
і меркаванняў архаічных,
і параўнанняў: мы — яны.

Яму дай змест такі глыбокі,
такі шырокі,
як Сусвет,
каб недасяжным быў для вока
і стаступенчатых ракет.

Яму дай новага героя —
сучаснага з усіх бакоў,
што ўмее працаваць і мроіць,
хапаць усё перадавое,
таптаць аджыўшае, старое
і выкрываць пралаз, дзялкоў;
што можа падтрымаць гаворку,
як сядзе за банкетны стол,
цытуе ён Містраль і Лорку,
штось ведае пра кіназорку,
ну і, вядома,— пра футбол;

што не сячэ з пляча на сходах:
«Той — працаўнік,
а той — лайдак»,
а з навуковым падыходам
усё разважыць — так ды сяк,—
і разбярэцца па парадку,
адкуль і як,
чаму і дзе,

псіхалагічную падкладку
пад кожны ўчынак падвядзе,
не дасць пакрыўджанага ў крыўду,
крыўдзіцелю аб'явіць бой,
з упартым выйграе карыду,
бо чуе праўду за сабой.
Для ўсіх душа яго адкрыта,
і ён усюды — хлопец свой.

Вось я і ёсць такі герой,—

звычайны радавы рабочы,
як кажуць, сціплы працаўнік,
да выступленняў неахвочы,
бо выхваляцца не прывык.

Я — радавы,
але не просты
і не бясколерны зусім.

Вышэй сярэдняга я росту,
прытым
з характарам крутым.
Бываю хмурым я і светлым,
магу і рэзкае сказаць,
калі гуляць — з усім імпэтам,
а працаваць — дык працаваць!

Вось раніцой іду на змену,
з усіх бакоў:
«Прывет!»
«Здароў!»
Бо, можа, сотні дзве сустрэну
сваіх знаёмых і сяброў.
І кантралёр суровы — Вера,
што прапускае ў прахадной,
глядзіць з павагай і даверам
на пастаянны пропуск мой,
як быццам бы і ёй вядома,
што на душы маёй — не лёд,
што не інакш, як родным домам
заву я трактарны завод;
што ў цэху зборачным навечна
прыпісаны даўно ўжо я,

дзе дружбай спаяна сардэчнай
мая рабочая сям'я.
І не пра тое ўся гаворка,
што я ў сям'і — не дармаед,
што даручаецца мне зборка
машыны, слаўнай на ўвесь свет.

Ні вундэркіндам,
ні анёлам,
паверце, зроду я не быў,
«хварэў» хакеем і футболам,
здаралася, і вокны біў,
сваволіў, а як скончыў школу,
сябе ў рабочы клас уліў.

Што ведаў я пра клас рабочы
спярша? Хіба адно, што ён
наперадзе заўсёды крочыць,
бо — авангард і гегемон.
Мне думалася: дастаткова
узяць у рукі малаток,
зубіла
або ключ тарцовы
ці стаць за фрэзерны станок,—
і ты сябе ўжо маеш права
у клас рабочы залічыць
і, як спяцоўку, яго славу
на маладых плячах насіць.
Я памыляўся, спатыкаўся.
Сям'я мая — рабочы клас,
аб тым, як я ў цябе ўрастаўся,
пачну спачатку свой расказ.

## Раздзел першы

## Інтэрнат

### 1. Халасцяцкі пакой

У кожнай сцежкі ёсць пачатак,
у кожнай песні ёсць запеў.
Пакойчык цесны інтэрната
прывабны выгляд рэдка меў:

не помніць стол,
калі букеты
на ім стаялі з ясных руж,—
тыднёвай свежасці газеты
найлепшы быў яму абрус.
Чатыры ложкі, нібы лодкі
прычалены да ціхіх сцен,—
правіслі сеткі да падлогі
пад цяжарам хлапечых цел...
Два зэдлікі,
адна канапа —
яе спружыны аж звіняць,
ды шафа разяўляла зяпу,
калі хто дзверы адчыняў...
Электрапрас...
Электрачайнік...
І рэпрадуктар на сцяне...

Хлапечы рэквізіт звычайны.
Тут мы жывём.
Нас пяць зацятых
Халасцякоў — галоў адчайных:
Валера, Пеця, Грыша, Ваня
ды я.
Здаецца раем мне
пакойчык гэты інтэрнацкі
пасля прыватніцкіх «вуглоў».
Жывём тут дружна мы, па-брацку,
і з бесклапотнасцю юнацкай
марнуем цішу вечароў:
ці то валяемся на ложках,
ці рэжам бойка ў даміно,
ці ўспамінаем штось патрошку —
сваё дзяцінства, школу, вёску
і тую, што правёў з кіно.

Перад зарплатай давядзецца
ізноў круціць-вярцець мазгой,
каб раздабыць траячку дзесьці
хаця б на чай ды хлеб з камсой.
Ніхто філоніць тут не стане,
калі аб'яўлены аўрал.
Бутэлькі, шклянкі з-пад смятаны
даручым аднаму сабраць,

другому — тумбачкі праверыць,
мо знойдзе сала кус які,
кішэні вытрасе Валера,
падлічыць пільна медзякі,
аддасць іх урачыста Ваню:

— Ты начытаўся мудрых кніг,
рашы жыццёвае пытанне —
як накарміць нас пяцярых
за гэту дробязь.
Ну, філосаф,
цябе мы дужа-дужа просім.

І Ваня рошыць:
возьме сетку
і пойдзе моўчкі ў гастраном,
і прынясе гару наедку:
салакі смажанай
ці хеку,
пельменяў,
хлеба
і рулета,
ды шчэ кулёчак з тварагом.

Ён — хлопец кемлівы, талковы,
на вецер не кідае слоў,
разважлівы і памяркоўны,
заўсёды выручыць сяброў.
Не па сваіх гадах практычны,
на ўсё ў яго — разлік, падлік;
ён кпіць з маіх вясковых звычак:
— Жывеш у горадзе сталічным,
а па натуры ты — мужык.
Тут, браце, так: не будзь варонай,
сам клапаціся пра сябе
па дыялектыкі законах,
што ўсе мы ў вечнай барацьбе...

Ён не спрачаецца ніколі
(ці ж спрэчкай пераверпеш свет?),
займаецца ў вячэрняй школе
і марыць пра ўніверсітэт.
Адно, што крыху скупаваты,
за грыўню кожную дрыжыць,
бо хоча стаць калісь багатым,

па-людску, як гаворыць, жыць:
жаніцца,
атрымаць кватэру,
купіць машыну,
барахло...

Па-іншаму жыве Валера,
нібыта Ваню ўсё назло:
не лічыць грошай ён, гуляе,
частуе хлопцаў і дзяўчат,
перад зарплатай галадае,
на хлеб, салаку пазычае...
Яго хваробу добра знае
увесь наш людны інтэрнат.

А Грыша — хлопец акуратны,
мы Моднікам завём яго.
Прыгожы тварам,
стройны,
статны,
да выпівак зусім не здатны,
прыхільнік моднага ўсяго.
Гатоў усю сваю зарплату
за шмотку нейкую аддаць
і вечна толькі тым заняты,
каб «ад Еўропы не адстаць»,—
касцюм свой чысціць і прасуе,
штось шые, мые і цыруе,
наводзіць бляск і прыгажосць.
Ён выхваляецца:
«Красуні
усе ў маіх руках, як ёсць».

Чацвёрты — Пеця,
Боцман-лоцман,
былы марак, арол, танцор,
служыў, гаворыць, на падлодцы
і знае, што такое — шторм.
Не толькі спражку
і цяльняшку
прынёс ён з флоту на ўспамін,—
душа ў яго марской закваскі,
не любіць слоў ён:

«страшна»,
«цяжка»
і пойдзе супраць ста адзін.
Ён не скупы,
ды беражлівы,
зарплату размяркуе так,
каб на харчы яму,
на піва,
на пральню,
на кіно хапіла,
яшчэ перад палучкай здзівіць,—
з кішэні выцягне трояк...
Жывуць у гэтым вось пакоі
яны даўно.
Я ж —
навічок,
падселены да іх зімою,
каб мець хаця які куток,
прытулак,
дах над галавой;
спаць на канапе прылаўчыўся,
прыжыўся,
з хлопцамі здружыўся,
што ўжо й не разальеш вадой.

## 2. Культпаход

Чуць свет —
ля інтэрната
сабраўся цэлы сход:
зборшчыкі брыгадай
ідуць у культпаход;
ідуць яны за горад,
дзе сонца, і азон,
і вадаём,
што морам
з павагай мы завём;
дзе птушкі-весялушкі,
прывал на беражку,
са свежай рыбы юшка
у дымным кацялку;
дзе песні пад гітару,
вячэрні зарапад...

І мары,
нібы чары,
п'яняць хлапцоў, дзяўчат.
Ды раптам
голас мерны —
нібы з вядра вадой:
— Давайце лепш праверым,
ці ўсё ўзялі з сабой?

З прыжмурам хітраватым —
не праваронiць каб! —
уніклівa дзяўчаты
трасуць
хлапечы скарб:
— Футбольны мяч...
— Палатка...
— Аловак і блакнот...
— Зубная паста...
— Плаўкі...
— Запалкі...
— Даміно...
— Сякерка...
— Цыгарэты...
— Кансервы...
— Соль...
— Батон...
— Валан і дзве ракеткі
гуляць у бадмінтон.
— А гэта што?!
Валерка
прыцішыўся, прынік:
гарэлкі паўлітэрка
замотана ў ручнік.
— Ах так! Ідзеш рыбачыць,
адпачываць-спяваць?
Вось гэтай «юшкай», значыць,
нас будзеш частаваць?
Усё!
Без нас ідзіце,
шукайце тых,
такіх...

І стаечкай сінічак
ад коршуна ўсе — пырх!

І хлопцы спахмурнелі,
сціскаюць грозны круг:

— Ану рашай, Валера,
ты друг нам
ці не друг?
— Ды што вы, братцы?..
Грошы...
Працоўныя рублі...
— Ах грошы? Гусь харошы,
ці чуеш,— адвалі!

Рашай,
рашай, Валерка!
Дрыжачая рука
зялёную бутэльку
выцягвае з мяшка
і — трах! — са злосцю ў урну:
пі, металічны рот!

Не будзе бескультурным
рабочых культпаход!

Раздзел другі

## Каханне

### 1. Сустрэча

У тую майскую суботу
мы дружна спалі да паўдня.
Як Боцман кажа, па ляноту
не ходзяць, бо да ўсіх ахвотна
яна сама йдзе, як радня.

Прачнуліся, ды не ўставалі,
пасцеляў бераглі цяпло,
крадком з-пад коўдраў пазіралі
і так салодка пазяхалі,
нібыта й ночы не было.

Падняўся першым, як звычайна,
адпеты наш філосаф Ваня,

у рукі кнігу — і за стол,
штурхнуў акно:
— Пагодна зрання,
а сёння ў парку ў нас гулянне,
па тэлевізары — футбол.

Ён хоча, каб пайшлі скарэй мы
з пакоя ў сіні тлум вясны,
а сам не бавіць час дарэмна,
сядзіць і зубрыць тэарэмы
пра Піфагоравы штаны.

Каманду Боцман даў:
— Пабудка!!! —
ледзь шкло не вылецела з рам.
Ён апранаецца так хутка,
што аж не верыцца вачам:
цераз штаны дзвюма нагамі
у чаравікі — бух, як конь;
па гузіках бяжыць рукамі —
ці то кашуля, ці гармонь?
Глядзіш: апрануты, абуты
стаіць, смяецца на ўвесь рот:
— Эх, гора з вамі, сухапутны
непаваротлівы народ.
Ды будзьце ж, хлопцы, маракамі,
спяшайце морды спаласнуць,
і пабяжым хутчэй на камбуз
гарачанькага сербануць.

У гарадскіх сталоўках нашых
меню-стандарт на круглы год:
чырвоны боршч,
пярлоўка-каша,
траска,
біточкі
і кампот.
Хапай хутчэй паднос бляшаны
і станавіся ў хвост чаргі,
бяры, нясі на стол з пашанай,
еш апетытна, без тугі.

Чаргу заняў для ўсіх Валерка
і скіраваў «налева» нос.

Якойсьці фіфачцы талерку
пад хлеб паставіў на паднос,
падаў кампот,
відэлку,
лыжку,
на вуха нешта ёй шапнуў
і локцем непрыкметна Грышку
пад бок шматзначна штурхануў.

Маўляў, што хочаце бярыце
і не глядзіце на мяне.
Шукайце месца, ешце, піце,
затым паціху адваліце,
сваёй дарогаю ідзіце.
І як мяне ўжо ні завіце,
вярнуся, калі будзе днець...

І мы Валерку добра знаем,—
цяпер пачне «пісаць кругі...»,
асобна селі дый «рубаем»
і толькі зводдаль назіраем,
як ён закручвае мазгі.

— Вось так,—
міргнуў нам Боцман-лоцман,—
бяруць дурніц на абардаж.
І мне пара ўжо адкалоцца,
ці, як гаворыцца на флоце,
іду ў чарговы кабатаж.

Ісці кудысьці з Грышам разам
не выпадае мне ніяк:
апрануты ён з шыкам, бляскам,
на мне ж штаны ўсе ў плямах, кляксах,
старэнькі кортавы пінжак.

І ўспомніліся словы Грышы,
як важна знешні мець партрэт.
Нічога тут, брат, не напішаш,
так пабудаваны ўжо свет,
што без адзежыны шыкоўнай
нікуды й кроку не ступіць.
Як ні круціся, а ўсё роўна
прымусяць моднае купіць.

Ды ці ж угонішся за модай,
хоць зарабляй мільён рублёў,—
то ў модзе пэйсы,
то — бароды,
то — грывы, як у тых ільвоў.
Спадніцы-максі б'юцца з міні,
штаны, то — дудкі,
а то — клёш,
нейлон спрачаецца з аўчынай...
І пастаянства — ні на грош.

Сказаў я Грышу:
— Завітаю
у прамтаварны магазін,
нагледжу куртачку братану...
А сам у парк пайшоў адзін.

Гулянне ўжо было ў разгары.
Народу процьма — не прайсці.
Хто ў пары быў,
а хто без пары,
як я, блукаў, вачамі шарыў
па скрынях ля латкоў і марыў,
каб дзе бутэльку «Санцадару»
ці піва свежага знайсці.

Марожанае дзеці елі,
бацькі на горку іх вялі,
дзе беглі коні-каруселі,
рыпелі весела арэлі,
махіна — кола круг вярцела,
з яго цікаўныя глядзелі,
ці ёсць край нашае зямлі.

Гудзеў вуллём тэатр зялёны,—
эстрадны там ішоў канцэрт,
і паўтаралі мікрафоны
там-там імклівасці шалёнай,
спявачкі, тоўстай і дароднай,
народнай песняй акрылёны
пісклявы тоненькі фальцэт.

Далей, ля кніжнага кіёска,
уласны верш чытаў паэт

пра тое, як вярнуцца ў вёску
ён марыць,
дзе шумяць бярозкі,
дзе камары гудуць і мошкі,
дзе ў лузе расцвілі валошкі...
Там адпачне душою трошкі,
на сене будзе спаць па-боску
і грызці паданак-ранет...

Усё вярцелася, спявала...

А хмара неба абкладала,
паўзла яна цішком-крадком,
закрыла сонца,— цёмна стала,
і нечакана грымнуў гром,
нібыта хтось над галавою
пасцілку цішы разадраў...
Хіснуліся пад ветрам хвоі,
і лівень лінуў бы з вядра.
Шалёна пырскі заскакалі
па гладзі столікаў складных.
Паспешна посуд сабіралі
буфетчыцы
і накрывалі
цыратай свой тавар мучны.
Мне ж удалося пад яліну
шмыгнуць, дзе голле — як павець,
прабіць яе не мог і лівень.
І смешна мне было глядзець,
як людзі, мокрыя да ніткі,
ляцелі ўроссып хто куды,
адно мільгалі толькі лыткі
у шызым пошуме вады.
Якая праведная сіла
дзяўчыну лепшую з дзяўчат
па сцежках доўга не вадзіла,
дажджом загнала акурат
пад тую самую яліну,
дзе я зажураны стаяў.
Яна дрыжала
як асіна,
дажджом прамоклая.
І я
на плечы ёй пінжак накінуў,

у вочы глянуў,
і мая
душа замерла...

Пра каханне
напісаны мільёны кніг.
Не стану мучыць апісаннем
пачуццяў дробязных маіх,
скажу адно:
усё прапала,
кудысьці знікла,
адплыло.
Перада мной ЯНА стаяла,
а больш нічога не было:
ні парку,
ні дажджу,
ні грому...
За рукі я яе трымаў,
і дзіўна мне цяпер самому,
дзе смеласці на гэта ўзяў.
— Як зваць цябе? —
яе спытаў.
— Наташа.
— А мяне — Віталі...

І вусны самі прашапталі:
— Хадзем.
— Куды?
— На край зямлі.
— Ну што ж, хадзем...
І мы пайшлі.

**2. Старонкі дзённіка**

*21 мая*

Дзе Свіслач выгінаецца падковай,
гайдаючы на хвалях адлюстроўкі
дамоў і дрэў,
вясёлак і вятроў,—
сядзелі мы
на лавачцы зялёнай,
маўчалі,
на ваду імклівую глядзелі,

і так было нам добра, так прыемна,
што я здзівіўся:
як гэта дагэтуль
мы жыць маглі, не ведаючы нават
адзін пра аднаго...

*6 чэрвеня*

Гэтак дзверы не адчыніць
госць, суседка ці сваяк,—
толькі зможа гаспадыня
ў родны дом зайсці вось так:
ціхенька,
без стуку-груку,
адшукаюць клямку рукі,
не зачэпяць за парог
босыя падэшвы ног.

Ранкам сінім у даліне
ружа-кветка зацвіла.
Не, не госцяй — гаспадыняй
ты ў душу маю зайшла.
Ціхенька, без стуку-груку,
адшукалі твае рукі
клямку ў сэрцы у маім,
гаспадарыць сталі ў ім.

*13 чэрвеня*

Хто мяне шчырым і ласкавым словам
гэтак настойліва кліча ў дзень новы? —
Ты, дарагая мая.
Хто не дае мне збівацца з дарогі,
а калі ўпаў, паднімае на ногі? —
Ты, дарагая мая.
Хто ад спакус і ад звадак бароніць,
чорныя думкі адчаю прэч гоніць? —
Ты, дарагая мая.

*20 чэрвеня*

Даўно я не ляжаў на лузе —
стракатай казцы майго дзяцінства.
Там было многа кветак:
белых,
сініх,
чырвоных,

я выбіраў самую прыгожую,
садзіўся ля яе
і любаваўся свежымі пялёсткамі.
А над намі быў чысты блакіт...
Любая,
калі мы разам,
мне здаецца, што я зноў на тым лузе —
стракатай казцы майго дзяцінства.
Мноства кветак цвіце ля маёй галавы.
Гэта —
твае вочы,
вусны,
шчокі...
А над намі —
чысты-чысты блакіт.

*4 ліпеня*

Гэта — не фіялкі, а герані,
ты не рві іх у букет:
не хачу,
        каб наша шчасце было без гарантыі,
як іхні цвет.
На герані дзьмухне ветрык лёгкі,—
аблятаюць кволыя пялёсткі.
Нам з табой ісці шчэ давядзецца
праз віхуры-буры, завірухі.
Трэба, каб з іскры пачуцця вецер
полымя кахання раздзьмухаў.

*18 ліпеня*

Ад мар і жаданняў,
ад свайго кахання
уцёк нарэшце,
ляжу бязгрэшнікам
на цёплай траве пад ракітай,
гляджу на неба і ціха спяваю:
        «Чаму я не сокал,
        чаму не лятаю?»
Чаму я не сокал?
А ў небе высокім,
нібы крэйдай, па дошцы блакіту
самалёт піша твой вензель
і назойлівым гудзеннем
заглушае маю манаскую песню.

*9 жніўня*

Часу не марнуў на ўборы-зборы,
а хутчэй прыходзь, мая краса.
Бачыш, як мігцяць трывожна зоры?
Чуеш, як шуміць пад ветрам сад?
Пацямнела ўжо на ўсходзе неба,—
хмары там збіраюцца на дождж...
Модных туфель абуваць не трэба,
да мяне прыходзь ты басанож.
Не заўважу я, што без памады
губы, не заплецена каса.
Валасы прапахнуць рутай-мятай,
ногі чыста вымые раса.
Што мне перасуды-абгаворы!..
Толькі б бачыць свет тваіх вачэй.
Часу не марнуй на ўборы-зборы,
радасць ты мая, прыходзь хутчэй!
Абдыму, пяшчотна пацалую,
да грудзей гарачых прытулю.
Вось такую — простую, зямную —
я цябе, харошая, люблю.
І ніякай іншай мне не трэба.
Дык прыходзь жа, сэрца не трывож!
Ці не бачыш — пацямнела неба,
хмары там збіраюцца на дождж.
Не мігцяць, патухлі ў небе зоры,
не шуміць, прыціх трывожна сад.
Часу не марнуй на ўборы-зборы,
а хутчэй прыходзь, мая краса!

*14 жніўня*

Мне колькі жыць —
здзіўляцца вечна
і захапляцца ўсёй душой
усім прыгожым,
чалавечным,
што ты прыносіш мне з сабой.

*16 жніўня*

Нібы малатком,
у скроні б'е,
стыне ад рэўнасці
кроў у жылах.

Чакаю цябе.
Няма цябе...
Арлу ты падбіла крылы.

*23 жніўня*

Ты знікла зноў кудысь без следу,
як легендарны Кіцеж-град.
Я наўздагон трамваем еду
і пехатой брыду назад,
гляджу, шукаю між сустрэчных,
ды не магу знайсці, пазнаць.
Так разышліся недарэчна:
я тут — адзін,
ты там — адна.
Адна?
А можа...
Сэрца точыць
гадзюка-рэўнасць спадцішка...
Сустрэць бы, глянуць толькі ў вочы,
прайсціся — у руцэ рука,—
і пасвятлееў бы чорны вечар,
зваліўся б сумных дум цяжар.
...Плыве натоўп, нібыта вечнасць,
маўчыць таемны Светлаяр.

*8 верасня*

На ўсе пытанні адказаць гатоў,
здаецца, ўсё на свеце знаю.
Адно сказаць мне не хапае слоў —
завошта я цябе кахаю.

*6 кастрычніка*

Не, ты не паехала нікуды.
Проста мне прысніўся той перон.
Проста мне прысніўся той вагон...
Не, ты не паехала нікуды.

Праганю ў нябыт свой страшны сон,
а цябе ніколі не забуду,
век цябе я ў песнях славіць буду
і крычаць: «Вярніся!» наўздагон.

Праз густую дымку успамінаў
ты пачуеш,— ты пачуць павінна! —

голас, мною кінуты ў прастор,
і вятрам усім наперакор
да мяне здалёк прыедзеш ты
слухаць дождж асенні залаты.

*13 кастрычніка*

Мне без цябе, павер, самотна
і ў калатнечы гарадской,
а дома зноў гняце маркотай
у сцены злоўлены спакой.
Цяжка, усюды цяжка
мне без цябе...

*13 лістапада*

Слаўлю ўсмешку тваю, бо яна
прэч гоніць заўжды сумоту,
сілу дае,
бы раслінам вясна,
здымае з плячэй турботы.

*20 лістапада*

Калі б ты ведала цану
сваёй усмешкі ветлай,
ты б не здзіўлялася, чаму
на сэрцы ў мяне светла.

Калі б адчула, хоць на міг,
цяпло свайго пагляду,
ты б не баялася зімы
аснежаных прысадаў.

*1 снежня*

Клапатлівы гаспадар —
снежны месяц снежань,—
шчодра сыпле на абшар
чысціню і свежасць,
ходзіць ціха, без вятроў,
без сляпых мяцеліц
ля дуброў
і ля бароў,
ля падкоў-аселіц;
вяжа з ваты світэры,
сосны апранае,

елкам даў на каўняры
футра гарнастая;
разаслаў сурвэтак бель
на лясныя сцежкі.

...Мне ж маркотна без цябе,
без тваёй усмешкі.

*7 снежня*

А нам з табой цяпер бы ў бор,
у цішыню снягоў пушыстых.
Не дам табе
                    кваецістых зор,
а выкладу,
                    нібы дакор,
мільён сваіх жаданняў чыстых.

*21 снежня*

Не відно больш
ні лагчыны,
ні пагоркаў,
ні канаў,
ржэўніку густой шчаціны,
лугавых пабляклых траў,
руні жыта малахіту,—
толькі снегу белізна,
нібы хтосьці раскаціў тут
сто сувояў палатна.
Я іду,
куды — не знаю,
напрасткі
і па крывой,
прагным позіркам шукаю
свой
сувой —
самы мяккі,
самы белы,
самы тонкі,
самы любы,—
той,
які ты мне рассцелеш
на пасцелі
нашай шлюбнай.

*4 студзеня*

Якой вялікаю цаной
даецца радасці хвіліна,—
як лыжнік, што імчыць з трампліна,
за міг палёту над зямлёй
ты рызыкуеш галавой.

*12 лютага*

Ты не ўцякай у ціш лясную
ад новых дум — трывожных дум.
Куды ні пойдзеш — даганю я,
дзе ні схаваешся — знайду.
Знайду,
пяшчотна ў вочы гляну,
за рукі зябкія вазьму
і праз аснежныя паляны,
праз завірушную зіму
цябе, маё жыццё і радасць,
я па сцяжынцы павяду
не ў залацісты ціхі ранак,
а ў гулкі дзень трывожных дум.

*11 сакавіка*

Ты помніш той дзень?
У зеніце шчыравала сонца,
зганяючы апошні снег мінулае зімы.
Я блукаў па вуліцах роднага горада
і на ўсе грудзі піў вясну.
Шчыравала сонца,
ад яго пацалункаў набухалі і лопаліся
пупышкі дрэў.

Я блукаў па вуліцы і піў вясну.
На самым сонечным месцы сустрэў цябе.
Ты ішла па мокрым асфальце
і ўсміхалася мне — пяшчотна, зычліва.
Да гэтага ніхто мне так не ўсміхаўся.
Шчыравала сонца.
Лопаліся пупышкі дрэў.
Як зачараваны, я спыніўся.
Здалося, спыніўся і час.
Ты помніш той дзень?
Будзем жа ісці разам
і піць вясну.

Няхай вечна шчыруе сонца!
Няхай кожную вясну лопаюць пупышкі дрэў!
Ніхто мне так не ўсміхаецца,
як ты.

*20 сакавіка*

Хораша з табой ісці
у жыцці адной дарогай!
Будзе вечна нам свяціць
зорка шчасця маладога,
бо не можа пастарэць
кроў у сэрцах закаханых,
як не блякне сонца медзь
ад расы, дажджоў, туманаў.

Хораша з табой ісці,
песні пець аб маладосці.
І не скажуць, што ў жыцці
мы — вандроўнікі ці госці,
бо сапраўдны творчы ўздым
і высокія парывы —
толькі ў сэрцах маладых,
закаханых і шчаслівых.

**Раздзел трэці**

## Адкрыццё

### 1. Запаветнае

Як бачыце, былі сустрэчы,
былі і ростані.
Былі...
Пяшчотна рукі клаў на плечы —
і ўдаль
гадзіны,
дні плылі.
Плылі і мы на крылах лёгкіх
таго святога пачуцця,
што, як вясной разліў паводкі,
нясе бярвенні,
трэскі,

лодкі
у вольны акіян жыцця.

Ён разгарнуўся перад намі,
той запаветны акіян,
абмыты веснімі дажджамі,
прадзьмуты вольнымі вятрамі,
з палямі,
рэчкамі,
лясамі,
з агнямі,
кветкамі,
сцягамі,
з Хатыні сумнымі званамі
і з партызанскімі кастрамі
на плошчах сцішаных палян.
І адкрывалі мы нанова
зямлі абноўленую шыр,
сэнс новы набывалі словы:
Радзіма,
Беларусь
і Мір.

І пераходзіў сон у яву,
а ява зноў — у светлы сон.
...Калісьці памяць зноў праявіць
мне фотаплёнку гэтых дзён.
Там кадраў шмат.
Між іх і тыя,
якія ў сэрцы я нашу,
як успаміны дарагія,
што ўскалыхнулі мне душу.

**2. Хатынская рапсодыя**

Спыніся, чалавек,
на ціхім скрыжаванні,
дзе сцежкі і дарогі
затканы муравой.
Тут спяць і смех сустрэч,
і смутак развітанняў,
рып сумных палазоў,
звон бомаў пад дугой.

Спыніся, чалавек,
на ціхім скрыжаванні.
Спыніся і пастой.

Спыніся, чалавек,
пад ніцаю бярозай,
што голлем захінула
самотны абеліск.
Прыгледзься, як дрыжаць
на цёплых вейках росы,
паслухай, што шапоча
вятрам зялёны ліст.
Спыніся, чалавек,
пад ніцаю бярозай
і галаву схілі.



Гудуць званы...
Галосяць каміны...
Дымяцца раны сцішаных курганаў.
Дзіцячыя няскончаныя сны
лунаюць над палеткам неўзараным.

Водгуллем вайны
гудуць званы.

Журба смугі
калыша берагі
зямлі-пакутніцы, зямлі-святыні.
Звісаюць, як жалобныя сцягі,
спыняюцца аблокі над Хатынню.

Водгуллем вайны
гудуць званы.

Жалобны звон...
Абвуглены бетон
і надпісы на плітах паўтараюць:
вайны ахвяры шлюць вайне праклён,
мір берагчы нашчадкаў заклікаюць.

Водгуллем вайны
гудуць званы.

◆

Квецень садоў — гэта песня вясны.
Матчына песня — чатыры сыны.
Кожны сынок —
жывы ручаёк
звініць у зацішку лясным.
Дзеці раслі на зялёнай зямлі,
кветкамі пчасця пад сонцам цвілі.
Кожны сынок —
стройны дубок,
мора блакіту ў галлі.

Першы пайшоў на завод працаваць.
Доля другога — палі засяваць.
Трэцяга лёс —
ў дождж і ў мароз
родны свой край вартаваць.

Самы малодшы сынок — вечны боль,
слёз мацярынскіх пякучая соль,
горкія сны —
ахвяра вайны...
Сціснута сэрца матулі жальбой.

Ходзіць матуля, плача-рыдае,
у травах пахілых слядочкі шукае,
сына гукае:

— Дзетка маё мілае!
Дзетка маё роднае!
Лісточак мой зялёненькі,
цвяточак мой чырвоненькі,
недаспелы мой каласочак,
дарагі сыночак!
Салавейка шэранькі, шчабяцінnічак мой!
А куды ж ты ад мяне адляцеў?
Ці цябе ветрыкі адбілі?
Ці цябе дожджыкі адмылі?
Хадзіла я ў зялёны лес,
там зязюлі кукуюць,
птушкі спяваюць,
людскія дзеткі ягадкі збіраюць...
Аднаго цябе няма.

Хадзіла я на шырокі луг,
там краскі цвітуць,
пчолы гудуць,
людскія дзеткі цвяточкі рвуць.
Аднаго цябе няма.
А куды ж гэта ты, галубочак мой, падзеўся?
У якую дарожаньку падаўся
процію лецечка цёплага?
Ходзіць матуля, плача-галосіць,
спагады і помачы просіць:
— Людзечкі родныя, брацці, сястрыцы,
не дайце мне ў горы маім утапіцца.
Многа на свеце розных дарог,
абысці іх усе мне не хопіць ног.
Пакажыце, родныя,
пакажыце, добрыя,
па якой дарожцы ісці,
каб свайго чацвёртага сыночка знайсці?

Светлай дарогай ходзяць сябры:
будаўнікі, плугары, пчаляры —
шчырыя людзі,
працоўныя людзі,
нашай планеты гаспадары.

Чорнымі сцежкамі ходзяць звяры,
смерці, разбою, пажараў майстры.
Мірны наш дом
штыхом і агнём
знішчыць хацелі яны на зары.

Чуеш: над полем звоняць званы?
Бачыш: на ўзлессі стаяць каміны?
Гэта — Хатынь.
Там і твой сын —
бедная дзетка лясной старапы.

Падышла матуля да бярозы,
абняла счарнелы камялёк.
Ка́паюць на шэры попел слёзы —
горкі дождж мільёнаў мацярок.
— Родненькі сыночак,
светлы промнік мой,
што яны зрабілі,

лютыя, з табой?
Нахілілася ў няўцешнай скрусе,
попелу у прыгаршчы ўзяла,
смутак-жаль зялёнай Беларусі
над Зямлёй-планетай узняла:
— Глядзіце, жанчыны
ўсіх краін,
попел ад сына.
Гэта — Хатынь.
Няхай вам не бачыць
такога і ў сне.
Не!
Не!
Не вайне!

Падтрымаў матулю сын-рабочы,
вывеў на шырокі, светлы шлях:
— Маці-Беларусь, ты выплакала вочы
па сваіх нявернутых сынах.
Паглядзі, як мы адбудавалі
спаленыя вёскі, гарады.
Яркімі агнямі свецяць далі —
сведкі нашай шпаркае хады.
А з другога боку да матулі
падышоў яе сын-аратай:
— Мы тваім палям красу вярнулі:
каласамі звоніць ураджай.
Пасівелыя цалуе скроні
у вайсковай форме сын-баец:
— Ад напасцяў лютых абаронім
мы прасторы родныя свае.
Хай сады цвітуць пад небам сінім
і красуюць мірныя палі.
Не дадзім, каб новыя Хатыні
ранамі чарнелі на зямлі!



Сонца ўзыходзіць,—
яснеюцца далі,
ззяюць на лузе
росы-каралі,
вецер прылёг
адпачыць пад ракіту,

сыпле жаўрук пералівы з блакіту.
Сонца ўзыходзіць.

Сонца ўзыходзіць,—
знікаюць туманы,
з поля струменіцца
водар духмяны,
промні цалуюць
прастор васількoвы,
поўняцца спевам птушыным дубровы.
Сонца ўзыходзіць.

Сонца ўзыходзіць,—
рунеюць палеткі,
травы растуць,
распускаюцца кветкі,
сілай зямной
наліваецца колас,
бягуць ручаі на сустрэчу з ракою.
Сонца ўзыходзіць.

Сонца ўзыходзіць,
зямлю саграва.
Мірнае неба
іскрыцца над краем.
Сад апранаецца
ў белую квецень.
Спяць у калысках шчаслівыя дзеці.



Разлівае звон вясенні
светлы купал сінявы.
Едзе звонкае вяселле
на машынах легкавых.
Ластаўкамі ўюцца стужкі,
гнуць антэнныя пруткі.
З маладой сядзяць падружкі,
з маладым — яго дружкі.
Едзе песня, едзе шчасце,
едзе новая сям'я.
Перад ёй адкрыта насцеж
беларуская зямля.
Вёсак шыферныя дахі
ў буйнай квецені садоў,
светла-бэжавыя гмахі

вечна юных гарадоў.
Родны сэрцу далягляд
ліўнямі прамыты,
промнямі заліты.
Пад аховаю прысад —
абеліск гранітны.
Ля падножжа птушкай-песняй
б'ецца Вечны агонь.
І вядзе жаніх нявесту
да яго.
Каб аддаць пашану моўчкі
светлай памяці байцоў
і прыпомніць лёс жаночы
недалёкіх тых часоў.
Слодыч першага спаткання,
промні светлыя надзей.
Развітання цяжкі камень,
ноч журбы,
турботны дзень.
Пасылалі ў бой любімых,
самых родных, дарагіх,—
толькі б ворага разбілі,—
самі сеялі, касілі,
працавалі за траіх.
За свой край стаялі цвёрда
беларускія сыны.
І да кожнай да чацвёртай
любы не прыйшоў з вайны.
Колькі гора перацёрта,
колькі выплакана слёз,
бо для кожнай для чацвёртай
выпаў горкі ўдовін лёс.
Пад крылом Айчыны-маці
дзеці новыя раслі,
для іх радасці і шчасця
мы ўсе сілы аддалі.
Пад вянец ідуць дзяўчаты.
І няхай жа ім не знаць —
ні чацвёртай, ні дзесятай —
слова страшнага «вайна».
І няхай у згодзе, ладзе
шчасце іхняе цвіце!
І няхай у кожнай хаце
не змаўкае смех дзяцей!



Беларусь! Пакутніца-матуля,
партызанка, воіна сястра,
не забыла ты, як свішчуць кулі,
як палеткі спелыя гараць.
Не забылі ніцыя бярозы,
як стагнаў пад цяжкім ботам шлях,
на зямлю раняюць росы-слёзы
па тваіх загінуўшых сынах.
На пагоркі ўсталі абеліскі
вартаваць няскончаныя сны;
ў новых хатах — новыя калыскі,
а ў калысках — дочкі і сыны.
Беларусь! Шчаслівая матуля,
працаўніца горада й сяла,
мы тваім палям красу вярнулі,
вывелі цябе на светлы шлях.
Паглядзі, як мы адбудавалі
спаленыя вёскі, гарады,
яркімі агнямі свецяць далі —
сведкі нашай шпаркае хады.
Хай сады цвітуць пад небам сінім
і красуюць мірныя палі.
Не дадзім, каб новыя Хатыні
ранамі чарнелі на зямлі!

### 3. Сямейная прафесія

Наташын бацька — Павел Сліва,
мужчына крэпкі і мажны,
звычайна ціхі і маўклівы,
а сёння ўспомніў дні вайны;
паважна, ціха, нетаропка
ды складна свой расказ вядзе,
нібыта ўе з пянькі вяроўку
ці з цэглы моцны мур кладзе:
— Сваёй каханай
прыносіў не цюльпаны я,
не мак чырвоны,—
прыносіў эшалоны
ўзарваныя.
Там, на ўчастку
Талька — Блужа

клаў ўзрыўчатку
пад рэйкі ў дождж і ў сцюжу.
Кожная аперацыя
была ўсяночнай,
кожная ноч
магла быць апошняй,—
не гэта страшна.
Страшней за ўсё,
калі ты, малады і прыгожы,
усё сваё, роднае
павінен лічыць чужым і варожым.
Мост,
якім калісьці любаваўся з берага ракі,
рві на шматкі,
каб па ім не беглі
на фронт цягнікі.
У вокны школы,
дзе ты навучыўся пісаць першае слова «мама».
шпурляй гранаты,
страляй з аўтамата,
бо там цяпер начуюць
фашысцкія салдаты.
Плошчы прасторнай
у родным пасёлку,
дзе ты на свята ў піянерскай калоне
крочыў з гальштукам чырвоным,—
пасылай праклёны,
бо там павесілі
нашага атраднага любімца,
танцора і веселуна
Мішку Гарана.
Вечарам майскім,
салаўіным,
звонкім,
на сцежцы ля саду
напароўся ён на засаду,
не паспеў нават вырваць чаку «лімонкі».
Фашысты яго схапілі,
рукі скруцілі,
выкалалі яму вочы,
вырвалі язык,
адрэзалі вушы і нос...
Думаеш, аднаго Мішку яны катавалі?
Яны катавалі нас усіх:

мёртвых і жывых
і яшчэ ненароджаных —
цябе і Наташу.
Вось чаму і была такой лютай
помста наша.
Свой боль,
сваю злосць,
сваю рашучасць
мы прасавалі
ў толавыя шашкі народнага гневу
і гатовы былі самі
ўзарвацца,
каб знішчыць фашыстаў.
Жыццём сваім,
крывёю сваёй
мы адваёўвалі
цішыню і спакой
не толькі для сябе,
але і для тых,
хто прыйдзе за намі —
для цябе і для Наташы,
таму і была такой урачыстай
перамога наша.
Калі ў дзень вызвалення
па Магілёўскай шашы
мы ў родны Мінск уступалі,
горада не ўбачылі —
адны руіны ляжалі.
І нам,
былым дыверсантам і падрыўнікам,
стала ясней яснага,
што трэба набываць прафесію
будаўніка.
Вось з таго часу
па сённяшні дзень
я на будоўлі
і скажу табе,
што лепшай не трэба мне долі.
Колькі дамоў
узвёў —
не злічыць.
Атрымліваюць навасёлы
ад кватэр ключы
і радуюцца.

Іх радасць —
і радасць наша:
мая,
маёй жонкі Юлі,
маёй дачкі Наташы.
Мы, Слівы —
народ шчаслівы,
з лёгкай маёй рукі
ўсе мы — будаўнікі.

**4. У гасцях**

Марозным вечарам зімовым
з Наташаю гулялі мы,
дзе з вуліцаю Васняцова
праспект сыходзіцца. Там новы
квартал нядаўна забудован —
заззялі вокнамі дамы.

Мне нездаровілася штосьці,
у горле стала казытаць,
і я ўздыхнуў:
— Прамерзлі косці,
цяпер было б нядрэнна ў госці
на чай гарачы завітаць.
Ды, як Валера кажа, стэпы
больш людныя,
чым гарады:
тут век не стрэціш, каго трэба,
ніхто не прапануе хлеба,
не паднясе глытка вады.

— Які ж няшчасны твой Валера!..
Атруту носіць у крыві.
Вось дом, у ім сто дзве кватэры,
любы мне нумар назаві.
— Сорак дзевятая.
— Цудоўна,
мы зараз жа туды ідзём
у госці да людзей чароўных,
пагрэемся, чайку пап'ём.
— А хто жыве там?
— Мне ўсё роўна.
Я ж будавала гэты дом,

і кожны, хто ў яго ўсяліўся,
лічы, са мною парадніўся.
— Ты скажаш...
— Ну давай праверым.
І вось мы звонім у кватэру,
якую я назваў наўгад.
Жанчына адчыняе дзверы:
— Наташа! Ты? Заходзь, заходзь!
Ну й малайчына — пад вячэру
патрапіла к нам акурат,
дый не адна, а з кавалерам.
Я ведала, што будзе госць,—
часаўся нос мой. Дзе ты, Саша?
Глядзі, хто к нам прыйшоў — Наташа.

Але яшчэ раней за тату
прыбеглі дзве яго дачкі,
адна ў адну, відаць, блізняты,
вясёлыя, як матылькі.

І Саша — волат, не мужчына —
з'явіўся тут жа. Без размоў
спавадзіў ад дзвярэй дзяўчынак,
нас прывітаў усмешкай шчырай
і ў залу светлую павёў.

Яму гадоў гэтак пад трыццаць,
вясёлы, гаваркі і спрытны,
прыродны тамада і сват.
— Усё ў парадку.
                    Стол накрыты.
Прашу, таварышы, садзіцца,—
хто чым багат, той тым і рад.

— Ды што вы?.. Так мы... на хвілінку...
— Вось і цудоўна, што зайшлі.
Ці там хвілінка, ці гадзінка,
калі ёсць свежая свінінка,
а да свінінкі — чацвярцінка,
каб вы здаровыя былі!

І гаспадыня шчыравала
сваё няхітрае меню:

капусту, бульбу, скваркі сала
ў талеркі нашы падкладала
і ветла ўсім напамінала,
што посуд любіць чысціню.

Сама ж ці ела, ці не ела...
Калі прыбрала са стала,
з Наташай поручкі прысела,
як маці, на яе глядзела,
гамонку ціха павяла
пра гаспадарку і работу,
свае жаноцкія турботы.

Пакуль нарэшце дзядзька Саша
іх далікатна не развёў:
— Старая, адпусці Наташу,
мы праспяваем песню нашу
любімую — пра свой раён.

І, не чакаючы адказу,
ён заспяваў прыгожым басам:

### Мой Заводскі раён

Мой Заводскі раён прачынаецца рана,
да варштатаў ідзе, як на свята радня.
На руках узнімаюць пад'ёмныя краны
залацісты світанак працоўнага дня.

Мой Заводскі раён любіць светлыя фарбы:
неба мірнага сінь, зеляніну садоў,
вітражы агнявыя заводаў і фабрык
і крылатую чырвань святочных сцягоў.

Мой Заводскі раён зычыць кожнаму шчасце.
Сілу маеш — рабі,
сэрца маеш — любі!
Ён слабому не дасць пакаўзнуцца і ўпасці,
не дапусціць, каб моцны павагу згубіў.

Мой Заводскі раён рукі ўмелыя цэніць
і не любіць прыгожых напышлівых слоў.
Тут усе пакаленні рабочым сумленнем
правяраюць і вартасць сваю, і любоў.

Мой Заводскі раён цвёрдым крокам ступае
па шырокіх праспектах, па роднай зямлі.
Асвятляе прасторы шчаслівага краю
камунізма зара,
што Ільіч запаліў.

**Раздзел чацвёрты**

## Галоўны канвеер

### 1. Рабочая сям'я

У цэху зборачным навечна
прапісаны даўно ўжо я,
дзе дружбай спаяна сардэчнай
мая
рабочая сям'я.
Сям'я, з якой у добрым ладзе
жыць буду вечна — не памру,
з якой дзялю бяду і радасць.
Сям'я, якая мне не здрадзіць,
якой гатоў аддаць бясплатна
я ўсё, бо ўсё ў яе бяру.

За свой адменны лёс праменны
я шчыра абавязан ім —
сябрам з ударнай нашай змены,
вясёлым, шчырым, нетаемным,—
хоць з кожнага пішы паэму.

Але дам слова ім самім.



*Камсамолец Полаз Андрэй*
*вядзе на зборцы рэй.*

— Я ў цэху не прыкметны дужа,
але галоўны тут амаль,
бо на канвеерную стужку
кладу найпершую дэталь —
паўраму,
моцную аснову,
што будзе ўвесь цяжар трымаць,

з якой пачне наш конь сталёвы
расці
і сілу набіраць.
Кладу, вядома, не рукамі,
бо гэта важкая дэталь,—
я толькі кнопкі націскаю.
Слухмяныя электраталі
яе падносяць,
падаюць мне,
каб я памог на ўпоры стаць.
Як ні кажыце, а прыемна
і разумець
і адчуваць,
што ты з сваім уменнем,
спрытам
кіруеш,
нібы чарадзей,
каб у належным
тэмпе,
рытме
прайшоў увесь працоўны дзень.



*Слесар-зборшчык*
*Рыгор Кудраўцаў —*
*не выканаўца,*
*а творчы рабочы.*

— Галоўны канвеер
таму і галоўны,
што тут мы галоўныя
ўсе пагалоўна.
Усе мы — галоўныя,
усе мы — адказныя,
усе мы адзінаю
мэтаю звязаны,
адзіным імкненнем,
адзіным жаданнем,
адзіным вытворчым
і творчым заданнем.
Так, творчым!
Хоць справу
мы маем з металам,
ды трактару мала,

каб звонку ўсё ззяла,—
яму дай душу,
каб спакою не знала:
у шчасці — спявала,
у гневе — злавала,
смяялася,
плакала
і сумавала.
А гэта, прабачце,
не толькі вытворчасць —
сапраўдная творчасць.



*Што трактару шэпча*
*запраўшчыца Валя,*
*яна па сакрэту*
*мне расказала:*

— За сто немаўлят у хаце,
дык знаеце, колькі турбот?!.
Як маці
 сваймў дзіцяці,
піхаю шланг-соску ў рот:
«Смакчы весялей,
запраўляйся,
цэхавы наш сынок,
сіл пакрысе набірайся,—
упэўнены
 будзе
 крок,
калі загудзеш-забуркочаш
і выйдзеш
 за родны парог
пласты чарназёму
 варочаць,
мерацць вёрсты
 дарог.
Плугамі
 пісаць будзеш вершы
на аркушах
 родных ніў
і, можа,
 не ўспомніш,
 хто першы

цябе
напаіў-накарміў.
Мне памяць твая
і не трэба.
Без працы
ў разоры
не стой,—
аддзячыш ты
боханам хлеба,
што ляжа,
як сонца,
на стол».



*Пятро Дзям'янавіч —*
*абкатчык вопытны,*
*у яго свае*
*турботы-клопаты:*

— Ці бачылі вы,
як з канвеера
сыходзіць чарговы трактар?
Сабраны
рукамі вернымі,
кантролямі ўсімі
заверанц
і толькі на ход
не праверанц,—
як кажуць,
яшчэ не практык.
Нагамі —
пярэднімі коламі
спаўзае
на дол
памалу,
з гумы адменнай падковамі
мацае грунт —
ці трывалы?
— Трывалы!
— Надзейны!
— Мірны! —
Туркоча-пяе рухавік.
І стане на ўсе чатыры
будучы працаўнік.

І я яго
          першы прымаю,
спачатку,
          нібы акушор,
прыдзірліва ўсё аглядаю,
слухаю сэрца-матор,—
спраўна працуе.
                    Садзіцца
можна спакойна за руль.
Цяпер я —
          яго вадзіцель,
а значыць — і верны
друг.

— Бяжы, размінай суставы,
Наперад!
Налева!
Направа! —
Адразу ў шоры бяру.—
Бегаць па цэху цікава?
Наперадзе ж, брат,
                    не забавы —
спазнаеш, як поле аруць,
і тое,
     дзе гразь па восі,
і тое,
     дзе пыл гарачы.
Не раз ты вадзічкі папросіш,
салярні
     і масла ў прыдачу,
ды будзеш —
          я ў гэта веру —
упарта ісці наперад
і ў спёку,
і ў холад люты
па нівах,
дарогах
і трактах.

...Праз кожныя
               тры мінуты
сыходзіць
          з канвеера
                    трактар.



*Акумулятаршчык Ладзько Антон*
*расказвае пра дзіўны сон:*

— Прысніцца ж вось такое:
нібыта раніцой
іду я зноў у школу
сцяжынкай палявой.
Пяе жаўрук над полем,
над свежаю раллёй.
Мне — дзесяць год, не болей,
п'ю веснавы настой,
любуюся наўколлем,
абуджанай зямлёй.
І хочацца сваволіць
пад сонечнай страхой:
каменьчыкі футболіць...
Ды бачу прад сабой
сляды рубчастых колаў
на ўзбочыне сырой —
знаёмы мне да болю
у «елачку» узор.

Куды пайшла машына
ад свежых шчэ разор?
За гарызонтам сінім
нібы гудзе матор...
Услед па каляінах,
па поплаве,
                    паўз бор,
па ўзгорках і далінах
бягу, бягу ў прастор.
Пінжак і шапку скінуў,
узлез на касагор
і бачу ўсю краіну
ад мора і да гор.
Па ёй праклаў след шыны
трактар «Беларусь».

Увішны і заўзяты,
ён хлебаробам —
                              друг,
на станы і брыгады
прыходзіць у пару.

Дзе глебы пласт пухнаты
плугі яго ўзаруць,
там не памруць зярняты —
ўсе густа прарастуць,
там ураджай багаты
працаўнікі збяруць,
у юртах, саклях, хатах
хлеб ляжа на абрус,
і сыдзецца на свята
вялікая радня...
Прабачце, што з слядамі?
Згубіліся ў палях?
Не!
Трактар усё далей
вядзе свой слаўны шлях,—
за сінімі марамі,
за белымі гарамі
працуе наш зямляк.
Жывуць у дружбе з намі
карэец, чэх, славак,
в'етнамец, егіпцянін,
кубінец і паляк.
Бягу мацерыкамі
за сіні далягляд,
як глобус,
пад нагамі
верціцца Зямля.
Вітаюся з сябрамі,
гукаю ім здаля:
— Уласнымі рукамі
сабраў вам трактар я.
Няхай на вашым полі
працуе добра ён!

...Прысніцца ж вось такое.
А мо гэта — не сон?

**2. Чытае вершы Броўка**

Рабочыя ў спяцоўках
забылі пра абед,—
чытае вершы Броўка —
народны паэт.

Сюды, у цэх, не госцем,
а як старэйшы брат,
прыйшоў да маладосці
герой і дэпутат.

На ясны лоб маршчынамі
ляглі гады.
Як снег, яго чупрына,
а голас малады.
І не пра старасць вершы —
пра звон
юнацкіх дзён,
пра дапатопны першы
трактар той «Фардзон»,

што па зямлі ушацкай
даўным-даўно,
вясной,
на колах на зубчастых
каціўся навіной.

Пісаў ён на палосах
вячыстыя радкі.
А з трактарыста босага
кпілі кулакі:
— Ну рыхцік,
як нячысцік...
— Чарней за ўсіх чарцей...

— Глядзі,
падсмаліць кіпці
табе жалезны змей...

З усмешкаю вясёлай
праз дзікі гік
і свіст
барозны вёў да сонца
босы трактарыст.

Узяў на свае плечы
ён клопаты сяла,
каб Беларусь галечай,
галоднай
не была.

І не падвёў!
Адолеў
дзірван,
бядоту,
гнеў.
Сілаї маладою
рунеў
яго пасеў.

А сёння — выйдзі ў поле,
на ніў прастор зірні:
наліўся зернем колас,
над ветрыкам звініць...

Звініць паэта голас
у звонкай
цішыні.
Рабочыя ў спяцоўках
забылі пра абед,—
чытае вершы Броўка —
народны паэт.

**3. Ода трактарнаму заводу**

Настоі хваёвы і жалеза пах
змяшаліся ля прахадной завода.
І сэрца б'ецца радасна ў грудзях
заўжды, калі ўдыхаю гэты водар,
калі гляджу на ўзнятую ў блакіт
эмблему вольнай працы —
Серп і Молат,
бы ў поціску сяброўскім дзве рукі
на векі вечныя з'ядналі з вёскай горад.



На тратуар кладуцца цені ліп,
пасаджаных далёкай той вясною,
калі ты нараджаўся, мой завод,
на ўлонні мірным маці-Беларусі.
Сын горада —
ты вырас і ўзмужнеў
і сам стаў горадам у горадзе сталічным,

падняў да неба гмахі карпусоў
і расцягнуў ушыркі веер вуліц,
сын горада
і вёсцы —
родны брат,
яе памочнік, верная апора
у паўсядзённых клопатах зямных,
у праведнай вайне за хлеб надзённы.



Гады плывуць і пакідаюць след
на аркушах гісторыі сусветнай,
малююць часу нашага партрэт,
малююць напава партрэт планеты.



Рабочым быць —
не толькі добра ўмець
рабіць табе даручаную справу.
Рабочым быць —
дастойна несці сцяг
эпохі самых велічных здзяйсненняў.
І мала ўмелых, працавітых рук,—
аб чысціні іх клапаціцца трэба,
каб не запляміць золата зары,
што новы дзень нашчадкам адкрывае.
І трэба мець шырокую душу,
і зрок глыбокі,
і цвярозы розум,
насіць у сэрцы столькі дабраты,
каб для сяброў тваіх яе хапіла.
І гэта ўсё ты мне даеш, завод,
не з літасці,
як жабраку падачку,
а так, як сыну ў рукі плуг дае
вясной на ворыве шчаслівы бацька:
з любоўю чыстай да сваёй крывінкі,
з павагай —
стаў на ногі чалавек,
з надзеяй —
будзе працаўнік руплівы
і з верай, што ў бядзе не павядзе.

◆

На трактар,
што з канвеера сышоў,
упэўнена садзіцца хлопец русы.
У грудзі вецер б'е тугім крылом,—
прынёс ён ад кагласных ніў шырокіх
удзячнасць шчырую
і за цнату раллі,
і за цікаўнае блазенства руні,
і за цяжарнасць спелай збажыны,
і за сівое адрачэнне млива.
Адценняў гэтых розумам сваім
шчэ не спаўна спасцігнуў хлопец —
сэрцам
адчуў глыбока еднасць ён з зямлёй,
якой імя —
Савецкая Айчына.

◆

Заззяла золатам узнятая ў блакіт
эмблема вольнай працы —
Серп і Молат,
бы ў поціску сяброўскім дзве рукі
на векі вечныя з'ядналі з вёскай горад.

◆

Плывуць у сквер пагодным веснім днём,
бы караблі,
дзіцячыя каляскі,
вязуць ружавашчокіх немаўлят
у гавань цішыні,
азону,
сонца.
Пад чыстым небам добра ім ляжаць,
смактаць праз соскі малако густое,
ад сонца жмурыцца і слухаць за кармой
вятроў пралётных песню-калыханку.
...Гляджу за васільковы небасхіл,
хачу разгледзець дзень малютак гэтых,
жадаю ім:
«У шчасці і красе
расці, працяг дынастыі рабочай!»

◆

Гады плывуць
                    і пакідаюць след
на аркушах гісторыі сусветнай,
малююць часу нашага партрэт,
малююць нанава партрэт планеты.

◆

А вечарам на зыркае святло
ідуць дзяўчаты ў свой Палац культуры.
Чакаюць ля ўвахода хлопцы іх,
бяруць каханак беражна за рукі,
вядуць у залу,
нібы каралеў,
каб закружыцца ў танцы бесклапотным.
Са светлай зайздрасцю на іх глядзяць,
галовамі ківаюць ветэраны:
«Як хутка дзеці нашы падраслі!
А ці ж даўно былі такімі самі?..
Такімі? Не!
                    З-пад саламяных стрэх
прыехалі мы ў горад на будоўлю.
Яны ж —
                    народ ад роду гарадскі,
нашчадкі нашыя,
                              рабочы клас патомны».

◆

Настой хваёвы і жалеза пах
змяшаліся ля прахадной завода.
І сэрца б'ецца радасна ў грудзях,
калі ўдыхаю гэты родны водар.

**Эпілог**

Бяжыць,
                    бяжыць насустрач лету
зеленакосая вясна.
Па партызанскаму праспекту
да нас у Мінск прыйшла яна:

з усходу сонейкам заззяла,
дыхнула цёплым вецярком,
туманамі снягі злізала
і зазвінела жаўруком
над полем каля Серабранкі,
што ўжо і полем не назваць,—
электразваркі там заранкі
ад ранку дружна зіхацяць;

прысады промнямі сагрэла
і выгнала з пупышкі ліст,
у лесапарк памаладзелы
вярнула грай,
птушыны свіст;

на дзень суботні ў ціхіх скверах,
дзе садзяць дрэвы і кусты,
дазволіла пенсіянерам
заняць камандныя пасты;

прагнала з сэрца сум і стому,
з дарог дажджамі змыла бруд
і пераможным залпам грому
ўрачысты пачала салют
у гонар вечнага імкнення
ўсяго жывога на зямлі
да барацьбы за абнаўленне,
за новых сіл густы прыліў,
за новай яснасці світанні,
за поўныя здзяйсненняў дні,
за прыгажэйшыя жаданні,
за песні лепшага гучання,
за мар ярчэйшыя агні.

Эх, мары, мары!
Вы — не знічкі,
народжаныя раз мільгнуць,
вы больш падобны на крынічкі,
што рэчкам сілу надаюць.

Вы — промні першыя світання,
вы — іскры ціхія, з якіх
успыхне яркае каханне —
пачатак добрых спраў людскіх.

Без вас жыццё нібыта ў хмарах,
а правільней —
няма жыцця...
Гарыце ж,
не згасайце,
мары,
вядзіце ў сонечны працяг!

*1973—1974*

# БІЯГРАФІЧНАЯ ДАВЕДКА

Хведар Дзмітравіч Жычка нарадзіўся 20 сакавіка 1927 года ў вёсцы Марс Жлобінскага раёна Гомельскай вобласці.

У 1944—1951 гг. служыў на Балтыйскім Ваенна-Марскім Флоце. Потым працаваў літработнікам у рэдакцыях газет «Чырвоная змена», «Піянер Беларусі», адказным сакратаром рэдакцыі часопіса «Бярозка», рэдактарам, загадчыкам рэдакцыі выдавецтва «Беларусь», галоўным рэдактарам газеты «Літаратура і мастацтва». З 1976 г.— старшы рэдактар выдавецтва «Мастацкая літаратура».

Член КПСС. Узнагароджаны ордэнам «Знак Пашаны» і медалямі.

У 1959 г. скончыў Літаратурны інстытут імя А. М. Горкага.

Першыя вершы апублікаваў у 1947 г. Аўтар зборнікаў вершаў «Стой на вахце, сэрца» (1961), «Росныя лілеі» (1965), «Настой» (1968), «Абеліск» (1973), «Абавязак» (1978) і паэмы «Партызанскі праспект» (1975). Піша таксама і прозу. Выйшлі аповесці для дзяцей «Каштанавы «Масквіч» (1959), «Піфагоравы штаны» (1961), «Зброю бяруць сыны» (1964), «Дзе растуць бяссмертнікі» (1967), «Дзень будзе ясны» (1981), зборнікі апавяданняў «Паспелі суніцы» (1966), «Букет вяргіняў» (1970), «Спагадлівыя людзі» (1977) і інш.

Працуе і ў галіне мастацкага перакладу. На беларускую мову ім перакладзены творы А. Міцкевіча, А. Пушкіна, Л. Украінкі, І. Франка, Я. Райніса, М. Някрасава, вершы сучасных рускіх, украінскіх, літоўскіх, чэшскіх і славацкіх паэтаў.

ЗМЕСТ

## Вершы

### З кнігі «Стой на вахце, сэрца», 1961



### З кнігі «Росныя лілеі», 1965

**З кнігі «Настой», 1968**



**З кнігі «Абеліск», 1973**

**З кнігі «Абавязак», 1979**

**Паэмы**

**Жычка Хв.**

Ж 94 Карэц калодзежнай вады: Вершы і паэмы.— Мн.: Маст. літ., 1983.— 238 с., іл.

У пер.: 1 р. 60 к.

Кнігу склалі лепшыя творы паэта з раней выдадзеных зборнікаў «Стой на вахце, сэрца», «Росныя лілеі», «Настрой», «Абеліск», «Партызанскі праспект» і «Абавязак».

Аўтар апявае любоў да роднай зямлі, стварае паэтычны вобраз нашага сучасніка — чалавека высокага грамадзянскага абавязку.

Ж $\frac{4702120200-028}{М302(05)-83}$ 126—83

ББК 84Бел7
Бел2

ФЕДОР ДМИТРИЕВИЧ ЖИЧКА

**Корец воды из колодца**

Стихи и поэмы

Минск, издательство
«Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

Рэдактар
Р. І. Барадулін
Мастак
П. М. Драчоў
Мастацкі рэдактар
Л. Я. Прагін
Тэхнічны рэдактар
Т. М. Сокал
Карэктар
Т. В. Трубач

ІБ № 1798

Здадзена ў набор 23.07.82. Падп. да друку 23.12.82. АТ 06619. Фармат 84×90 1/32. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 10,50. Ум. фарб.-адб. 11,9. Ул.-выд. арк. 11,95. Тыраж 4000 экз. Зак. 2816. Цана 1 р. 60 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа, 220005, Мінск, Чырвоная, 23.